# Традыцыйны вечар

Я канчаткова састарэў. Сорак. Далей няма куды. Калі б было магчыма, я спыніўся б у трыццаць ці трыццаць пяць. І кропка. Ні з месца. Аднак лёсу наканайму, гэтак жа, як, бадай, і многім іншым, наканавана старэць паступова. І невядома, калі настуніць апошняя хвіліна. У кожнага яна свая. Хоча чалавек таго ці не. Мой дваццацігадовы сын Лёшка сцвярджае, што я яшчэ доўга працягну. Я разумею яго. У адваротным выпадку нашчадку давядзецца здабываць на цыгарэты, кіно, тэатр і іншае дзе-небудзь у іншым месцы. Без бацькоўскай кішэні справа гэта для яго цяжкая, калі і зусім не безнадзейная.

Гэта я пачынаю бурчэць. Дакладна гэтак жа, як калісьці мой бацька бурчэў на мяне. Таму што гэта закон — да бацькоў непазбежна прыходзіць старасць і яны пачынаюць бурчэць. Майму бацьку было лягчэй. Ён старэў у першай палове дваццатага стагоддзя, я — у другой.

Ёсць яшчэ адна прыкмета майго паступовага старэння. Я заўважыў, што перастаю сачыць за сваім знешнім выглядам — купляць модныя гальштукі, класці ў нагрудную кішэню пінжака — і хто гэта прыдумаў?! — насоўку, апранаць кашулі, якія хоць бы крыху адпавядалі колеру касцюма, і іншае. У дні, калі адбываюцца прэс-канферэнцыі і розныя прэм'еры, дзе мне неабходна прысутнічаць у якасці тэатральнага крытыка, за маім туалетам сочаць жонка і дачка. Асабліва назаляе дачка. Яна бязлітасная. Ёй васемнаццаць, і носіць яна кароткую

спадніцу і бліскучыя боты ледзь не вышэй калена. Яе маці носіць спадніцу крыху даўжэйшую, але боты ў яе дакладна такія ж. Калі я гляджу на дачку, мне нязменна прыходзіць у галаву адна і тая ж думка: «А яна, пэўна, з некім ужо цалуецца. І не пэўна, а дакладна!»

— Тата,— гаворыць дачка,— у тваім узросце кіназоркі выглядаюць, як юнакі. Да таго ж ты пачынаеш тлусцець...

— Яго давядзецца пасадзіць на дыэту,— падтрымлівае яе маці.

Я іду ў наступленне:

— Твае кіназоркі ў сорак гадоў жэняцца на васемнаццацігадовых. Можа, мне паслаць вас да д'ябла і зрабіць тое ж? Я адразу памаладзею.

Мае жанчыны бяруць тайм-аўт. Робяць гэта яны вельмі проста. Пачынаюць маўчаць.

Нарэшце ўсё скончана. Я пачынаю хадзіць па кватэры ў чаканні, пакуль застануся ў ёй адзін. Я ведаю, што будзе далей. Праверу для вернасці, ці сапраўды пайшлі ўсе, прысяду за пісьмовы стол, дастану блакнот, падрыхтую паперу і буду пакутаваць у пошуках першай фразы. Першая фраза доўга не будзе давацца мне, і я пачну займацца зусім непатрэбным — перастаўляць кнігі на паліцы, яшчэ нейкія рэчы... Толькі потым вярнуся да стала і пачну працаваць. Гэту аперацыю я раблю вось ужо дваццаць гадоў. З таго самага дня, калі прывёз у цесны пакойчык з дзіравай столлю свайго бясконца крыклівага сына з радзільнага дома і праз гадзіну ўжо стаяў, пераступаючы з нагі на нагу, у рэдакцыі газеты. Там мне паказалі на стары пакарабачаны стол і сказалі, што іменна за ім мне прыйдзецца працаваць. З самага пачатку ў мяне не ішла першая фраза. Я шукаў яе ўсюды. У час вячэрніх заняткаў ва універсітэце, у трамваі, ноччу, супакойваючы сы-

на. Іншыя фразы таксама не вельмі ішлі, але з імі можна было мірыцца. Так ва ўсякім разе рабіў рэдактар.

З таго часу я набіў руку, думкі і радкі сталі гладчэйшыя. Але над першай фразай я пакутую падоўгу і нярэдка беспаспяхова.

Ёсць! Я пачынаю хутка пісаць, баючыся адстаць ад думак. Потым, калі хоць крыху саб'ешся, шукай згубленую саломінку... Я пішу і баюся аднаго — тэлефона. Калі ён зазвініць, усё прапала. За стол мяне больш не загоніш. І потым я ўжо не прымушу сябе «разбіць» ушчэнт спектакль, пастаўлены адным вядомым рэжысёрам. Спектакль атрымаўся шэры, як і ўсе апошнія спектаклі рэжысёра. Але яго хвалілі, памятаючы пра высокае званне, а ў кулуарах моўчкі разводзілі рукамі.

Ад спектакля да спектакля я назапашваў у сабе злосць, каб выліць яе ў рэцэнзіі. Мне вельмі хацелася разбіць ушчэнт рэжысёра. Але варта было ўявіць яго магутную, крыху сутулую фігуру, сівыя абвіслыя вусы і агеньчык у вачах, здольны выплеснуцца на субяседніка полымем слоў, і я замыкаў сарказм у сейф маўчання, захоўваючы яго для самай галоўнай рэцэнзіі.

І тэлефон зазвінеў. Я падбягаю да яго, рэзка здымаю трубку. Вядома, гэта ён. Неяк я меў неасцярожнасць пакінуць яму свой нумар на шматку паперы. Я зрабіў гэта, спадзеючыся, што паперку ён згубіць і...

— Слухай, гэта цягнецца ўжо цэлы год,— гаворыць ён.— Год ты абяцаеш прыйсці.

Я выкладваю свае былыя надзеі наконт шматка паперы з нумарам тэлефона, але ён парыруе, маўляў, на рынгу ў яго не зусім адбілі памяць, крыху пакінулі, а тую паперку ён спецыяльна выкінуў і трымае мой нумар тэлефона ў самай галоўнай сваёй зві-

ліне. Я ўяўляю яго перабіты баксёрскі нос, сівую галаву з залысінамі і вялізную ручышчу, якая сціскае тэлефонную трубку. Я ўсміхаюся і пачынаю радавацца ягонаму званку. З рэцэнзіяй на сёння скончана. Я ў гэтым упэўнены, але гавару:

— Ты заўсёды звоніш своечасова. Я працую.

— Зноў крэмзаеш,— уздыхае ён.— Усё ў тваіх рэцэнзіях завельмі разумна. Разумней, чым у п'есах, і гледачу на іх напляваць. Ён сам ва ўсім разбіраецца і любіць свежае, неперажованае мяса.

Гаворыць ён гэта ў тысячны раз, і я нават не імкнуся пратэставаць. Я пытаюся:

— Што яшчэ?

— Яшчэ ў цябе непазбежна пачнецца адна хвароба. Ад сядзення на крэсле без падушачкі. Прыйдзеш ці не? — зноў пытаецца ён жалезным голасам.

— Калі? Можа, сёння? — пытаюся я і думаю, што цяпер ён не адкруціцца. Мусібыць, ляжыць дома на канапе і ад суму зрэдку пазвоньвае сябрам, у тым ліку і мне.

Але не такі Борка Гнед, мой былы аднакашнік, былы вядомы баксёр і цяперашні вядомы трэнер.

— Іменна! Сёння! — крычыць ён чамусьці ўзрадавана.— Ты мог калісьці стаць нядрэнным баксёрам. Я дапамагу табе.

Я гавару ў трубку:

— Я еду...

— Праз паўгадзіны ў мяне трэніроўка. Якраз паспееш да пачатку.

Я кідаю трубку, сумна гляджу на пустыя белыя аркушы паперы. Што ж, рэцэнзію прыйдзецца пісаць заўтра. Гэта значыць — пад'ём у шэсць раніцы. Аднак думкі мае ўжо ў другім месцы. Я адчуваю, як свярбяць мае рукі, сумуючы па пальчатках, і паторгваюць ногі. Усё ж Борка мае рацыю, форму страчваць нельга.

Хутка паклаўшы ў партфель трэніровачны касцюм і мае разбітыя ўшчэнт кеды, я збягаю ўніз па лесвіцы, уяўляючы, як будуць уражаны мае хатнія.

Я выбягаю на вуліцу і пачынаю шукаць вачыма зялёны агеньчык таксі, як раптам чую знаёмы рогат.

— А ты рашучы,— смяецца Борка.— Раз-два, і гатовы.

Я стаўлю партфель на тратуар і гавару:

— Як гэта я, стары дурань, мог даверыцца такому тысячу разоў праверанаму ёлупню. Лысіны б пасаромеўся...

— Ну, ну,— Борка гладзіць мяне па галаве,— інакш бы я цябе не выцягнуў. Ты забыўся, якое сёння чысло! І дзень які!

Я чамусьці гляджу на гадзіннік і пытаюся:

— А што?

— Традыцыйны вечар у школе, стары!

— Які вечар? Школу сто гадоў назад знеслі.

— Яно сапраўды,— гаворыць Гнед,— той будынак знеслі, а вучацца ў другой, новай. Туды і пойдзем.

— А партфель? Зойдзем да мяне?

— У школу належыць з'яўляцца з партфелем, асабліва нудным крытыкам.

— Добра,— згаджаюся я, і мы ідзём па вуліцы.

— Шчыра кажучы, я баяўся, што Людміла цябе не адпусціць. Вось і давялося хлусіць.

— Няма яе. Пайшла ў клініку на дзяжурства. Дарэмна стараўся.

— А дзеткі, як яны без таткі?

Гнед іранізуе. Ён ажаніўся сем гадоў назад, і дачка ў яго, як кажуць, пад сталом пешшу ходзіць.

— Зніклі. Прыфранціліся і разам пайшлі. Студэнты... Я за іх не хвалююся.

Каля школы мы тушым цыгарэты і папраўляем

гальштукі. Школа новая і строгая. Зусім не падобная на нашу, старую і занядбалую.

— Наперад, прэса! — падбадзёрвае мяне Борка і, перш чым штурхнуць дзверы, упіхвае ў партфель дзве бутэлькі шампанскага. Я не пярэчу, і мы ўваходзім у школу. Вітаемся з маладзенькай дзяўчынай, відаць, піянерважатай.

— Вы таксама выпускнікі? Нашы? — яна здзіўлена глядзіць на нас.

— М-м,— гавару я.— Не вашы, а з другой школы. Нашу, разумееце, знеслі... І цяпер наша ў вашай. Гэта вось ён так гаворыць,— я паказваю на Гнеда.

— Праўда, перанеслі,— не вельмі бойка падтрымлівае мяне Гнед.— Нас сёння тут будзе шмат. Паўгорада.

Дзяўчына не гаворыць ні слова, і мы важна праходзім міма. Няўжо і праўда збярэцца старая школьная гвардыя?.. Перарасткавая гвардыя. Нас так называлі. Таму што была вайна і нам, эвакуіраваным разам з маці і сёстрамі глыбока ў тыл, прыходзілася суткамі працаваць. Якая там вучоба! Толькі пасля вызвалення роднага горада вярнуліся мы ў школы і заселі за цесныя парты.

Раптам я адчуваю, што на мяне нехта глядзіць. Я паварочваюся, і мяне пачынае ліхаманіць ад радасці. Наташка! Стаіць у дзвярах — маленькая, худзенькая, як і раней, і разгублена абводзіць вачыма стракатую групку школьнікаў. Борка плюскае вачыма і чакае, што я першы падыду да Наташкі. Асёл з пудовымі кулакамі. Ён калісьці не зводзіў з яе вачэй, і мне прыходзілася на перапынках перадаваць Наташцы Борkaвы запіскі. Папярэдне іх трэба было падоўгу рэдагаваць, і сваёй прафесіяй я абавязаны перш за ўсё Гнеду. Потым Борка стаў вельмі вядомым, і Наташка, не чакаючы яго, вый-

шла замуж за другога, зусім не нашага хлопца. Калі Борка схамянуўся і зразумеў, што адбылося, у Наташкі было ўжо дзве дзяўчынкі.

— Наташка! — крычу я і іду да яе.

Наталля Мікалаеўна Пегіна жмурыцца і толькі цяпер пазнае мяне. Я цалую яе ў шчаку і мармычу:

— Ты такая ж замухрышка. Я думаў, саліднай стала.

Яна не крыўдзіцца і не цягае мяне за валасы сваімі тонкімі і доўгімі пальцамі. Яна гаворыць:

— Жывём у адным горадзе. І столькі не бачымся. Пэўна, гадоў сем...

— З таго часу, як знеслі школу.

— А паштоўку нехта прыслаў. «Наталля Мікалаеўна, просім прыйсці на традыцыйны вечар. Група выпускнікоў, вашых таварышаў...»

Я гляджу на Гнеда і па яго выгляду здагадваюся, што «групу выпускнікоў» ён прадстаўляе ўласнай персонай.

Пасля мы ўсе разам ціскаем у абдымках самага грознага ў мінулым класнага балбатуна Ягора Рубашкіна. Ніводнай гісторыі ён не мог расказаць, не пераставіўшы ўсё з ног на галаву. Цяпер Рубаха зрабіўся разы ў два шырэйшы, чым усе мы разам узятыя, і гаворыць ён развіажліва, спакойна.

— Я думаў, жарт,— гаворыць Ягор.— Аказваецца, і на самай справе вечар. Прыйшоў.

Сабралася нас сем чалавек. Увесь касцяк і завадзілы. Астатнія ці то не знайшлі ў скрынках запрашальных білетаў, напісаных Боркам, ці то пасланні пайшлі па іншых адрасах.

Цеснай групкай мы пайшлі па школе. Яна была прасторная, чыстая,— адным словам, добрая школа.

— І ўсё ж у нашай было лепш,— уздыхнула Наташка.

— Хоць сыпалася са столі тынкоўка і ў класе пахла мышамі,— падтрымаў яе Рубашкін.

Зрабілася сумна. Я глянуў на сяброў і неяк адразу ўбачыў, што яны прыкметна пастарэлі. Нават больш, чым належала. І я быў такі ж, як яны. А туга прыйшла ад таго, што экватар пройдзены і далейшая дарога ўжо будзе пад ухіл.

— Школу знеслі, настаўнікаў рассарціравалі па іншых школах,— сказаў Дзімка-стаматолаг.— А яшчэ па класах. Уявіце нашага Сургуча, калі ён стаіць у чарзе за пенсіяй. Або матэматычку? Калі наогул ім патрэбна пенсія...

Словам, настрой у нас знік, і мы адчулі сябе ў гэтай вычышчанай да бляску школе сіратліва. Міма праходзілі акуратненькія хлопчыкі і дзяўчынкі. У школе было толькі некалькі выпускаў, і былыя яе вучні адчувалі сябе мудрымі старцамі і нават курылі ў калідоры, паказваючы сваю поўную незалежнасць ад настаўнікаў.

— Дарэмна я гэта прыдумаў,— расчаравана сказаў Гнед, які да гэтага часу маўчаў, нібыта вады ў рот набраўшы.— Хто мы тут і што рабіць будзем? Можна пайсці ў рэстаран. Побач нядаўна новы адкрыўся, вельмі прыемны рэстаран...

Мы запытальна паглядзелі адзін на аднаго. І невядома, чым бы ўсё скончылася, калі б не празвінеў званок, які запрашаў усіх у залу. Нам нічога не заставалася рабіць, як пайсці... Неадольная сіла пацягнула нас у самы канец залы. Глядзелі на нас са здзіўленнем, як на экскурсантаў, што вечна з'яўляюцца знянацку.

Замухрышку, як звычайна, адцерлі, і яна згубілася. Я павярнуўся і пачаў шукаць яе вачыма. Але з гэтага нічога не выйшла. Мой позірк спыніўся на адным чалавеку. Ён быў неверагодна сівы і стары. Гэта быў ён, і ніхто іншы. Наш класны кіраўнік Кі-

рыла Трафімавіч Вагін, за смуглы колер твару і за пракураныя пальцы празваны «Сургучом». Мне здалося, што я чую яго голас: «Усё вы ў сваім сачыненні перакруцілі. Наташа Растова не такая. Не дай бог, каб яна была такой. Вы страшэнны фантазёр». Або: «Я не дазволю, Гнед, каб вы былі адпетым хуліганам сярод перарасткаў. Калі чэшуцца рукі, ідзіце ў гэты, як яго... бокс і біцеся там хоць цэлымі суткамі...»

Мяне пацягнулі за рукаў.

— Пойдзем. Знайшлася Наташка.

Гэта быў Борка.

— Ідзі да д'ябла,— прашаптаў я.— Сургуч...

— Сапраўды,— выдыхнуў Борка,— ён!

Усхваляваныя, мы пайшлі насустрач Кірылу Трафімавічу. Паклікалі яго. Ён адарваўся ад размовы, узняў вочы. Паглядзеў на Гнеда, потым на мяне. Разгублена заміргаў вачыма, як гэта робяць старыя, не ўмеючы схаваць хвалявання.

— Хлопчыкі...

Сургуч жвавенька выбраўся з групкі педагогаў. Па некалькі разоў мы цмокнулі яго ў вільготныя калючыя шчокі.

— Прыйшлі... Малайцы! — радуецца Сургуч і, не спыняючыся, працягвае: — Гадоў пяць таму назад я бачыў цябе па тэлевізары, Бора. Ты цудоўна перамог гэтага шведа. Я крычаў «ура!» і гаварыў усім, што чэмпіён — мой вучань. Але мне чамусьці ніхто не верыў. А рэцэнзіі твае, Колечка, чытаю пастаянна.

Сургуча паклікалі ў прэзідыум. Мы кіруемся да сваіх.

— Сургуч тут! — гаворым мы ў адзін голас, і ўсе войкаюць.

А яму не сядзіцца ў прэзідыуме. Вышуквае нас

па ўсёй зале. Нарэшце заўважыў. Гэта Рубашкін не вытрымаў і памахаў яму рукой. Сургуч заўсміхаўся.

Пасля выступлення дырэктара і запрашэння ў прэзідыум самых лепшых выпускнікоў слова даюць Кірылу Трафімавічу:

— Я шмат гадоў працаваў у адной школе. Адразу пасля вайны. У старой і маленькай. Да мяне прыйшлі вучні. Яны прыехалі прама з эвакуацыі. У іх былі мазалі на руках, і яны ўсё пазабывалі. Потым школу знеслі... Вы ўсе з гэтай новай і прыгожай школы і таму прабачце мне. Я заўсёды лічу самай роднай тую школу, і яе вучні для мяне самыя родныя вучні. Яны былі маёй маладосцю, а я — іх юнацтвам. Цяпер яны тут, мае хлопчыкі. Я папрашу іх у прэзідыум!

Зала апладзіруе. Адзін за адным мы ідзём у прэзідыум. Відаць, з боку гэта выглядае смешна. Дзядзькі ідуць услед за маленькай цёткай, Наташкай-замухрышкай.

Аб нечым пачынае гаварыць са сцэны Рубашкін. У школе ён раптам зноў ператварыўся ў нястрымнага гаваруна, і яго не спыніць. Рубашкін стракоча, як малатарня.

— Паслухайце,— змоўніцкім тонам шэпча нам з Боркам Сургуч.— Прызнайцеся, вы палілі паперу ў парце?

Мы пераглядваемся. Той выпадак да гэтага часу памятае кожны з нас.

— Не,— крыху абурана гаворыць Гнед.— Кухня ўнізе прагарэла...

— І мы таксама,— гавару я, і мы заходзімся ад смеху.

Потым мы выступалі. Адзін за адным. Гаварылі нешта доўга і нудна. Нарэшце нас адпусцілі са сцэны, і Борка, успомніўшы пра шампанскае ў маім партфелі, кінуўся ў гардэроб.

Пілі мы па чарзе прама з рыльца бутэлькі, зачыніўшы дзверы на крэсла ў адным з класаў. Мы страшэнна баяліся за Сургуча — раптам хто-небудзь уварвецца. А ён смяяўся:

— Я на пенсіі. Замяняю іншы раз настаўнікаў, ды і так прыходжу. А вы малайцы, што адшукалі мяне і школу. У адным жа горадзе жывём...

Нам становіцца сорамна. Мы нават не ведалі, ці жывы ён, наш Сургуч. Мне ўспомнілася раптам, што жыве ён адзін. Жонка памерла ў вайну, дачка згубілася. Вярнуўшыся з фронту, ён яе так і не знайшоў.

Мы доўга ходзім па вуліцах і адчуваем, што разысціся нам немагчыма. Дайшлі да дома Сургуча.

— Сварыцца будуць суседзі. Зноў у цемры штонебудзь перакулю...

Нам зноў стала няёмка. На гэты раз за свае ізаляваныя, адгарнітураныя кватэры. А ён і цяпер жыве ў агульнай і нікому не патрэбен. Нават нам, якія абавязаны яму многім. Мы ж толькі ўспаміналі аб ім. І ўсё. Цяпер ён даў нам яшчэ адзін урок.

«Заўтра ж пайду ў гарсавет»,— вырашаю я.

Ноч. Наперадзе ідуць юнак і дзяўчына. Юнак мне незнаёмы, а дзяўчына — мая дачка. Ідуць і маўчаць, а калі і гавораць, то зусім ціха. «Вельмі ўжо ён доўгі і худы. Сутулы!» — думаю я і пераходжу на другі бок вуліцы.

У спальні святло. Жонка не спіць. Я гляджу на яе і бачу, якая яна яшчэ маладая. Я люблю яе ніколькі не менш, чым калісьці. Я падумаў пра гэта і здзівіўся — даўно мне не прыходзіла ў галаву падобная думка.

— Са школы я. З вечара,— мармычу я.— З Сургучом з рыльца пілі шампанскае. А яшчэ я гэтага

масцітага разнясу ў пух і прах. Губляць мне няма чаго. Я прама са школы, і ў мяне ўсё наперадзе.

Мне хочацца сказаць ёй яшчэ, што за некалькі гадзін я памаладзеў гадоў на дваццаць. Але я гэтага сказаць не паспяваю і сваіх апошніх слоў таксама амаль не чую... Я радасна і спакойна засынаю. Даўно я так не засынаў.

# Так проста

Яна была масквічкай. Працавала ў тэатры. Пасада называлася неяк дзіўна, і Сізоў не стаў перапытваць. Ён ні разу не быў у Маскве і ў тэатрах сама не быў. Тэлевізар не ў лік. Гэта ён зразумеў, калі яна расказвала аб грымёрных, рэпетыцыях. Ён амаль увесь час маўчаў, а яна гаварыла. Яму не было чаго пра сябе расказваць: працаваў шафёрам у месцах, дзе страшэнны холад, людзі грубыя, як ён, або яшчэ горш, дзе плацяць добрыя грошы, але куды не кожнага загоніш.

— Ты некрануты, Сізоў,— гаварыла яна.— У табе няма фальшу, і гэта цудоўна. З цябе мог бы атрымацца добры акцёр. Нашым, хатнім інтэлігенцікам якраз і не хапае гэтай некранутай натуральнасці, а значыць, і таленту сапраўднага не хапае.

У яго ад гэтых слоў дух заняло. Сізоў ніколі і ні ад каго такіх слоў не чуў. Ён думаў пра тое, што ў жыцці ёсць шмат цудаў. І яму пашанцавала, што ён сустрэў яе. Пазнаёміліся яны ў Ялце. З ёй была яшчэ сяброўка. Таксама з тэатра. Толькі з лялечнага. Яны сядзелі ўдзвюх у рэстаране і пілі сухое віно. Сізоў трапіў з імі за адзін столік і адразу ж прапанаваў каньяк і зярністую ікру. Яны не адмовіліся, хоць пра сябе і паздзекаваліся з яго манеры трымацца. Яны смяяліся ўголас, гледзячы, як Сізоў трымае кілішак, такі маленькі ў яго руцэ. Здавалася, што Сізоў вось-вось раздушыць яго. Сізоў даў ім пакратаць сваю руку — яна была цвёрдай і жорсткай, як дрэва.

Пагулялі яны добра. Сізоў грошай не лічыў. Потым ён праводзіў дзяўчат, а сам вярнуўся ў пакойчык, дзе стаялі два заржавелыя веласіпеды і пахла непрасушанымі анучамі. Ён шкадаваў, што паехаў у Ялту адзін і ніхто цяпер на ўсёй трасе не паверыць яму. Засмяюць хлопцы, калі скажа, што правёў вечар з дзвюма амаль актрысамі з Масквы і што назаўтра ў яго было спатканне з сапраўднай прыгажуняй з сапраўднага тэатра, якую завуць Анастасіяй.

— Прыедзеш да мяне ў Маскву, я зваджу цябе ў тэатр,— гаварыла яна яму на пляжы.— Ты ўбачыш, як гэта цудоўна. Нічога ў жыцці не бывае лепш за тэатр. А цяпер пайшлі да цябе. Мне тут надакучыла.

Сізоў ішоў побач з ёй і думаў, як паводзіць сябе, калі яны застануцца адзін на адзін. Ад гэтых думак у яго мурашкі па спіне бегалі і язык дранцвеў. Па дарозе ён купіў бутэльку сухога віна і цукерак.

Яна сядзела насупраць, курыла цыгарэту за цыгарэтай і піла віно. Яна расказвала яму пра сваіх знаёмых, вядомых пісьменнікаў і акцёраў. Некаторыя прозвішчы Сізоў чуў, праўда, не ўсе. Потым яна сказала, што ён сядзіць вельмі далёка ад яе, што ён наіўны і сціплы, як хлопчык, а на самай справе ўсё намнога прасцей.

Калі яны праз некалькі гадзін ішлі ад яго, яна зазначыла:

— У цябе выдатная фігура, Сізоў. Амаль грэчаская. Але нельга хадзіць на пляж у бастонавых штанах і кашулі, у якую мядзведзь можа залезці.

Яны пайшлі на барахолку, і ён купіў сабе джынсавы касцюм за 150 рублёў, некалькі прыталеных сарочак. Калі ён надзеў усё гэта, яна сказала, што ён цяпер выглядае, як кіназорка з амерыканскага баевіка, толькі валасы ў яго коратка падстрыжаны, але гэта яму нават пасуе.

Яны зноў пайшлі да яго, а вечарам у рэстаране Сізоў сказаў ёй:

— Давай пажэнімся. У мяне грошы на кніжцы ёсць. Калі хочаш, у вячэрнюю школу пайду. Я ўсяго адзін год не дацягнуў. А там і ў інстытут.

— Гэта цудоўна, Сізоў. У нас будуць моцныя, здаровыя дзеці. Я згодна. Жыць будзем у Маскве. У мяне аднапакаёвая кватэра ў самым цэнтры.

Сізоў потым усю ноч не спаў. Ён курыў і варочаўся на ложку да самай раніцы. Гэта цудоўна, што ён паехаў у Ялту, а не ў Сочы (туды ехалі яго хлопцы). Там бы ён не сустрэў Анастасію. Сізоў успамінаў усіх, хто быў у яго да яе. Гэта былі дзяўчаты з такімі ж грубымі і дужымі, як у яго, рукамі, і любоў іх была такой жа грубай. Анастасія іншая. Ён уявіў, што хоча расказаць сваім хлопцам пра яе, але не мог знайсці слоў.

— Ты можаш павіншаваць нас,— сказала яна сваёй сяброўцы з лялечнага тэатра.— Мы вырашылі пажаніцца.

Сяброўка павіншавала іх на пляжы, а потым, у рэстаране, таксама павіншавала.

— Ты прыедзеш да мяне ў Маскву, і мы ўсё абмяркуем,— гаварыла Анастасія на развітанне.— Пісьмы пішы мне да запатрабавання. Суседзі са скрыні могуць выцягнуць. Ты мне часта пішы. Мне будзе здавацца, што ты побач.

Сізоў напісаў ён некалькі пісьмаў, але адказу не атрымаў. Праз паўгода ён папрасіўся ехаць у Маскву атрымліваць новыя ЗІЛы. Ён адшукаў яе ў тэатры па тэлефоне. Анастасія вельмі здзівілася, пачуўшы яго голас.

— Я пісаў табе пісьмы, але адказу не было,— сказаў ён.

Яна засмяялася.

Мілы Сізоў! Я ўжо нават твар твой забыла.

Няўжо ты не разумееш, што ўсё было проста так, курортны флірт, не больш. У мяне ёсць муж, сын вучыцца ў першым класе. Не засмучайся, ты ж мужны і дужы.

Праз два месяцы Сізоў ажаніўся з Варкай, афіцыянткай са сталовай. Гаварылі, што да яго яна блыталася з канапатым Васюковым, бульдазерыстам з чацвёртага ўпраўлення, але Сізова гэта не спыніла. З ім Варцы нядрэнна жылося — мужык ён быў лагодны, неблагі, асабліва не піў і грошай у дом шмат прыносіў. Толькі адна дзіўная рыса была ў яго — калі па тэлевізары ішоў тэатральны спектакль, ён крычаў жудасным голасам:

— Выключы!..

# Сустрэча

Цыгарэтны дым асядае ўсё ніжэй і ніжэй, дабіраецца да нашых твараў, робячы іх імглістымі, змешваецца ў шклянках з віном — то паўпустых, то зусім парожніх, то зноў напоўненых да краёў.

Я напружана ўглядаюся ў яго твар — шукаю ранейшага Ваську. Ад яго застаўся толькі маленькі, рассечаны папалам падбародак. Ён і зараз, калі Васька гаворыць, варушыцца, скача, але цяпер ад гэтага ўжо не смешна. Сам не ведаю чаму.

— Ты нядрэнна выглядаеш і ўладкаваўся таксама някепска,— гаворыць ён, выпускаючы густыя клубы дыму.— У мяне мэбля амаль такая ж. «Адмірал» называецца. І прыдумаюць жа?! Колькі [illegible] за ёй пабегаў! Уявіць не можаш. Як гаворыцца, на ўсе кнопкі націснуць давялося. Але затое жонка задаволена, і сам у хатняй утульнасці грэшнаму целу даеш спачынак.

— Сапраўды, адпачынак для нас з табой штука важная,— згаджаюся я.

— Ну, гэта ты кінь, да старасці нам далёка. Пра такіх, як мы, гавораць — «мужчыны ў саку». Я яшчэ многае хачу зрабіць. Так ужо бывае — калі на арбіту трапіў, пачынаеш круціцца са страшэннай сілай і імкнешся ў новы віток трапіць. А мяне цэняць. Толькі адно падводзіць — усё сам, сам... Кручуся, і дэталі паступова зношваюцца — то сэрца барахліць пачынае, то пячонку хапае. Падтрымкі няма. А без яе — сам ведаеш...

Дваццаць гадоў не бачыліся. Цэлая процьма ча-

су. Але пачакай, што гэта за час — дваццаць гадоў? Дробязь! Вось ты ўрываешся і кажаш, што знайшоў выйсце — можна раздабываць тытунь не з утаптаных у гразь недакуркаў. Тытунь, аказваецца, усюды — сухое лісце. І лепш за ўсё — лісце дуба. Дубы жывуць па сто гадоў, а значыць, курыць іх лісце не шкодна, а наадварот.

У мяне ад твайго адкрыцця дух перахапіла.

— Вася, га, Вася! Можа, давай напішам у газету? Няхай усе людзі лісце дуба скурваюць, а не толькі мы з табой!

Ты махнуў рукой:

— Глупства! Бацька адразу зразумее, што да чаго, і адлупцуе.

— Гэта ўжо факт! — згадзіўся я.— І мне дастанецца. Давай нікому не будзем гаварыць. На сабе выпрабуем. Толькі за чалавецтва крыўдна...

І мы, абліваючыся слязьмі, душыліся дымам, пакуль нас усё ж не злавіў на месцы злачынства твой бацька. З тыдзень пасля таго ў нас ныла месца ніжэй спіны.

Але ты не сумаваў. У цябе з'явілася новая ідэя. Неўзабаве ты падвёў мяне да з'едзеных іржой рэшткаў «опель-капітана» і сказаў:

— З гэтага запраста можна зрабіць самалёт! Толькі на крылах трэба намаляваць зоркі, інакш падумаюць, што фашысцкі. Усё ж «опель-капітан»...

Наш «опель» так і не паляцеў, але да цябе прыклеілася мянушка «лётчык». Хлопцы, старэйшыя і дужэйшыя, ужо не накідваліся на цябе з кулакамі, нават калі на тое і была прычына...

Мы п'ём віно, і курым ужо другую гадзіну, і гаворым аб «арбітах» і «сціранні дэталей». Я раптам высвятляю, што нечага не хапае ў тваім твары. Не ў рысах, іх не пазнаць зусім. Не хапае тваёй дудкі — маленькай і на дзіва напеўнай. Яна выразна ўяўля-

ецца мне і зноў вяртае цябе з далёкага, нерэальнага сну — дзяцінства.

Памятаеш, мы панадзіліся лазіць у калодзеж? Ён быў нейкім незвычайным для нашых драўляных мясцін — зроблены з велізарных бетонных кольцаў, з маленькімі металічнымі скабамі, што ўтваралі лесвіцу. Яна вяла далёка ўніз. На самым дне калодзежа быў устаноўлены нейкі механізм. Як нам хацелася пакратаць яго сваімі рукамі! Але варта было зазірнуць у калодзеж — дно здавалася маленькім чорным пятачком — і страх скоўваў нашу цікаўнасць. Тады ты дастаў з кішэні сваю дудку — іх у цябе было штук пяцьдзесят, але з гэтай ты не расставаўся ні на імгненне — і сказаў:

— Хочаце, я сыграю вам з самага дна!

І ты палез у калодзеж. Нам было так жудасна, нібыта мы былі на тваім месцы. Ты неўзабаве знік у чорнай яме, і мы пачулі гукі, якія несліся з-пад зямлі.

А потым, дні праз два ці тры, я сарваўся ў калодзеж і паламаў усё, што толькі можна было паламаць. Гавораць, пакуль бегалі за дарослымі, ты паліваў мой твар вадой і плакаў. Некалькі дзён урачы склейвалі мяне, заганялі ў рукі і ногі бліскучыя металічныя шыны. Калі я ачуняў, то адчуў неверагодны боль і страшна закрычаў.

І тут пад акном зайграла, заспявала на ўсе лады дудка. Я зразумеў, што не забудуся больш у чорным змроку. Кожную раніцу, калі мне страшна было расплюшчваць вочы, я чакаў цябе. І не толькі я. Уся палата, кульгаючы на мыліцах, імкнулася да акна, каб паслухаць тваю дудку.

— Я ведаю, чаго табе не хапае,— гавару я.

— Чаго ж? — яго бровы лезуць уверх.

— Тваёй дудкі.

Ён засмяяўся глуха і моцна заляскаў сябе па каленках.

— Памятаеш... «Дудкі не хапае!» Гэта ж трэба... У цябе заўсёды была цудоўная памяць. Гэта яшчэ раз пацвярджае маю думку. Рухацца табе трэба. А то ж засеў. Чаму?! Я чуў водгукі аб табе — разумнік, выдатны арганізатар...

— Пачакай ты!

Не, яго так проста не спыніш.

— Я, Сярожка, гэта не пакіну. Ты як сабе хочаш, але я бачу цябе на пярэднім сядзенні «персаналкі», ведаеш, такой, з серабрыстым адлівам...

Мы зноў курым. У горле рэзь ад дыму. Я падыходжу да акна. Унізе грукочуць трамваі, на брудна-шэрым снезе тоўпяцца прахожыя. Колькі часу мы размаўляем? Калі нарэшце ён паглядзіць на гадзіннік і пойдзе ўніз да сваёй «персаналкі»?

Чаму так марудна паўзуць хвіліны?

# Дарога

Палі наўкола загрувашчаны вялікімі і малымі камянямі самай рознай формы. За многімі з іх можна нават схавацца, стаўшы на поўны рост. Паміж камянямі вецер ганяе ва ўсе бакі пачарнелае лісце, што апала з рэдкіх бяроз. У аўтобусе ветру таксама прасторна. Ён праціскаецца ў шматлікія шчыліны, робіць скразнякі, завіхурваецца, а аўтобус, цяжка пыхкаючы, войкаючы, паўзе і паўзе па дарозе, усеянай лужынамі, якія нагадваюць азёры ў мініяцюры. Часам аўтобус узбіраецца на гару, і тады здаецца, што вецер вось-вось сарве яго з месца, узніме ў паветра і шпурне на камяні, што чарнеюць на полі.

Побач са мной, з краю, сядзіць бабуля ў паношанай, расшпіленай на ўсе гузікі ватоўцы. На ёй яркая ў клетку хустка, якая надзейна акаймоўвае зморшчаны твар. Я гляджу ў акно і слухаю нетаропкую старэчую гамонку.

— Вось так і езджу. Бяру катомкі ў рукі і ў дарогу. І ў аднаго сына трэба пабываць, і ў другога, і да дачок — дзве іх у мяне — таксама зазірнуць трэба.

— А яны ў розных месцах жывуць? — упершыню падаю я голас.

— Усіх па розных кутках параскідала. Старэйшы сынок у вялікім горадзе жыве. На самалётах лятае, што палі ўгнаеннямі пасыпаюць. Вялікі чалавек, паважаны. З усялякімі значкамі і іншымі медалямі. Малодшанькі брыгадзірствуе ў калгасе.

Таксама на жыццё не скардзіцца. У доме дастатак. Ну, а дочкі, вядома, усё больш па гаспадарцы. У адной мужык у афіцэрах, а ў другой — шэф-повар рэстаранны. Дзеці здаровенькія, што яшчэ трэба?

Яна ўздыхае і таксама глядзіць у акно, дзе папранейшаму гарэзлівы вецер разганяе апалае лісце...

— Шкада вялікая, што Васіль мой усяго гэтага не пабачыў. Памёр у самым росквіце. Ад работы, бедалага, надарваўся. Адна я з імі ваявала. Усякае было.

Яна зноў уздыхнула, відаць, успомніўшы нешта вельмі сумнае, і сцяла рот, схавала яго ў маршчынках.

Я пачаў падшукваць, што б гэта ёй сказаць, ды так і не падабраў патрэбных слоў. Дарэчы, яна іх і не чакала. Сядзела, гледзячы прама перад сабой, і ледзь чутна напявала нейкую незнаёмую сумную мелодыю. Мне здавалася, што яна наогул забылася і на мяне, і на гэты дабіты аўтобус, і на дарогу... Яна была вельмі далёка адсюль — хутчэй за ўсё, вярнулася на момант у маладосць. Праз некаторы час яна схамянулася, спытала ў мяне ў каторы ўжо раз:

— Ці хутка прыедзем?

— Хутка,— адказаў я.— Вельмі хутка. Праз паўгадзіны, а можа, яшчэ і раней.

— А я заўсёды дарогу любіла,— раптам сказала яна, усміхнуўшыся. На імгненне маршчынкі на яе шчоках зніклі. Але ўсяго толькі на імгненне. Варта было ўсмешцы згаснуць, і яны размясціліся на ранейшых, прывычных месцах.

— Чаму? — спытаў я.

— Калі ў дарозе, усе клопаты знікаюць. Можна ехаць і ні пра што не думаць. Так толькі ў дарозе бывае. А прыедзеш — усё спачатку пачынаецца.

Я хацеў спытаць, якія клопаты бываюць у яе

ўзросце, але яна зноў сцішылася і, не адрываючыся, глядзела ў акно.

— Цяпер да каго едзеце — да сына ці дачкі? — спытаў я.

Дзіўна, але ад гэтага пытання яна скаланулася, быццам я прынёс ёй велізарны боль. Позірк яе абвастрыўся, памаладзеў адразу на некалькі дзесяткаў гадоў, але адразу ж згас, стаўшы ранейшым, паўзатуманеным.

— Да малодшага еду,— сказала яна паспешліва і пачала сцягваць вузел на сваёй невялікай торбачцы.

Неўзабаве аўтобус спыніўся.

— Вось я і прыехала,— сказала яна і ўсміхнулася.

Я дапамог ёй вынесці торбу, мы развіталіся, і яна пайшла, ссутуліўшыся, па сцежцы, што бегла ўздоўж дарогі, міма высокіх дрэў. Шафёр, зірнуўшы на гадзіннік, падняў капот і пачаў корпацца ў маторы. Я вырашыў скарыстаць момант і закурыў цыгарэту.

— Па конях! — праз некалькі хвілін выгукнуў шафёр.

Я адшпурнуў цыгарэту ў траву і яшчэ раз паглядзеў услед сваёй спадарожніцы. Маленькая яе фігурка перасекла ўжо дарогу і набліжалася да жоўтага дома сярод дрэў. Я добра ведаў гэты дом. Гэта быў дом для састарэлых.

## Банальная гісторыя

Валевіч стаяў, заціснуты з усіх бакоў, у набітым аўтобусе. Людзі былі пахмурныя і маўклівыя. Валевіч чытаў газету або, дакладней, рабіў выгляд, што чытае. Вочы ў яго зліпаліся, і ён баяўся заснуць. Ехаць яму было яшчэ мінут сорак. Газета не дапамагала. Некалькі разоў галава Валевіча матнулася, як у п'янага. Ён вінавата паглядзеў па баках. Ніхто нічога не заўважыў. Усе астатнія былі ў такім жа стане. Выпадкова павярнуўшы галаву направа, быццам яго штурхнуў нехта з таго боку, ён убачыў яе. Яна ўсміхалася. Напэўна, заўважыла, што ён заснуў на імгненне. Валевіч адвёў ад яе позірк, але потым зноў павярнуў галаву ў яе бок. Калі б яму сказалі, што яна з'явілася з другой планеты, ён паверыў бы. Ён не мог адказаць сабе, у чым справа. Яна была не падобнай на ўсіх астатніх. Валевічу здалося, што ён бачыў недзе гэты твар, нават не бачыў, ён проста думаў аб ім. Ён глядзеў на яе ва ўпор. Такога з ім даўно не было, а можа, не было ніколі. Сэрца яго закалацілася так, нібыта ён закончыў марафонскую дыстанцыю.

І яна таксама на яго глядзела. Ён быў ускудлачаны, крыху ўжо старааваты, і твар у яго быў такі сумны, быццам ён не ўсміхаўся ніколі.

Здранцвенне прайшло ў Валевіча, калі ён зразумеў, што ў наступны момант яна можа знікнуць. Знікнуць назаўсёды. Гэтага нельга было дапусціць. Не звяртаючы ўвагі на незадаволеныя воклічы, ён пачаў прабівацца да яе бліжэй. Цяпер яму здалося,

што яна глядзіць на яго са здзіўленнем. Ну і няхай, вырашыў ён, няхай здзіўляецца або нават смяецца.

— Вы на якім прыпынку сыходзіце? — спытаў ён.

Яна сказала, што на наступным. Ён кіўнуў галавой: і я таксама.

Дзверы са скрыгатам расчыніліся, і ён, адпіхнуўшы некага, першым саскочыў на асфальт і падаў ёй руку.

Некаторы час яны ішлі моўчкі.

— Усё гэта дзіўна, вельмі дзіўна,— нарэшце сказала яна.— Нават неразумна.

— Так, я зараз буду гаварыць глупствы,— сказаў ён.— Але я хачу вас убачыць яшчэ раз сёння. Я проста не магу развітацца з вамі адразу, вы ўжо даруйце мне...

Калі ён прамовіў гэтыя словы, яму адразу зрабілася лёгка.

— Я ведала, што вы са мной загаворыце,— сказала яна,— я сама чакала гэтага.

Ён раптам засмяяўся ціхім шчаслівым голасам. І яна ўсміхнулася яму.

— Я ведаю непадалёку адно маленькае кафэ. Чамусьці ў ім ніколі не бывае людзей.

— Гэта проста цудоўна,— сказала яна.

Яны пілі кофе і глядзелі адзін на аднаго. Ён даведаўся, што яе завуць Таняй. Ён быў старэйшы за яе гадоў на дзесяць, і яму было няёмка называцца Аляксеем. Яна называла яго Аляксей Міхайлавіч.

Усе дні Валевіч думаў толькі пра яе. Ён перастаў стамляцца на рабоце і насіць цёмныя сарочкі без гальштука, зашпіленыя даверху. Яго жонка неяк са здзіўленнем заўважыла, што ён не рэагуе на скандалы, усміхаецца нечаму і кожную раніцу па-

сля галення лязом дагольваецца яшчэ і электрычнай брытвай.

Звычайна яны ішлі ў маленькае кафэ або ў вялізны парк — былыя каталіцкія могілкі. У даждлівае надвор'е, а была восень, там амаль не было людзей. Часу ў іх заўсёды хапала, і ён гаварыў, што яны павінны сустрэцца не так. Яна і сама ведала гэта. Яна сама думала аб тым, што яны павінны сустрэцца інакш і надоўга. Яны не ведалі, як гэта зрабіць. І раптам ён знайшоў выйсце: пачаў апантана рамантаваць свой старэнькі «Масквіч» першай мадэлі, які вось ужо некалькі гадоў іржавеў на вуліцы перад домам. Ён адшукваў знаёмых, штурхаўся на аўтамабільным базары, і не паспеў выпасці снег, як яго «Масквіч» паехаў.

— Мы зможам цяпер выязджаць за горад,— гаварыў ён.— Там нас ніхто не ўбачыць і мы будзем нарэшце зусім адны.

Яны доўга вышуквалі ў сваіх буднях свабодны дзень. І знайшлі яго. Ім здавалася, што машына на дзіва марудна паўзе па вуліцах горада, што гэтаму гораду ніколі не будзе канца.

Валевіч і сам не ведаў, адкуль з'явіўся грузавік, які раптам рэзка завіхляў перад імі. Ён не паспеў адказаць сабе на гэта пытанне — раздаўся грукат, і ўсё апанаваў змрок...

— Я мала біў яе, мала. Вы цяпер самі бачыце, што з гэтага атрымалася,— ледзь не крычаў муж Тані да цешчы.

А жонка Валевіча, ачуньваючы ад нашатыру, паўтарала:

— Я ва ўсім вінаватая, толькі я. Ён працаваў, працаваў і не ведаў пяшчоты.

Хавалі іх у адзін дзень на могілках у новым мікрараёне, голых, як пустыня, усеяных вянкамі з

жалезнымі кветкамі і жоўтымі купінамі свежых магіл.

Яе муж паглядзеў, як б'юцца камякі зямлі аб накрыўку труны, і неахвотна палез у кішэню за пяцёркай для магільшчыка.

Ля выхада з могілак ён сутыкнуўся з жонкай Валевіча, якая ішла з заплаканым тварам.

— Перастаньце! — рэзка сказаў ён.— Гэта збавенне, запомніце, збавенне!

У яго быў такі спакойны і ўпэўнены твар, што яна не магла яму не паверыць. Слёз болей не было.

# Двое ў гасцініцы

„Як толькі ў гасцініцу зайшоў, дык я адразу пра ўсё забыў, таму што вас убачыў. Быў бы ў мяне капялюш, а не зацухмоленая шапка, я б зняў яго перад вамі і зрабіў гэта, як яго... рэверанс, здаецца. Вы б не зразумелі нічога і палічылі б мяне за звычайнага прыліпалу і, упісаўшы ў журнал маё прозвішча і імя — Сідзевіч Антон Цімафеевіч, паслалі б да ўсіх д'яблаў. Але я б не пайшоў усё роўна і сказаў бы вам, што прыгажэй за вас нідзе нікога няма — я гэта ведаю, я столькі паездзіў, што ў горле ад праглынутага пылу казыча, і доўга б на вас глядзеў, як зараз... Але я гэтага не зрабіў, а заваліўся спаць на акуратна засланы вамі ложак і спаў бы і зараз, калі б гэты рыжанькі, прыплюснуты шафёр не сказаў пра вас брыдоту і я не змазаў яго за гэта па фізіяноміі. У яго ў роце нешта зрабілася і кроў пайшла,— кулак у мяне рэзкі,— а цяпер вы яму ёдам рот змазваеце, а ён усё паўтарае — вось, маўляў, чалавек, жартаў не разумее. Вы на мяне глядзіце з дакорам, і ў вачах вашых без акуляраў прачытаць можна — ездзяць тут розныя морды, па п'янцы адзін аднаму фізіяноміі калечаць, а я іх зарубцоўвай... Я вам пасля сказаць магу, з-за чаго ўсё здарылася. Але не скажу, вельмі ўжо брыдка гэты рыжанькі ўсё апісваў і размалёўваў...»

Антон думаў так, абапёршыся на стойку, і глядзеў, як спрытна дзяжурная па гасцініцы Анастасія, самая прыгожая з усіх дзяжурных усіх разам узятых гасцініц, змазвае ваткай, змочанай у ёд, рот

гэтаму тыпу. Добра, што там кампанія падабралася разнародная і гэты рыжанькі плявузгаў наконт дзяжурнай з выпадковымі сустрэчнымі, а не з сябрукамі сваімі. Калі Антон, адарваўшы ад падушкі цяжкую і стомленую ад дзённых клопатаў галаву, сказаў яму, каб ён роту свайму і, галоўным чынам, языку даў адпачнуць ад брахні, той яшчэ больш пачаў распінацца. Тады Антон не вытрымаў і даў пляткару па сківіцы. Хлопцы, якія, разявіўшы раты, слухалі рыжага, прамаўчалі, убачыўшы мускулы Антона, і адразу леглі спаць. Рыжанькі пабег да дзяжурнай за ёдам, Антон жа чамусьці пайшоў за ім. У роце ў рыжага прыпякала, і ён спакваля патузваўся і моршчыўся. Антону стала шкада яго. «Няхай бы пагаварыў, адвёў душу».

Нарэшце Анастасія закончыла змазваць шафёру рот. Ён устаў, падзякаваў і пачаў выглядаць, як бы лепш прашмыгнуць у калідор паўз Антона. Антон, ледзь адсунуўшыся, зрабіў невялікі праход паміж сабой і дзвярыма, і калі рыжы, сцяўшыся, ішоў міма, лагодна паляпаў яго па плячы.

Потым сказаў:

— Вы прабачце, Анастасія, за лішнія клопаты. Толькі вельмі ўжо неабходна было стукнуць яго крышачку...

Яна паглядзела на яго здзіўлена. Вось які! Шуму нарабіў у гасцініцы і прабачэння прасіць не думае!

Яму вельмі спадабаўся яе позірк. Ён і не ведаў астатніх яе позіркаў, можа, і лепшыя былі, але гэты яму спадабаўся.

— А мы з вамі знаёмыя. Я быў паўгода назад тут. Ноччу прыйшоў і разбудзіў вас. У вас імя вельмі прыгожае. У нас у хаце ікона вісела. Багародзіцы, ці што... Дык я яе Насцяй чамусьці называў, Анастасіяй, значыць. Лягчэй запомніць было. Баб-

ка вушы драла, а я ўсё роўна ікону Насцяй называў... Цяпер ведаю чаму — на вас яна вельмі падобная...

Анастасія раптам усміхнулася яму.

— Гаваркі дужа вы. А ўжо ноч... У той раз зусім не размаўлялі...

— Дык вы мяне памятаеце? Вось гэта цудоўна! А я думаў, усе ў вас на адзін твар. Столькі людзей прыязджае, ад'язджае.

Анастасія нічога не адказала, а ён працягваў:

— Ездзяць людзі...— І раптам спытаў, праглынуўшы камяк, які перашкаджаў яму гаварыць: — І чапляюцца, відаць...

Адразу ж успомніліся яму словы рыжага: «Тут прыгажуня, як кот у масле. Хто спадабаўся — той ноччу не мерзне».

Насмешліва на яго гледзячы, яна махнула рукой:

— Такі ўжо ваш брат мужык... Як толькі вырвецца куды-небудзь ад жонкі, халасцяком становіцца. Ну, дасі яму аплявуху і пагоніш ад сябе... Адзін усё жаніцца прапаноўваў. І зараз яшчэ пісьмы шле. Дзівак.

— Дык і вы б'ецеся? — радасна спытаў ён. І працягваў: — А бывае, што і нармальны чалавек сустрэнецца.

— Куды ўжо мне. Старая зусім. Сын расце. З месца не асабліва лёгка скрануцца. І не цягне нешта.

Толькі цяпер Антон заўважыў, што яна не такая ўжо і маладая, як яму адразу здалося. Гадоў трыццаць будзе. Старэй за яго гады на тры. Калі ўсміхаецца — пад вачамі скачуць маршчынкі.

— А муж што ж?

— Памёр ён. Два гады пажылі, і памёр. З'ела хвароба за некалькі месяцаў.

Антон паківаў галавой і адчуў сябе няёмка за гэта зусім ужо непатрэбнае пытанне. А яна падумала — чаго гэта раптам разгаварылася з гэтым мажным юнаком, які не паспеў у гасцініцу пасяліцца, а ўжо бойку ўчыніў. Усім сваім выглядам паказала, што гаворка закончана і час яму спаць ісці. Паднялася, спрытна падкінула некалькі паленцаў у печку.

Антон развітаўся. Ішоў у свой нумар і думаў, што добра ён зрабіў усё ж, трэснуўшы гэтага рыжага. Пляткар!

Рамонт на мясцовым заводзе прадстаяў не надта складаны. У трэсце яго адпусцілі на цэлых дзесяць дзён, і другім разам ён бы дні за тры справіўся. А цяпер нешта не вельмі хацелася ад'язджаць адсюль. І сам не ведаў, чаму б гэта... Дакладней, ведаў, але прызнавацца нават сам сабе не хацеў і ў душы з сябе пасміхаўся. Пакорпаўся ён на заводзе з паўдня, пагаварыў з хлапцамі, сказаў некалькі кампліментаў нарміроўшчыцы Зіначцы, прыгожай, крыху паўнаватай бландзінцы, якая прапанавала яму пайсці на танцы ў Дом культуры, а не кіснуць у пакоі за кілішкам, і пайшоў у гасцініцу. Свяціла сонца, зусім вясновае, хоць на двары быў люты. У нумары хуценька сцягнуў з ног боты і заваліўся спаць прама паверх коўдры. Днём у гасцініцы спаць — адно задавальненне. Анучы дыханне не атручваюць, не храпе ніхто і ў сне не ўскрыквае. У Антона, праўда, сон нічым немагчыма перабіць, ніякім храпам. Але перш чым заснуць, ён звычайна падоўгу варочаецца з боку на бок, лічыць да тысячы і больш, успамінае самыя што ні ёсць сонныя гісторыі, большасцю прыемныя, але заснуць нейкі час усё роўна не можа. Затое пасля таго як засне, разбудзіць яго немагчыма, як ні тузай.

2 Зак. 2262

На гэты раз Антон перавярнуўся на жывот і заплюшчыў вочы. У галаве стомы не было. Гэта азначала, што сон не прыйдзе сам па сабе, і Антон пачаў успамінаць якую-небудзь прыемную гісторыю. Іх у яго, калі шчыра гаварыць, кот наплакаў. Гэта толькі знаёмым дзяўчатам Антон гаварыў, што такія ў яго гісторыі былі, якія нікому не сніліся. Тыя звычайна крыўдавалі, што гісторыі гэтыя звязаны з іншымі дзяўчатамі, але Антона, напэўна, не раўнавалі. Чаму? Ён так лічыў таму, што сам ніколі нікога не раўнаваў. Можа, яго хто і раўнаваў, але ён пра гэта не пытаўся.

А маці ўсё чакала ў доме «малодшанькую» нявестку. Наогул, нявестак у доме Сідзевічаў хапала. У Антона былі яшчэ тры браты, і ўсе жанатыя. Неяк здарылася, што ні адзін з іх нікуды не з'ехаў з бацькоўскага дому. Жылі Сідзевічы ў вялікім, прасторным доме. Нявесткі нярэдка, то адна, то другая, не ладзілі са свякрухай. Яна ж, спакойная і ціхая па характару, старалася дагадзіць усім. А з Антонам, сваім малодшым, гаварыла па шчырасці і прасіла:

— Ты ўжо хаця, Антоша, добрую вазьмі. Галоўнае, спакойную...

Ён смяяўся:

— Хіба табе, маці, гэтых не хапае? А я яшчэ злейшую прывяду.

Яна ўздыхала і гаварыла:

— Заездзішся ты па камандзіроўках, і толку не будзе.

Успомніўшы пра маці, Антон заўсміхаўся.

Ён бы і яшчэ больш спаў, напэўна, да самага ранку, калі б іншыя пастаяльцы не ўваліліся пад самы вечар у пакой і не пачалі гучна гаманіць.

Антон адкрыў вочы і ўбачыў рыжанькага. Той адчуў ягоны позірк і ўсміхнуўся:

— Вось у хлапца камандзіровачка! Ляжыць сабе і дрыхне...

Усміхацца рыжанькаму не хацелася. Антон гэта ведаў. Атрымаў па фізіяноміі, а цяпер у сябры лезці пачне, каб паўтарэння не здарылася. Ёсць такія людзі.

— Ты ў якой сістэме тут? Можа, у адной? — зноў палез у размову рыжы.

— Не ў адной. Прафесія рэдкая. Кабылам хвасты накручваю,— не зусім удала пажартаваў Антон, але рыжы пасля гэтага змоўк.

Мужчыны сядзелі кучкай і ціха гаманілі між сабой. Хутчэй за ўсё абмяркоўвалі, што рабіць вечарам. Антон ведаў, чым гэтыя размовы закончацца. Ноччу ў пакоі не прадыхнуць будзе ад перагару. Яму раптам усё гэта абрыдла. Успомніў запрашэнне Зіначкі пайсці на танцы. А чаму б і не пайсці? Дастаў з чамаданчыка белую кашулю і гальштук, ружовы, у палоску, апрануўся і выйшаў з пакоя.

Спадзяваўся Анастасію ўбачыць, хоць ведаў — сёння не яе змена. І сапраўды, дзяжурная была іншая, незнаёмая. Прайшоў міма яе на вуліцу. Вечар быў цудоўны, без ветрыку, у паветры пахла вясной. Хлопцы ішлі з гітарамі і спявалі, дзяўчаты — усе, як на падбор, святочна апранутыя і падфарбаваныя...

Як толькі Антон увайшоў у залу, адразу ўбачыў Зіначку. І сапраўды — чакае яго. Галавой круціць, сяброўак, якія побач аб нечым балбочуць, зусім не слухае. А можа, і не яго чакае? Хаця не, убачыла, заўсміхалася і насустрач пайшла першай.

— Ты,— гаворыць,— Антоша, святочны такі, кашуля табе белая да твару вельмі і гальштук ружовенькі таксама. Музыка хутка зайграе, і паглядзім, што ты за танцор.

Гэтае яе «Антоша» і астатняе, наконт гальштука і танцора, Антона развесяліла.

Зайграла музыка, на шчасце, павольная — пад хуткую ён не вельмі добра танцаваў, і яны з Зіначкай ледзь не самыя першыя ўвайшлі ў круг. Зусім блізка горача дыхала Зіначка, быў яе твар, далей — шмат іншых твараў. Антону ўсё гэта пачало падабацца — і танцы, і ўся камандзіроўка наогул.

Пасля ён танцаваў з Зіначкай і хуткія, і павольныя танцы.

— Ты вясёлы. Мне такія падабаюцца,— сказала Зіначка, калі яны выйшлі на вуліцу.— Ты мяне праводзіш, вядома? — запытальна паглядзела на яго.

— Праводжу...

Ён гаварыў нешта вясёлае, злёгку прыцягваючы да сябе Зіначку, і зусім выпадкова позірк яго сустрэўся з позіркам жанчыны, якая ішла насустрач.

Гэта была Анастасія. Ён хутка апусціў вочы ўніз, адчуваючы, як уся яго радасць імгненна знікае. Каля брамы дома, дзе жыла Зіначка, ажно ўзрадаваўся, што закончылася нарэшце дарога. Абыякава паляпаў дзяўчыну па плячы і хутка пайшоў у бок гасцініцы. Зіначка разгубілася ад нечаканасці — што гэта з ім раптам здарылася?

...Раніцай Антон прачнуўся з цяжкай галавой. І сам увесь агнём гарэў. Стаў на ногі і адчуў, што водзіць яго, нібыта п'янага, ва ўсе бакі. Пайшоў да дзяжурнай таблетку папрасіць. Анастасія як убачыла яго, завойкала:

— Доктара трэба паклікаць. Твару на вас няма...

Ад доктара Антон наадрэз адмовіўся, сказаў:

— Ну яго, доктара. У бальніцу яшчэ пакладзе. Скразняком мяне працягнула, і толькі. Мне б таблетак жоўтых такіх у цэлафане і чаго-небудзь мац-

ней для прафілактыкі. Адразу ж усё пройдзе, быццам і не было. А ў кантору сваю дзень не схаджу — не з'ядуць.

Ён пайшоў назад у нумар. Анастасія накінула на плечы шалік і выбегла ў аптэку, якая была зусім побач.

Антон задрамаў ужо, калі яна ціха зайшла ў пакой. Паклала таблеткі на столік, прысела побач.

— Перш за ўсё тэрмометр трэба паставіць. Можа, і не прастуда гэта зусім.

Антон пакорліва ўзяў тэрмометр, сунуў пад паху.

— Хварэць я вельмі люблю. Толькі вось рэдка гэта са мной здараецца,— і адразу, нечакана для сябе: — Ты вельмі прыгожая, Анастасія. Я хворы, і то бачу...

Гэтыя словы засталі Анастасію знянацку. Крыху паружавеўшы, яна пацягнулася да Антона, каб узяць тэрмометр. Ён парывіста абняў яе і прыцягнуў да сябе. Анастасія адбівалася, упіраючыся рукамі яму ў грудзі. Антон з закрытымі вачамі цалаваў ёй губы, твар... Нарэшце Анастасія выслабанілася, але не ўцякла, а адсунулася на край ложка.

Антон заплюшчыў вочы, чакаючы ад яе рэзкіх слоў. Анастасія нечакана ўсміхнулася, амаль непрыкметна, краем вуснаў.

— Які ты... Ну, зусім як хлопчык...

— Хочаш,— сказаў ён,— я толькі цябе ўвесь час цалаваць буду. І больш нікога.

Уголас Антон сказаў крыху не так, як думаў, і пад «усім часам» разумеў усё жыццё, але язык не паварочваўся вымавіць гэтыя два словы. Нібыта да зубоў прысох. І яшчэ ўспомніўся Антону ўчарашні вечар. Анастасія, якая ішла старанай... Маўчыць... Можа, не заўважыла ўчора...

— Цяпер зусім на хлапчаня падобны. Ну, аку-

рат мой Сярожка. Калі схлусіць, вочы заплюшчвае і чакае — зразумела ці не.

Антон ведаў, навошта яна гаворыць усё гэта, і не знаходзіў, што адказаць.

Анастасія хацела адразу пайсці, як толькі ён рукам волю даў, але чамусьці засталася і па-ранейшаму сядзела на краі ложка. Упершыню за доўгі час на душы ў яе было спакойна, быццам усё разам стала на свае месцы. Анастасія яшчэ раз уважліва паглядзела на Антона, і ёй здалося, што яна ведае яго вельмі даўно.

— Учора з кім гуляў? Гаварыў, напэўна, тое ж, што і мне...

Усё ж яна не змагла не спытаць у яго пра ўчарашняе.

— Вось яшчэ сказала... Не сядзець жа вечарамі ў гасцініцы. Я вельмі цябе бачыць хацеў. А гэта знаёмая з завода, нічога сабе дзяўчына, вясёлая. Толькі ты не падумай...

Паўдня Антону хапіла. Ён здаў кацёл мясцоваму інжынеру і паспяшаўся да гасцініцы. На ганку зусім ужо нечакана сутыкнуўся з Анастасіяй.

— Ты ж не дзяжурыш сёння...

— Што ж гэта ты... Хворы яшчэ і з ложка падняўся. Біць цябе няма каму. А я так прыйшла, па справах, і цябе заадно праведаць. Гасцінцаў вось прынесла...

Толькі цяпер Антон заўважыў у яе руках скрутак. Ён заўсміхаўся:

— Як маленькаму. Прыдумала ж. І я зусім не хворы, толькі крыху. А харчы твае, Анастасія, вельмі нават дарэчы. Кацёл я свой даканаў і страшэнна есці хачу. Запрашаю ў свой пакой...

Ён быў рады, што нават следу ад яе ўчарашняй

крыўды не засталося. Але яго запрашэнне было адвергнута:

— Ты жартаўнік. Хіба магу я... Што скажуць людзі... І да сябе запрасіць не магу. Сын дома. Пытацца пачне.

— Прыйдзецца аднаму тваімі гасцінцамі ласавацца.— Антон развёў рукамі.

— Да пабачэння,— развіталася яна і хуценька пайшла.

Антон пакруціў у руках скрутак і пайшоў у свой пакой. Праз некалькі мінут еў смажанае мяса і ўсміхаўся.

Раніцай гасцініца прачыналася ад нялёгкага, зімовага яшчэ сну. Камандзіровачныя цяжка грукалі ботамі па калідорах і адзін за адным выходзілі ў шэры паўзмрок. Антон дачакаўся, пакуль усе пойдуць з пакоя, і накіраваўся да Анастасіі. Яна сядзела за сваім столікам і ўпісвала ў кнігу ранняга камандзіровачнага. Антон стаў у дзвярах, як у той вечар, калі стукнуў рыжанькага, і падумаў, што час ляціць вельмі хутка.

Камандзіровачны, узрадаваны цяплом, паспяшаўся ў нумар. Анастасія адчула на сабе позірк Антона, падняла вочы.

— Не спіцца з ранку?

— Я спаць падоўгу не прывык. А сёння яшчэ і цябе ўбачыць захацеў. Заўтра ты мяне з кніжачкі выкрасліш, а ехаць мне зусім не хочацца. Але я хутка з'яўлюся, і ты мяне не паспееш забыць.

Ён гаварыў усё гэта на адным дыханні, быццам баючыся, што яна перапыніць яго, не дасць дагаварыць.

Антон падышоў да яе і сеў побач.

— Выдумаў... Ой, і выдумшчык ты. Паедзеш, і

ўсё. Як шмат разоў ад'язджаў. Затужыў у камандзіроўцы, вось і весяліш сябе выдумкамі...

Антон амаль не слухаў яе. Хацелася яму прыцягнуць яе да сябе, як тады, у нумары, і каб яна зусім не адштурхвала яго і не адводзіла свае прыгожыя, незразумелага колеру вочы.

— Я чэсна прыеду. Вось ты здзівішся... Га?

— Здзіўлюся,— сказала яна і паглядзела на яго.— Я вельмі б здзівілася і ўзрадавалася...

У пісьме Антон дакладна ўсё напісаў — і месяц, і дзень, і нават гадзіну свайго прыезду. Хуценька дабег да гасцініцы. Убачыў, што за сталом сядзіць зусім іншая дзяжурная, прабіўся сярод камандзіровачных, спытаў:

— Анастасія не дзяжурыць?

Дзяжурная на яго нават не зірнула, сказала як адрэзала:

— Не дзяжурыць яна. І не будзе. Паехала...

Закруціліся ў вачах Антона і гасцініца, і людзі ў ёй, і шырокі твар дзяжурнай.

Абапёрся ён на стол і крыкнуў ёй у твар:

— Не можа быць!

Дзяжурная спачатку разгубілася, а пасля сама на яго закрычала:

— Бадзяюцца тут... Напіўся і на стол лезе. Чаго табе трэба? Сказана — паехала! Зусім паехала.

Антону ўспомніўся той дзень, калі ён ад'язджаў, маленькая жаночая постаць удалечыні... Ён схапіў свой чамаданчык і, расштурхваючы чаргу, кінуўся да выхада.

Удыхнуў халаднаватага ветру, сцяў вусны.

Анастасія не знаходзіла сабе месца... Здавалася ёй, што неразумна зрабіла яна, прыдумаўшы ўсё

з ад'ездам. І адразу ж апраўданне знаходзіла — навошта яна яму. Жыццё толькі з ёй згубіць. Старэй яна за яго і не адна... Сын гуляе і нічога не разумее. І ў той жа час хацелася пабегчы за ім, дагнаць, каб не паехаў...

Антон ішоў да яе дома.

# Чынгіз

Усё было, як учора і заўчора. Толькі замест дажджу ішоў снег. Ён забіваўся за каўнер, раставаў і халоднымі кроплямі сцякаў па спіне. Спачатку Ягор яго страсаў, але снег быў надакучлівы, і Ягор махнуў рукой — сыпле, ну і хай сыпле!

Ён ішоў з райпрамкамбіната, дзе сталярнічаў ужо некалькі дзесяткаў гадоў. Крочыў дахаты і ведаў, што чакае яго там усё тое, што даўно абрыдла: яда, наспех ім самім жа згатаваная, мыццё бялізны, навіны па тэлевізары і сон. Ягор пераконваў сябе, што кладзецца спаць, і выключыў святло. Потым ён доўга ляжаў і глядзеў у цемру або круціўся з боку на бок, заплюшчыўшы вочы, але сон усё роўна не ішоў. Людзі да Ягора амаль не заходзілі, а калі і здаралася, то ненадоўга. Яму было прасцей і лягчэй аднаму, і людзі, заўважыўшы гэта, не назалялі.

Раней Ягор не быў нелюдзімы. У яго і зараз вісела ў пакоі вялікая фатаграфія ваеннага часу, на якой усміхаўся ён на ўвесь рот, хоць і здымаў яго фатограф пасля шпіталя, дзе праляжаў ён роўна пяцьдзесят чатыры дні пасля цяжкага, амаль смяротнага ранення. Ягор любіў пабалабоніць у кампаніі, ды і ў сталярцы раней усім даставалася ад яго трапных жартаў.

А з таго дня, як пахаваў Ягор жонку, стаў ён іншым чалавекам. У яго нават вочы за гэты год, што пасля яе смерці прайшоў, выцвілі, з блакітных зрабіліся вадзяністымі. А сам Ягор згорбіўся, паста-

рэў, хоць хвароб асаблівых, як і раней, не ведаў. Але ён выразна адчуў, што жыццё яго пайшло на спад...

Дзяцей у Ягора было трое, і ўсіх іх параскідала па свеце каго куды. Клікалі яны яго да сябе жыць, але ён нават думкі такой не дапускаў — тут была магіла жонкі, тут бацькі яго памерлі, і ад'язджаў ён адсюль адзін раз — калі далі пуцёўку ў санаторый.

Ягор да позняга часу прападаў у сталярцы, усё мудрагеліў над чым-небудзь, толькі б дадому не ісці. Там было да болю пуста і пахла нежылым — цвіллю, хоць Ягор раз на тыдзень прымушаў сябе займацца прыбіраннем: на гэта хоць палова дня ішла...

Клопатаў у Ягора прыбаўлялася, калі пачынаўся паляўнічы сезон. Ён рыхтаваў патроны, чысціў стрэльбу. На паляванні з яго было слова не выцягнуць, але старыя сябры пра Ягора не забываліся — страляў ён добра, нездарма ж у вайну снайперам быў.

Раней, бывала, за сезон Ягор укладваў ваўкоў дзесяць — пятнаццаць. І зараз на паляванні ён быццам распростваўся, шэрая бляклaсць з твару знікала, шчокі ружавелі, і вочы яго жвавелі, хоць блакіт ужо ў іх і не вяртаўся. Старыя сябры, у якіх былі сем'і і ў хаце пахла капустаю, а не сырасцю, пазнавалі тады ранейшага Ягора. Але гэта было нядоўга...

За кожнага забітага ваўка Ягор атрымліваў прэмію, і грошы былі дарэчы. Увечары ён даставаў грошы — і адкладзеныя і «воўчыя» — на стол і дзяліў на тры роўныя часткі. А назаўтра, пасля работы, ішоў на пошту і адсылаў іх дзецям. У такія хвіліны ён крыху ганарыўся сабой — бач, нічога, што стары, што бабыль; не яны яго кормяць, нават на-

адварот — дапамогу ад яго атрымліваюць, а яна, Ягор гэта ведаў, дзецям не лішняя.

І на гэты раз яму пашанцавала: ваўчыца сама на яго выбегла. Зубы яе былі выскалены ад страху, ад звярынага адчаю. Ягор паклаў яе адным стрэлам. І раптам пачуў тонкі віск, быццам шчаня пад нагамі апынулася. Ваўчаня было зусім маленькае — ледзьве трымалася на кручкаватых нагах, разгублена плюскала вачыма. Ягор пагладзіў яго — цёплае, мяккае. Падбеглі людзі, папіхалі ваўчыцу ствапамі.

— Ну і звяруга! Магла яна табе, Ягор, ураз глотку...

І тут убачылі ваўчаня. Хтосьці сказаў:

— Прыстукні ты яго прыкладам.

— Ён жа яшчэ шчанюк,— сказаў Ягор і, узяўшы таго за шкірку, паклаў у сваю кайстру — ад сабак далей.

— Астатніх, астатніх трэба шукаць! Яны дзесьці тут, побач. Пад нагамі грошыкі поўзаюць!

Але больш ваўчанят не знайшлі. У аўтобусе, па дарозе дамоў, Ягору казалі:

— Давай здадзім, што ты з гэтым вырадкам рабіць будзеш? За яго таксама грошы даюць...

Але Ягор маўчаў.

На другі дзень ён прачнуўся ад адчування — нехта побач дыхаў. У досвіткавай цішыні ён чуў лёгкае пасопванне, чмоканне, быццам у пакоі спала дзіця. Ягор ступаў паціху. Не паспеў дацягнуцца да выключальніка, як нага дакранулася да мяккага, цёплага камячка. Ранейшай утрапёнасці не было, недзе глыбока ў душы Ягора нараджаўся ціхі, радасны смех.

Ён падняў ваўчаня на рукі, прылашчыў. Потым паклаў на ложак, уключыў святло, пачаў разгля-

даць яго. Ваўчаня было шэрае — ніводнага іншага тону або паўтону.

— Чынгіз! Я буду зваць цябе Чынгізам,— сказаў Ягор.

На вайне ў Ягора быў сабака Чынгіз. Калі Ягора паранілі, Чынгіз кінуўся да яго. А потым іх знайшлі абодвух. Чынгіз быў мёртвы, а Ягор яшчэ дыхаў...

Ягор спахапіўся: яму быў час на работу, а ваўчаня ж трэба пакарміць. Пакорпаўся ў кухні — не абабраная бульба, прысохлая да ракавіны галоўка ад кількі, некалькі пустых пакетаў з-пад кефіру ў кутку... А яму, напэўна, малако трэба!

Ягор пашыбаваў да суседзяў.

— Шчаня там у мяне галоднае. Яму малака трэба было б.

Малако Ягор наліў у талерачку і тыцнуў туды носам шчанюка. Той злосна фыркнуў і нават паспрабаваў схапіць Ягора за палец.

— Што ж гэта я,— спахапіўся нарэшце Ягор.— Ён жа мамчыну цыцку хіба што і ведае. Трэба соску знайсці.

Ён успомніў, што Варка з ніжняга паверха нядаўна нарадзіла, і ў яе, вядома, сосак хапае. Варка соску дала, але вочы яе плюскалі падазрона.

Праз хвіліну Чынгіз з апетытам цмокаў, морда ў яго аблівалася, ён прыплюшчыў вочы, але соску не кідаў.

— Вось так,— прыгаворваў Ягор,— каровінага малачка як пап'еш, дык і станеш хатнім. Глядзіш, і я не памру ад тугі.

Чынгіз рос хутка. Праз паўгода ён быў велічынёй з гадавалую аўчарку. Днямі ён ляжаў ля дзвярэй у чаканні Ягора. І быў на рэдкасць кемлівы. Ягор не расказваў нікому, што ў яго жыве воўк, і Чынгіз, нібы разумеючы, ніколі не выў.

Але з кожным днём усё цяжэй было выводзіць Чынгіза на вуліцу. У сабак у двары пры яго з'яўленні поўсць станавілася дыбам. Таму выходзіў з Чынгізам па начах. Уначы ім было раздолле! Ні ўстрывожаных позіркаў, ні злосных сабак, якія выклікалі ў Чынгіза лютасць. Але ў двары ўсё часцей гаварылі:

— Ягор з гэтым ваўком і зусім размаўляць развучыцца.

А Ягор ажывіўся. Па вечарах расказваў Чынгізу розныя гісторыі са свайго жыцця, варыў яму ежу, і воўк цёрся ля яго ног — сабака, дый толькі!

— Магчыма, у прыродзе памылка выйшла, што ваўком ты нарадзіўся,— Ягор паскуб Чынгіза за загрывак.— Ну, выліты сабачы характар...

Так і жылі яны яшчэ з паўгода, пакуль Чынгіз не стаў дарослым ваўком, пры позірку на якога ў людзей на вуліцы крык засядаў у горле. А неўзабаве нехта паперу ў міліцыю напісаў. Ягор якраз гатаваў Чынгізу ежу, калі зайшоў участковы.

— Гэта хто ў вас, Ягор Паўлавіч? — спытаўся ён, паказаўшы пальцам на ваўка, што сядзеў пасярод пакоя.

Ягор зразумеў: справы дрэнь.

— Сам хіба не бачыш? Чынгіз гэта. Ручны воўк або, лічы, сабака. Ды сабакі, калі хочаш ведаць, разоў у пяць зласнейшыя бываюць, а ён дабрадушны. Ідзі, пагладзь!

Участковы адступіў да дзвярэй.

— Вы гэта кіньце, Ягор Паўлавіч. Ён руку адразу адкусіць можа, вунь пашча якая...

— Дык чаго ты з'явіўся, калі не хочаш пагладзіць?

— А тое, што ўсіх звяроў, сабак гэта значыць, рэгістраваць неабходна. Дзе ваш зарэгістраваны?

Ягор, сумеўшыся, змоўк.

— Дзяцей гэты ваш воўк заікамі зробіць... Па мне, вядома, няхай жыве... Але суседзі пісьмамі закідаюць, заявамі. А ваўкоў па закону нікому ў кватэрах трымаць не дазваляецца...

Чынгіз круціў галавою, быццам імкнуўся зразумець сэнс размовы.

Назаўтра Ягор пайшоў у гарсавет, дзе працаваў аднапалчанін.

— Твой воўк, Ягор, у нас у пячонках сядзіць!.. Пісьмы і раней былі, толькі я ім ходу не даваў.— Ён устаў з-за стала.— І чаго ты да гэтага ваўка прычапіўся?! Мужык яшчэ ў сіле, лепш бы бабу прыгледзеў...

Ягор сам адвёз Чынгіза ў заказнік. Работнік, якога прыслалі адтуль з крытым грузавіком, Ягору не спадабаўся — раніца, а ад яго гарэлкай патыхае...

— Развітвайся са звяругай,— сказаў ён Ягору.

— Сам павязу. Ды і не звяруга ён...

Усю дарогу Ягор маўчаў. Чынгіз, нібыта прадчуваючы нядобрае, нерухома ляжаў каля яго ног. У заказніку ў Ягора крыху адлягло ад сэрца. Сустрэла іх прывабная дзяўчына — навуковы супрацоўнік.

— Вы далікатна з ім абыходзьцеся,— папрасіў Ягор.— Ён жа хатні, ручны.

— Не хвалюйцеся, Чынгізу будзе добра,— супакоіла яна.— Воўк будзе жыць у вальеры, потым падселім да яго ваўчыцу, каб не сумаваў.

Ягор даў дзяўчыне свой адрас і папрасіў, каб яна паведамляла, як жывецца Чынгізу.

Зусім засумаваў Ягор. Дзеці пісалі рэдка ды і то як павіннасць выконвалі — ён гэта па пісьмах адчуваў. Яго ахапіла нейкая незнаёмая абыякавасць да ўсяго, быццам ён назіраў жыццё аднекуль здалёк і жыццё гэта нікольк і яго не кранала. Як і

раней, ён падоўгу заседжваўся ў сваёй сталярцы, план цягнуў, але рабіў усё гэта машынальна.

— Ці не захварэў ты, Паўлавіч? — спытаў неяк начальнік цэха.

Ягор адмоўна паківаў галавой.

— Адпачыць трэба? Дык бяры свае адгулы.

Ягор падумаў.

— А што, адзін бадай што і вазьму...

У той жа дзень ён паехаў у заказнік. Калі дайшоў да вальеры, дзе жыў Чынгіз, паклікаў:

— Чынгіз!

Праз імгненне воўк скочыў яму на грудзі, лізнуў твар.

— Вось так, вось так і зусім добра,— гаварыў Ягор, гладзячы Чынгіза.— Гэта нічога, што ноч. Ты мяне ўгледзеў.

Ён падклаў пад галаву сваю ватоўку, лёг і неўзабаве заснуў, а Чынгіз сядзеў усю ноч побач. Раніцой егер Сямёнаў убачыў, што ў вальеры ляжыць чалавек. Побач быў воўк. Егер спачатку спалохаўся, але, падбегшы бліжэй, пазнаў Ягора. Паклікаў. Ягор расплюшчыў вочы. Прысеў. Чынгіза па галаве пагладзіў.

— Думаў, падалося мне...— гаварыў егер.— Гляджу — чалавек у вальеры, а воўк над ім.

— Ён не воўк, ён Чынгіз,— сказаў Ягор.

Потым ён пайшоў да дырэктара прасіць дазволу пагуляць з Чынгізам па лесе. Дырэктар дазволіў, але Чынгіз прагулцы нібыта і не ўзрадаваўся. Ён не бегаў, не дурэў.

Блукалі яны цэлы дзень, а ўвечары Ягор зноў завёў Чынгіза ў вальеру.

Праз два тыдні Ягор атрымаў пісьмо з заказніка. Пісаў егер Сямёнаў: «Уцёк Чынгіз. Карміў я яго, а ён у лес і збег. Ты, Ягор, прыязджай. Ён да-

лёка не пойдзе. Магчыма, знойдзеш. Прыязджай, а то хутка адстрэл ваўкоў. Шмат іх развялося, дзвюх кароў зарэзалі. І Чынгіза на мушку могуць узяць. На ім не напісана, што ручны ён...»

Ягор не спаў усю ноч. Думаў. Ну, знойдзе ён Чынгіза. Верне яго ў няволю. А далей што?..

Шукаць Чынгіза Ягор не паехаў.

# Усё, што засталося

І трэба ж было яму з'явіцца, калі бляшанка была ў цэнтры гурту. Вось-вось усё павінна было вырашыцца, і для гэтага патрэбен быў адзін гол, але з'явіўся ён — высокі, худы, стары, з апушчанымі ўніз вусамі. У адной руцэ ў яго была вялікая эмаліраваная міска, у другой — квяцісты клуначак. Ён ішоў прама, быццам нас не існавала. Мы спыніліся, каб не наляцець на яго.

— Сляпы хіба? Не бачыш? — закрычаў задыханы Дзімка.

Мы былі дзецьмі вайны, урокаў ветлівасці нам ніхто не паспеў выкласці, і закрычаць на старога мог кожны з нас.

Выгляд у яго быў нейкі ўнураны. Ён павярнуў галаву і абвёў нас вачыма. Сапраўды, ён задумаўся і не заўважыў нас. Пастаяўшы крыху, стары нячутна паварушыў губамі і пайшоў далей.

Потым я часта ўпотай назіраў за ім. Стары пасяліўся ў маленькай хатцы, у якой мы нярэдка збіраліся з хлопцамі і да дурнаты накурваліся перацёртым сухім лісцем. У свой горад мы вярнуліся з эвакуацыі, і з таго часу ніхто не памятаў, каб хто-небудзь жыў у гэтай хатцы. Яе нават не разабралі на дровы, такой яна была трухлявай — пылу не абярэшся, якія там дровы з яе.

Надыходзіла восень. Усё часцей дзьмуў халодны вецер, лілі дажджы, і старому, што ні кажы, даводзілася туга. Усе навокал жылі ненамнога лепш за яго і не маглі прапанаваць яму жылля. Яго амаль

не бачылі на вуліцы. Цэлымі днямі ён сядзеў у сваёй хатцы. І раптам пачаўся сонцагрэй. Стары быццам ажыў. Побач быў гліняны кар'ер, і ён цягаў да сваёй хаты гліну, замазваў ёю сцены.

Неяк я сустрэўся з ім. Ён буркнуў:

— Памог бы. Чаго дарма вочы тарапіць...

Мне не вельмі хацелася ў той момант цягаць гліну — былі справы больш важныя: Дзімка раскапаў недзе абойму патронаў і нам трэба было вытрасці з іх порах. Але я моўчкі ўзяўся з другога боку за вядро, і ён з палёгкай уздыхнуў — усё ж такі вядро было даволі цяжкім. Нават удваіх несці яго было нялёгка. Мы зайшлі ў хату... Я са здзіўленнем агледзеўся. Чысціня, быццам дом прыбралі адразу некалькі жанчын. Са старых дошак стары зрабіў сабе ложак. Праўда, ляжала на ім толькі некалькі ануч.

Я сказаў:

— У нас ёсць лішняя падушка. Я папрашу ў мамы...

Ён скоса зірнуў на мяне.

— Я думаў, што ты злосны і пусты хлопчык. Хлопчыкі заўсёды здаюцца старым злоснымі. А на вас адбітак вайны. Яго не так проста сцерці,— сказаў ён некалькі напышліва.— А падушку ў маці не прасі. Час цяпер не такі, каб старым падушкі раздаваць. А вось калі дзе-небудзь сухое дрэва ўбачыш — цягні.

— Добра,— сказаў я.

І тут я ўбачыў незвычайнае. Пасярэдзіне хаты стаяў крывы, ледзь збіты стол, а на ім міска. Вялікая і бліскучая. Зусім новая эмаліраваная міска. Яна стаяла на белай сурвэтцы, і на ёй не было ні пылінкі. Відаць, стары часта праціраў яе. Мне ўспомніўся расказ маці. Нехта з жанчын папрасіў у яго міску для мыцця бялізны. Стары страшэнна

раззлаваўся. Ён сказаў, што гэта не такая міска, каб у ёй мыць розныя анучы. Суседка, сумеўшыся, змоўкла.

Я стаяў і таропіў вочы на міску. І не бачыў у ёй нічога такога, што рабіла б яе незвычайнай. Стары перахапіў мой позірк і сказаў:

— Ты вось што, хлопчык, ідзі. Цябе Кірылам, здаецца, завуць?

— Ага.

— А мяне Мікалаем Лявонавічам. Наконт дрэва дамовіліся?

— Дамовіліся.

Я пайшоў і, шчыра кажучы, зусім забыўся на сваё абяцанне прынесці яму сухое дрэва. У мяне хапала клопату. Мы выкладвалі порах узорамі і палілі. Я зноў падпаліў бровы, а павек і зусім не стала. Дамоў мяне не цягнула. Маці хлусіць не варта. Адразу зразумее, што бавіўся з порахам. Пасля таго як падарваўся на процітанкавай гранаце Міколка, сын нашай суседкі Марыі, маці не цырымонілася са мной і пускала ў ход самыя цвёрдыя прадметы.

Бровы і павекі мае не маглі адрасці за некалькі гадзін бадзяння па завулках, але дамоў я ўсё ж вырашыў не ісці. Гадзіны дзве, а можа, і больш, я хадзіў па вуліцах, пакуль не сустрэў старога.

Ён сказаў:

— Я і не чакаў твайго дрэва. Сам, бачыш, шукаю.

Выгляд у яго, як мне тады здалося, быў вясёлы.

Дома ў Лявонавіча было навалена шмат дрэў.

— Сядай,— сказаў ён, і я зразумеў, чаму ён сёння ў добрым настроі. Побач ляжала некалькі лыжак. Яны былі крывыя і сучкаватыя.

Стары пачаў абстругваць кавалак дрэва. Стру-

гаў ён засяроджана, прыкусіўшы, быццам хлопчык, язык. Я здагадаўся, што ён зноў выстругвае лыжку. Ні разу я не бачыў, як выстругваюць лыжкі, але відаць было, што стары робіць гэта няўмела: вельмі ўжо няспрытна трымаў ён сцізорык. Рухі яго былі рэзкія, сцізорык пры кожным руху адстругваў, як мне здалося, вельмі вялікія кавалкі дрэва. Лыжка атрымлівалася крывой.

Лявонавіч адчуў мой позірк.

— Нічога. Ужо дзесяць штук ёсць. Спачатку цяжка было, а цяпер я спасціг увесь сэнс. Справа, значыць, пойдзе.

Ён сам даў зразумець, што ніколі не выстругваў лыжак.

— Іх адшліфаваць трэба, а то стрэмкі ў язык паўлазяць,— сказаў я.

— А чым? — спытаў стары і сумна дадаў: — Відаць, за такую лыжку ніхто і бульбіны не дасць.

Я ўспомніў, што ад бацькі ў нас засталіся інструменты. Цэлая скрынка. Бацька быў да вайны слесарам.

— Я прынясу напільнік...

І тут я ўспомніў, што ўжо паабяцаў Лявонавічу падушку, а сам нават не спытаў аб ёй у маці. І ён, відаць, падумаў, што я страшэнны лгун.

Ён прамаўчаў.

Я ўзяў другі сцізорык і таксама пачаў абстругваць дзеравяшку. Аднойчы я бачыў, як бацька выстругваў качалку. Я намагаўся ўспомніць усе яго рухі. Нічога не атрымалася. Да таго ж лязо саслізнула, і з майго мезенца пацякла кроў.

Стары забінтаваў нейкай анучкай мой палец і сказаў:

— Дрэнныя майстры мы з табой. Я ўжо два пальцы сабе парэзаў.

Мы пасмяяліся, і я пайшоў дамоў.

Маці ў той раз моцна мяне адлупцавала. І яшчэ ў яе вырвалася:

— Каб цябе пабачыў зараз бацька...

Няхай бы яна мяне яшчэ лупцавала, хоць цэлы дзень, але не гаварыла гэтага! Бацьку забілі два гады назад. Маці плакала па ім кожны дзень. Мая малодшая сястрычка таксама плакала, а мне нельга было. Я ж мужчына ў хаце.

Маці гаварыла: «Каб на цябе паглядзеў зараз бацька» ў хвіліны, калі я крыўдзіў яе. Яна ўбачыла мае абпаленыя бровы і ўсё зразумела... Яна вельмі баялася за мяне. Праз некаторы час, калі яна палагаднела, я сказаў:

— Ты ведаеш новага старога? Доўгі такі, Лявонавіч. Ну, у якога міска новая... У яго нічога няма, нават падушкі.

Яна зразумела, куды я хілю.

— Гэта той, што сабак корміць? У самога хлеба няма, а ён галодных дварнякоў корміць. Яму можна аддаць. Вазьмі і аднясі.

Я быў шчаслівы ў тую мінуту, як ніколі да гэтага. Я знайшоў некалькі напільнікаў, падушку і аднёс яму ўсё гэта. Стары не здзівіўся. Або мне так здалося. Ён сказаў толькі, што нягледзячы на вайну людзі засталіся людзьмі. Мы адшліфавалі яго лыжкі, і яны пачалі выглядаць амаль як сапраўдныя. Толькі крыху крываватыя.

— Ну што, панясём заўтра? — спытаў ён.

— Панясём. Можа, на што-небудзь выменяем...

— Няўжо за іх дадуць хлеба?

— Можа, і дадуць. Цяпер вайна. У многіх няма, напэўна, лыжак...

Слова «вайна» гучала аддалена. Не чуваць было жудаснага рову і грукату. Вайна адышла на захад. Але яна яшчэ была. Некалькі дзён назад у Алёшкі забілі бацьку.

Мы панеслі лыжкі на базар. Там было шмат людзей, але на лыжкі ніхто не глядзеў. Стары сумна маўчаў. Тады я схапіў дзве лыжкі больш роўныя і, расштурхваючы натоўп, пабег. Я крычаў: «Драўляныя лыжкі! Купляйце! Вельмі добрыя і моцныя лыжкі!»

Спачатку лыжку купіў нейкі ваенны. Не ведаю чаму. Ён нават не паглядзеў на яе, сунуў у кішэню і пайшоў далей. Пасля лыжку ўзяла бабуля. Яна дала за яе пачак махоркі. Я і слова сказаць не паспеў, што махорка старому непатрэбна, як яна пайшла. Я падумаў, што і махорка спатрэбіцца.

Дамоў мы вярталіся стомленыя. Калі прыйшлі да яго, стары страсянуў галавой і сказаў:

— А лыжкі больш прадаваць не будзем. Непрыгожа гэта, га?

— І мне не падабаецца,— прызнаўся я.— Сапраўды — непрыгожа.

Ён уздыхнуў:

— Па картачцы хлеба мне хопіць. Як-небудзь пражыву.

Ён даў мне некалькі лыжак, што засталіся ў яго.

— Маці скажы — за падушку вялікае дзякуй ад мяне. Дарэмна толькі гэта яна. Цяпер ні ў каго лішняга не бывае.

Я прынёс лыжкі дамоў. Поліўка, якую мы елі, здалася нам з сястрой незвычайна смачнай.

Мы лазілі па сутарэннях разбітага ўшчэнт дома і знайшлі кнігі. Вельмі многа кніг. Я даўно не бачыў столькі. Відаць, нехта схаваў іх сюды ў час бамбёжкі, але так і не прыйшоў за імі. Яны былі звязаны ў пачкі. Вяроўкі мы разблыталі і пачалі разглядаць кнігі. Тут былі і вельмі старыя, і зусім новыя. Былі кнігі ў скураных пераплётах з мудра-

гелістымі залацістымі ўзорамі, якія ніколькі не нагадвалі літары.

— Ух ты! — сказаў рыжы Андрэй.— Хапай, хлопцы!

Мы набралі кніг як панесці. Але не ўзялі і палавіны. Потым яшчэ некалькі разоў прыходзілі па іх. Дома я склаў кнігі ў кутку і ўзяў некалькі, каб паказаць старому. Лявонавіч доўга круціў кнігі ў руках і ўсё паўтараў: «Дзякуй, парадаваў ты мяне, Кірылка».

Кнігі аказаліся каштоўнымі. Ім, паводле слоў старога, не было цаны.

— Нясіце сюды ўсе кнігі.

Мы так і зрабілі. Андрэй, праўда, моршчыўся і абураўся:

— А чаму яму ўсе?

Стары гладзіў кнігі і гаварыў:

— Гэта не мае і не вашы кнігі. Яны вельмі патрэбны людзям. У іх веды.

Нас гэта ўразіла. Мы ніколі не бачылі, каб так глядзелі на кнігі. Хлеб — іншая справа. Усё, што было да вайны, адышло вельмі далёка, сцерлася з памяці. Навокал гаварылі толькі аб вайне. Нам здавалася, што нічога больш не існуе. Аказалася, ёсць! Кнігі і веды ў іх! Шмат ведаў у таўсценных тамах. Я прыбег дамоў і разгарнуў кнігу, якую пакінуў сабе. Яна была для мяне незразумелай і таямнічай. У ёй гаварылася пра дзіўных людзей. Вельмі дарослых і вельмі разумных. Мне хацелася ведаць, што з імі будзе далей, мне не хацелася з імі расставацца. Але патушылі святло. Раней яго зусім не было, а цяпер рана па вечарах адключалі.

Назаўтра з самай раніцы я быў у старога. Мы прагаварылі з ім аб кнігах, аб тым, што гэта здарава — кнігі, і няхай цяпер усе прыходзяць і бяруць у старога. Потым неяк нечакана для сябе я спытаў

пра тое, пра што даўно збіраўся спытаць і неяк не адважваўся.

— Лявонавіч, а што гэта за міска?

Ён схамянуўся, рэзка глянуў на мяне і адразу ж стаў ранейшым — спакойным і стомленым.

— Гэта ўсё, што засталося. Бомба... Я застаўся, і вось яшчэ міска. Больш нікога і нічога.

Я неаднойчы чуў гэтыя словы — «усё, што засталося...». Страшна гучалі яны ад мамы. Яна прыціскала да грудзей бацькавы пісьмы, цалавала іх і гаварыла, захлынаючыся ад слёз: «Усё, што ад цябе засталося, Колечка...»

Я зразумеў тады, што пісьмаў ад бацькі больш не будзе і яго самога таксама.

Мне кашчунствам здалося цяпер, што прасілі ў Лявонавіча гэту міску, каб мыць у ёй нейкія анучы. Гэта ж была не проста міска. Гэта — УСЁ, ШТО ЗАСТАЛОСЯ...

Мы біліся жорстка, не тое, што цяперашнія хлопцы — амаль не па-сапраўднаму. На тварах нашых вечна сядзелі сінякі і драпіны. Бойка ўсчыналася па любой прычыне, а па сутнасці — беспрычынна. Ні адзін з нас не хацеў уступаць. Уступаць — значыць збаяцца.

Я з Андрэем счапіўся з-за ФАУ. Ён быццам чуў недзе, што ў немцаў ёсць ФАУ-5 і нават ФАУ-6. Ну, мы і счапіліся таму, што я крычаў, што такіх ФАУ не бывае.

Калі сілы біць адзін аднаго ў нас амаль не засталося і мы, быццам згаварыўшыся, разышліся, каб адпачыць, перад намі з'явіўся Лявонавіч. Можа, усё бачыў?

Ён сказаў:

— Так нельга. Так рабіць неразумна, проста неразумна!

Ён сказаў і пайшоў, шаркаючы нагамі па шчэбню. Сумеўшыся, мы сядзелі чырвоныя ад сораму. Не раз нам прыходзілася чуць павучанні, але яны былі зусім не падобныя на яго словы. Ён не крычаў, не гразіўся, а гаварыў спакойна і ціха.

— Капут нам,— сказаў Андрэй.— Замучыць ён нас у школе.

— У якой школе?

— Якой, якой? Адвык хіба ад гэтага слова? У самай нармальнай.

Мы даўно не вучыліся ў школе. З самай эвакуацыі. Школы ў горадзе адчыняліся толькі праз некалькі дзён. Але пры чым тут Лявонавіч?

— Маці мне гаварыла,— сказаў Андрэй,— настаўнік ён. Геаграфію і літаратуру будзе выкладаць.

Але ён не прыйшоў да нас у клас і не сказаў: «Дзеці, пачынаем урок...» Гэтыя словы сказаў другі настаўнік.

А Лявонавіч памёр за некалькі дзён да адкрыцця школы. Мама сказала, што яго даканалі вайна і старасць. І яшчэ гора. Варта мне заплюшчыць вочы, і ён з'яўляецца ў канцы вуліцы, высокі і сутулы, і гаворыць:

— А ты нічога, Кіруха...

Я прыехаў у свой горад праз многа гадоў. Памкнуўся было знайсці месца, дзе жыў калісьці, і не знайшоў. Усюды былі новыя дамы. І яшчэ я шукаў месца, дзе стаяла хатка Лявонавіча. Але там быў

сквер з круглымі кветнікамі аранжавага колеру. Тады я пайшоў у бібліятэку. Я доўга шукаў ТЫЯ кнігі. І знайшоў некалькі. Я дакрануўся рукой да халаднаватых вокладак і адчуваў, як апаноўвае мяне рой успамінаў і як расце, шырыцца вечная, ніколі не праходзячая цеплыня каля самага сэрца.

# Адзін дождж на ўсіх

Сядзець на заднім сядзенні кепска — аўтобус падкідвае на выбоінах, і некалькі разоў Міцька ледзь не стукнуўся галавой аб зялёны падрапаны дах. Бацьку яшчэ горш — ён высокі і сядзець яму даводзіцца, уцягнуўшы галаву ў самыя плечы, а аўтобус трасе, трасе... Едуць яны даўно. Маці дрэмле, паклаўшы галаву на сінюю гастрольную сумку, бацька думае аб нечым, а Міцька глядзіць у акно. Па небе хутка праносяцца касматыя аблокі. Вецер не сціхае з самага ранку. Гэта ён, моцны, шалёны, пашматаў аблокі на дробныя кавалачкі. Дрэвы ўздоўж дарогі голыя і бліскучыя ад дажджу. Вецер гойдае іх у розныя бакі і палівае дробным, як туман, дажджом.

Нарэшце па абодвух баках дарогі пачынаюць з'яўляцца невялікія і вельмі падобныя адзін на адзін домікі. Спачатку рэдка, а пасля ўсё часцей і часцей. Міцька тузае за руку бацьку:

— Глядзі, прыехалі...

— Можа быць,— вяла адказвае бацька, нават не зірнуўшы ў акно.

Міцька пакрыўдзіўся на бацьку, але не вельмі. Ён разумеў, што бацькам не хочацца ехаць з вялікага горада ў гэты маленькі гарадок. Яны доўга раіліся, як быць, бывала, моцна лаяліся, і нават у сваім пакоі Міцька не мог схавацца ад іхняга крыку. Раней Міцькавы бацькі працавалі ў сапраўдным, прафесійным ансамблі песні і танца. Яны часта бралі Міцьку на канцэрты, і ён ганарыўся, калі

бацька лёгка — здалёк не было відаць маршчын на ягоным твары і быў ён такі малады, прыгожы,— пускаўся ўпрысядку або калі мама разам з іншымі артысткамі выконвала любімы Міцькаў танец — «Бярозанька». Яму здавалася, што яна лягчэй за ўсіх рухаецца па сцэне, быццам плавае. І твар яе свяціўся ад усмешкі, і Міцька бачыў, што ўсмешка ў яе больш натуральная, чым у іншых. Быццам яна і не на сцэне, а ўсміхаецца яму дома.

Праўда, аднойчы Міцьку пасцігла расчараванне. Упершыню за ўвесь час пасля канцэрта ён пабег за кулісы і ўбачыў, што бацька так цяжка дыхае, што нават яго не заўважае. Ён у тую хвіліну нагадаў Міцьку баксёра, якога ён неяк бачыў па тэлевізары. Баксёр пасля бою сядзеў у сваім кутку, абліваючыся потам. Бацьку трэба было выходзіць на сцэну, але ён ад стомы не мог скрануцца з месца. Ружовы грым адстаў, і па маршчынах цёк пот. Міцьку стала шкада бацьку, і ён даў сабе слова, што больш ніколі не будзе хадзіць за кулісы.

І вось бацьку і маці настаў час ісці на пенсію. Танцоры наогул рана на пенсію ідуць. Бацька на пенсію ісці не хацеў, сварыўся з кіраўніцтвам ансамбля... Міцька не ведае, што яму там адказалі, але неўзабаве бацька прыйшоў дамоў і сказаў Міцьку:

— Вось мы з мамай і пенсіянеры...

Некалькі месяцаў Міцькавы бацькі шукалі якуюнебудзь больш-менш прыстойную работу, але ўсе добрыя месцы былі занятыя, а на дрэнныя, якіх было колькі хочаш, бацька ісці не згаджаўся і маме не дазваляў. Тады Міцька вырашыў дапамагчы ім.

— Тата,— сказаў ён,— а чаму б табе не пайсці ў міліцыянеры? Воўкаў бацька з суседняга двара

з завода пайшоў. І нічога. Воўка ходзіць цяпер задраўшы нос. Яго бацьку новенькую форму далі.

Але бацька толькі ўсміхнуўся і сказаў:

— Дзівак ты, Міцька.

Неяк бацька сустрэў старага знаёмага з горада, дзе сам бацька калісьці жыў. Там арганізоўвалі ансамбль, а добрых кіраўнікоў не было. Міцькаў бацька прыйшоў дамоў і сказаў маці:

— Паехалі на год-два, а там будзе відаць.

Усе знаёмыя гаварылі, што няма сэнсу ехаць кудысьці ў глухамань. Пенсіі хоць і невялікія, а жыць можна. У сорак гадоў, вядома, дома сядзець не будзеш. Але ж можна знайсці работу, і не абавязкова звязаную з танцамі. Толькі бацька іншай работы не хацеў, а маці яшчэ больш не хацела ад'язджаць, хоць бы нават і на год, са сваёй дагледжанай кватэры. І таму яны часта сварыліся.

Аўтобус вырулíў на плошчу, усеяную вялікімі і маленькімі лужынамі. Выйшаў бацька з двума вялікімі чамаданамі, потым мама і нарэшце Міця. Дождж церушыў у твар, і Міцька спачатку заплюшчыў вочы. Калі адкрыў іх, то ўбачыў, што плошча зусім маленькая і дамы вакол яе таксама маленькія, зусім як тыя, што былі на ўскраіне. Міцьку раптам зрабілася вельмі сумна і захацелася ў іх утульную, прыгожую кватэру з тэлевізарам і вялікім акварыумам. Праўда, акварыум цяпер пусты — Міцька перад самым ад'ездам аддаў рыб свайму сябру Валіку Пятрову і сказаў:

— Глядзі зберажы. Я прыеду — забяру...

— Пайшлі,— сказаў бацька.— Відаць, Нікалайчук спазніўся нас сустрэць. Але я і сам ведаю, дзе гасцініца. Яна стаіць на тым месцы, дзе калісьці была старая.

Міцька з маці пайшлі следам за бацькам. Калі яны павярнулі з плошчы на вузкую вулачку, удале-

чыні паказаўся высокі чалавек у доўгім расшпіленым паліто. Бацька паставіў чамаданы на тратуар і сказаў:

— Ну, вось і ён, Нікалайчук. Я ведаў, што ён прыйдзе.

Нікалайчук зблізку аказаўся проста высачэзным. Ён, відаць, спяшаўся, таму што задыхаўся. Сказаў бацьку:

— Ну, здароў, Сямён!

І пачаў абдымаць яго так моцна, што Міцьку здалося на момант — бацька адрываецца ад зямлі. Маці Нікалайчук пацiснуў руку і сказаў:

— Даўненька мы не бачыліся, а ты нікольki не змянілася.

Міцьку Нікалайчук сказаў:

— А ты ўжо зусім не драбяза.

— Хутка ў школу пайду,— крыху пакрыўджана адказаў Міцька.

Яны пайшлі да гасцініцы. Гасцініца была невысокая, у два паверхі, але не драўляная, як амаль усе дамы вакол, а цагляная. Дзяжурная добра ведала Нікалайчука. Яна ўсміхнулася і спытала:

— Гэта і ёсць новыя жыхары?

— Так,— адказаў Нікалайчук,— часовыя. Месяцы на тры, не больш.

Ён узяў ключы, і яны пайшлі на другі паверх. Пакой быў вялікі. Амаль такі, як іх вялікі пакой у Мінску. Толькі акно было крыху большым. У пакоі стаялі два драўляныя ложкі, круглы стол, пакрыты белым абрусам, і чатыры крэслы. У кутку месцілася падрапаная карычневая шафа з квадратным люстрам пасярэдзіне.

— Вось тут пакуль і будзеце жыць,— сказаў Нікалайчук.— А цяпер давайце адзначым прыезд.

Нікалайчук паставіў на стол бутэльку гарэлкі, а мама дастала з вялікай гастрольнай сумкі каўба-

су, кансервы і батон. Міця прагаладаўся і радаваўся, што пасля доўгай і сумнай дарогі можна будзе паесці і да канца дня не выходзіць на вуліцу.

— Так, вось і прыехалі нечакана ў свой горад. Амаль не памятаю, дзе жыў,— сказаў бацька.— Адно ведаю — у канцы Савецкай. Як цяпер гэта вуліца называецца?

— Так і называецца — Савецкая. Толькі даўжэйшая яна стала разы ў два.

— Старыя тады прадалі дом і паехалі адсюль... Навошта? Можа, і зараз жылі б тут. Спакойна, паветра добрае,— прамовіў бацька і дадаў: — Ну, давайце вып'ем. А ты, Маша, чаго?

Ён наліў жонцы ў кілішак крыху гарэлкі і махнуў рукой:

— Цяпер можна. Мы ж з табой пенсіянеры.

Дарослыя выпілі і расчырванеліся.

— А памятаеш, Сямён, як ты марыў, каб ансамбль прыехаў на гастролі ў гэты гарадок? — сказала маці.

Бацька ўздыхнуў:

— Так і не прыехалі. Дарэчы, хто мяне памятае тут. Хлапчуком быў, калі з'ехалі адсюль.— Бацька ўсё больш хмялеў і гаварыў ужо без перапынку: — Ніколі не думаў, што вось так усё атрымаецца. Марыў вялікім танцорам стаць, як вось Эсамбаеў...

— Не падлівайце яму больш, не трэба,— сказала маці.

— Папрацуеш у нас гадок-другі. Афармім і цябе і жонку на некалькі ставак, будзеце задаволены,— супакойваў бацьку Нікалайчук.

Калісьці ў Міцькавага бацькі была іншая сям'я. Жонка і сын. Сына звалі Валерам. Мабыць, Міця і не даведаўся б ніколі пра гэта, калі б былая бацы-

кава жонка не аказалася жанчынай безнадзейна скандальнай. Яна прыходзіла ў ансамбль і пры ўсіх усчыняла лаянку з Міцькавым бацькам. Міцька тады яшчэ нічога толкам не разумеў. Ён бачыў толькі, што маці прыходзіць з работы яшчэ больш стомленая, чым звычайна, а бацька становіцца на некалькі дзён маўклівым. Але вось аднойчы гэта жанчына прыйшла і да іх дамоў. Яна крычала так, што на пляцоўку выбеглі суседзі. Міцька забраўся ў самы далёкі куток у іхняй кватэры — цёмную кладоўку — і сядзеў там нерухома, а маці бясконца паўтарала бацьку:

— Выгані яе прэч. Чаго ты сядзіш?

Відаць, бацька так і зрабіў. Крык пачаў аддаляцца, а неўзабаве і зусім сціх.

Міцька спытаў у бацькі, калі той вярнуўся ў пакой:

— Хто гэтая цётка і чаму яна так маму аблаяла?

Бацька махнуў рукой:

— Гэта мамачка твайго брацікa.

— А як завуць майго брата? — спытаў Міцька. Яму карцела даведацца пра гэта хутчэй.

— Валера. І ён тут ні пры чым,— сказаў бацька.— Але, дарэчы, ты вельмі цікаўны. Падрасцеш і сам зразумееш усё.

Пасля ўжо Міцька зразумеў, што ў яго бацькі, як кажуць дарослыя, «не ўдалося жыццё» з першай жонкай. Гэта яго не вельмі хвалявала. Затое абураў іншы факт — яго бацька яшчэ і бацька нейкага зусім чужога хлопчыка па імені Валера. Міцька гэтага сабе ўявіць не мог. Але гэта было на самай справе.

Іншы раз Міцька раздумваў, што здарылася б, каб ён сустрэў гэтага Валеру. Але так ні да чаго і не дадумаўся. І ён пастунова забыўся і на крыклівую жанчыну і на яе сына Валеру. І вось цяпер,

разглядаючы праз гасцінічнае акно шэрую вуліцу, Міцька падумаў, што, можа, і выехалі яны са свайго вялікага прыгожага горада з-за той жанчыны...

У гасцініцы Міцька часта заставаўся адзін. Ён прасіўся ў бацькі з маці, каб узялі яго з сабой на работу, але бацька адмаўляў яму, спасылаючыся на занятасць. Часта ён дакараў Нікалайчука за тое, што той «задумаў ягонымі рукамі за нейкі год зрабіць на пустым месцы ансамбль танца, ды яшчэ народны». Маці бацьку супакойвала:

— Але ж ёсць нядрэнная моладзь. Можа, штонебудзь атрымаецца.

Але бацька ад гэтага не весялеў. Ён усё больш маўчаў.

А мама працягвала яго суцяшаць:

— Год-другі пабудзем і паедзем дамоў. Умовы нядрэнныя. Надакучыла мне вечна сядзець у даўгах і пастаянна ламаць галаву, дзе ўзяць грошай.

Неўзабаве бацька пачаў прыходзіць дамоў п'яны. Міцька раней не бачыў яго такім.

Маці не дакарала. А распранала яго, быццам маленькага, клала спаць і ўсё пыталася — ці то ў Міцькі, ці то сама ў сябе:

— І што мне рабіць? Няма каму параіць. І ты, Міцечка, параіць не можаш.

Міцька ківаў галавой:

— Не магу. Толькі ты папрасі тату, каб ён не піў больш.

Маці плакала, і Міцька адчуваў, як у яго шчыплє вочы і хочацца плакаць, быццам яго нехта моцна пакрыўдзіў.

З бацькам гэта працягвалася нядоўга. Збялелы і яшчэ больш пастарэлы, ён прападаў на рэпетыцыях, нешта разам з мамай абмяркоўваў па вечарах. Глядзеў футбол або што-небудзь чытаў і часта пытаў у мамы:

— Ты там што-небудзь пра нашых чула?

— Не.

— Відаць, на гастролях. Пагаворвалі, што ў Балгарыю павінны ехаць, ды вось у газеце так нічога і няма.

— Можа, і паехалі... Проста не напісалі...

І маці, і Міцька ведалі, што бацьку страшэнна цягне ў вялізны рэпетыцыйны пакой філармоніі, што ён сумуе па ансамблі, ды толькі выгляду не падавалі. Міцька ўпэўнены быў, што і маці таксама хацелася б зараз выйсці на сцэну ў саставе ансамбля. Толькі яна ні разу не гаварыла аб гэтым. Пэўна, таму, каб бацька зноў не вярнуўся да бутэлькі.

Маці з бацькам ішлі на рэпетыцыю, а Міцька, ухутаны так, што паварушыцца цяжка было, выходзіў у двор гасцініцы. Тут было сумна, таму што не было нікога. Міцька хадзіў па двары, пасля, сіні ад марозу, ішоў у нумар і, гартаючы які-небудзь часопіс, чакаў бацькоў.

Але нарэшце і ён змог выходзіць неўзабаве ў самы сапраўдны «хатні» двор — ім далі невялікую аднапакаёвую кватэру непадалёк ад Дома культуры. У двары Міцька хутка перазнаёміўся з усімі хлопчыкамі і дзяўчынкамі. Асабліва пасябраваў ён з Лёнькам — вельмі тоўстым, але рухавым хлопчыкам. Праўда, спачатку Міцька хацеў Лёньку нават пабіць.

— А хто твае бацькі? — спытаў Лёнька пры знаёмстве.

Міцька сказаў:

— Артысты.

Сказаў па прывычцы — бацька ж і маці даўно ўжо не былі артыстамі.

Лёнька раптам зарагатаў:

— Артысты! Артысты з пагарэлага тэатра. Хіба сапраўдныя артысты паедуць у такую глухамань?

Ён гаварыў з чужых слоў. Міцька гэта адразу зразумеў. Ён наогул адразу разумеў, калі гавораць з чужых слоў.

Ён схапіў Лёньку загрудкі і пачаў трэсці з такой сілай, што ў таго не засталося гузікаў на паліто. Ад крыўды Міцька плакаў і бясконца паўтараў:

— Я табе пакажу...

Лёнька вырваўся і ўцёк. А назаўтра падышоў да Міцькі і сказаў:

— Ты не злуйся, дурань. Гэта я чуў. Цётка Нюра з вашай пляцоўкі маёй маме гаварыла. Вось і я...

— А ты дурнем не будзь,— сказаў Міцька,— інакш яшчэ не так атрымаеш. А якія мае тата з мамай артысты, усе хутка ўбачаць. Тады і скажаш.

Сказаў Міцька і падумаў — хутчэй бы гэта «хутка» надышло.

Увечары ён сказаў маці:

— Цётцы Нюры больш прас не давай. Яна брыдкая.

— Адкуль ты гэта ўзяў? — здзівілася маці.

Але Міцька палічыў за лепшае прамаўчаць у адказ.

Праз месяц пасля таго як іх сям'я пераехала ў аднапакаёвую кватэру непадалёк ад гасцініцы, зрабілі невялікае наваселле. Прыйшоў Нікалайчук з жонкай, дырэктар Дома культуры Рудольф Іванавіч, яшчэ некалькі чалавек. Міцька з імі знаёміўся, але так і не запомніў усіх імёнаў. Дырэктара Міцька адразу прыкмеціў — быў ён самым вясёлым, гаварыў няспынна і паспеў, акрамя ўсяго, пагутарыць з Міцькам пра яго новых сяброў і пра тое, як рыхтуецца ён да школы. Міцька не мог расказаць нічога асаблівага. Сяброў у яго было пакуль яшчэ няшмат, а да школы ён ніяк не рыхтаваўся.

Калі не лічыць, што мама яшчэ год назад навучыла яго чытаць і пасля сама аб гэтым шкадавала — Міцька чытаў усё без разбору. Прывяло гэта да таго, што ўрач прапісаў яму акуляры, якія ён проста цярпець не мог.

Усе шмат гаварылі, смяяліся, а Міцькаў бацька быў сумны. Калі госці пайшлі, ён усё пытаўся ў мамы:

— Скажы, няўжо мы і на самай справе нічога ўжо па-сапраўднаму не можам. І заслужылі пахвалу толькі гэтых людзей? Не верыцца мне, што яны шчырыя. Проста шкадуюць нас...

Мама супакойвала бацьку:

— Кінь ты. Я проста не ведаю, што з табой адбываецца. На рэпетыцыі ўсё было цудоўна. І таленту ў нас не паменшала.

— Дзякую,— сказаў бацька.

— А што, была ўжо генеральная рэпетыцыя? — спытаў Міцька і дадаў: — А мяне вы не паклікалі.

— Чаго гэта ты не спіш? — здзівіўся бацька, быццам зараз толькі заўважыў яго.— Марш у пасцель. А на рэпетыцыі не вельмі цікава. Праз два дні канцэрт, і ты будзеш сядзець на самым першым радзе.

Міцька хуценька сказаў, што яму падабаецца больш на рэпетыцыях, чым на канцэрце. Праўда, на канцэрце заўсёды святочна, урачыста, але на рэпетыцыі затое можна ўбачыць, як стараюцца танцоры. Як хвалююцца ўсе, крычаць адзін на аднаго, абціраюць пот з ілба... Але сказаць гэтага Міцька не паспеў. Ён заснуў.

Два дні Міцька жыў у чаканні канцэрта. Ад нецярпення яму нават не хацелася гуляць у двары ў «шпіёнаў» і чытаць. Ён проста сядзеў і марыў аб будучым канцэрце. Яшчэ ён успамінаў усе канцэрты, у якіх бачыў на сцэне бацьку і маці...

І вось маці дастала з чамадана лепшы Міцькаў касцюм — ён надзяваў яго толькі на сьвяты і калі ішоў на канцэрт.

Міцька спытаў:

— А сядзець я буду на першым радзе?

— Так,— адказала маці.— Бацька ніколі не хлусіць. Ты ж гэта ведаеш.

Міцьку зрабілася сорамна за сваё пытанне. Ён ведаў: бацька сапраўды ніколі і нікому не хлусіў.

Людзей у Доме культуры было няшмат. Да канцэрта заставалася яшчэ з гадзіну. Маці пасадзіла Міцьку на яго месца і хутка пайшла за кулісы. Ёй трэба было загрымíравацца і пераапрануцца. Можна было пайсці прагуляцца па Доме культуры, але Міцька апасаўся, каб не занялі яго месца, і цярпліва чакаў.

— Малайчына, першым прыйшоў,— пачуў ён голас побач. Гэта быў Нікалайчук.— Хвалюешся за бацькоў?

— Не. Чаго хвалявацца? — здзівіўся Міцька.

— А я хвалююся. Сам не ведаю чаму,— сказаў Нікалайчук.

Міцька пачаў шукаць вачыма каго-небудзь са знаёмых хлопцаў. Але нікога не было. Міцька перажываў — ніхто не ўбачыць яго ў першым радзе і яго маці з бацькам на сцэне.

Святло пагасла. Сцэну асвятлялі сіні, чырвоны і зялёны промні пражэктара. Выйшла маладая жанчына, якая заходзіла неяк да маці, і аб'явіла, што будзе выступаць ансамбль танца. І назвала прозвішчы мастацкіх кіраўнікоў — бацькі і маці Міці.

— А цябе хутка са сцэны аб'яўляць пачнуць? — спытаў у Міцькі Нікалайчук.

Міцька паціснуў плячамі. Ён над гэтым не задумваўся ні разу. Яму, праўда, хацелася навучыцца

танцаваць не горш, чым маці або бацька, але маці сказала, што ў жыцці можна абысціся і без танцаў.

Зайграла музыка. На сцэну быццам вырваўся асенні вецер, што сустрэў іх у гэтым гарадку. Міцька ведаў гэты танец. Яго выконваў ансамбль, дзе раней працавалі бацькі. Бацька і тады быў салістам і зараз таксама. Ён здорава танцаваў. Твар у яго расчырванеўся, жылы на шыі ўздуліся. Здавалася, што ён зусім не дакранаецца нагамі да сцэны і быццам ляціць.

— Не зламаўся твой бацька, не зламаўся! — гаварыў Нікалайчук.— Вось гэта работка!

— А хіба чалавек можа зламацца? — спытаў Міцька.

Нікалайчук не знайшоўся што адказаць.

Тады Міцька сам прыйшоў яму на дапамогу:

— Чалавек жа не галінка ад дрэва...

— Не, Міцька. Іменна, як галінка. Адломіш яе, і расці ўжо больш ніколі не будзе. Засохне. Вось так і чалавек можа.

Міцька ніяк не мог зразумець, якія гэта мае адносіны да ягонага бацькі, але тут жа забыўся на словы Нікалайчука. На сцэне побач з бацькам была маці. Яна па-ранейшаму рухалася лёгка і павольна, як некалі ў сваім ансамблі, і Міцьку цяпер таксама здавалася, што ўсе апладысменты залы адрасаваны ёй.

...Пасля канцэрта было шмат кветак, бацьку і маці спачатку віншавалі на сцэне, потым за кулісамі. Маці ад радасці смяялася, бацька ўсмешку хаваў, але Міцька бачыў, што яму таксама прыемныя і поспех, і віншаванні.

Дома бацька з маці пілі шампанскае, частавалі Міцьку цукеркамі і маўчалі.

— Ты задаволены? — спытала нарэшце маці.

Бацька ўсміхнуўся.

— Ведаеш,— сказаў ён,— гэты дзень многае вырашыў. Я не хацеў дый баяўся гаварыць табе... Словам, я вырашыў ехаць назад. Пакуль што адзін. На некалькі дзён. Пайду ў ансамбль і папрашуся, каб назад узялі. Няхай паглядзяць, нарэшце. Мы ж не горшыя, чым раней, га? Я сябе ўчора адчуваў нават лепш. Чорт з ім, няхай бяруць нават не ў салісты, але толькі б у ансамбль. Як думаеш, згодзяцца яны, не ўзнімуць на смех?

Маці маўчала і толькі ківала галавой. Бацька сам адказаў на сваё пытанне:

— Ну і чорт з імі, няхай смяюцца. Але не магу я без сцэны, не магу. Ты таксама не можаш, толькі не гаворыш нічога, я ж бачу. Ты мучышся не менш за мяне. Не падыходзіць нам усё гэта. А мы ж не старыя яшчэ і не горш за іншых танцуем, га?

— Ты стаміўся,— ціха сказала маці.— Кладзіся. Ты заўсёды быў падобны на хлапчука і, відаць, ім застанешся. Калі хочаш, заўтра едзь. І на самай справе, вернемся ў ансамбль. А цяпер кладзіся спаць.

— Добра, што ты мяне разумееш,— гаварыў бацька.— Заўтра і паеду першым аўтобусам. Калі «дабро» скажуць, у той жа дзень вярнуся. У Нікалайчука папросім прабачэння. Ён зразумее.

...Раніцай Міцька прачнуўся і знайшоў на стале запіску, напісаную мамінай рукой: «Пайшлі з татам на рэпетыцыю. Сняданак на стале. Не адыходзь далёка ад дому. Абедаць прыйдзем, як заўсёды».

## Адзін рэйс

Згадзіну, відаць, прайшло з таго часу, як яго машына згубіла дарогу. Сяргей чыркнуў запалкай. Так і ёсць — гадзіна прайшла. Значыць, кіламетраў трыццаць праехаў. І як гэта ён збіўся са шляху?! Трэба было ехаць назад, калі толькі зразумеў гэта. Але дзе гэта «назад»? Наўкол на дзве-тры сотні кіламетраў ні душы.

Злаваў ён і на самога сябе, і на Івашына. Трэба ж было паслаць іменна яго. Нічога не здарылася б, каб пастаялі бульдозеры дзень-другі без паліва. Прагноз з самага пачатку прадказваў завіруху. Якое ўжо тут паліва... Толькі паспеў падумаць так, як адразу ж злавіў сябе на думцы, што ні Івашын, і ніхто іншы, не пасмеў бы загадаць яму адпраўляцца ў рэйс. Спадзяваўся праскочыць...

Палез у кішэню па цыгарэты, але не змог паварушыць пальцамі. Зубамі сцягнуў рукавіцу. Кончыкі пальцаў безжыццёва белыя — ні крывінкі...

Напэўна, гэтак жа пачынаў замярзаць год назад Федзька Старцаў. Вырашыў сагрэцца спіртам, заснуў і больш не прачнуўся. Знайшлі яго праз тры дні. Калі Федзькаў труп пачалі выцягваць з кабіны, ён трашчаў, быццам кавалак лёду.

Сяргей успомніў шырока раскрытыя Федзькавы вочы, у іх быў боль, якога сам Федзька ўжо, відаць, не адчуваў. Сяргей хацеў закрыць яму вочы, але з жахам адарваў руку. Вочы былі халодныя і цвёрдыя, быццам шкляныя шарыкі.

Ад гэтага ўспаміну зашчымела ў грудзях, падумалася: і во цябе так знойдуць.

Выцягнуў руку з другой рукавіцы, адчайна пачаў церці яе аб заінелы паўкажушок. Адчуў нарэшце боль.

Значыць, ёсць у іх жыццё. Адыдуць, значыць. Галоўнае — церці іх, церці да таго часу, пакуль не пачнуць пальцы наліваецца крывёй. Падобнае адчуваў ён, прыбягаючы з марозу пагрэцца да горача напаленай печы. Маці давала яму гарачага малака... Зараз бы хоць глыток. Ёсць у яго біклажка са спіртам. Але Федзька таксама грэўся спіртам...

Перад ім была ноч. Халодная і абыякавая да снегу, і да яго самога, і да ўсяго на свеце.

...У губу ўпілося нешта гарачае, пякучае. Сяргей сплюнуў агарак цыгарэты і, саскробшы пазногцем снег з бакавога шкла, прыклаў яго да губ. Нядаўна прачытаў ён у адным часопісе, што знайшоў у бараку, артыкул пра рак. Ён так і называўся: «Рак». Пісалася ў артыкуле, што калі дакурваць цыгарэту вось так, да канца, дык можна займець рак губы. З таго дня ён пачаў дакурваць цыгарэты толькі да палавіны.

Цяпер ёсць шанс адправіцца на той свет проста так.Ператварыцца ў лядзяш...

Ён не мог уявіць сабе сваю смерць. Яго — і раптам няма. Быццам і не было ніколі. У дзяцінстве ён склаў сваю ўласную тэорыю смерці: памірае чалавек, а пасля зноў нараджаецца, толькі ўжо зусім іншым чалавекам. І так бясконца. Аднойчы, гледзячы на малодшую сястру, што плакала ў люльцы, спытаў у бабкі: «Гэта што, цётка Каця, якую хавалі нядаўна, зноў нарадзілася?» Бабка перахрысцілася і агрэла яго па спіне качалкай. «Нехрысць, вось табе, нехрысць...» Пасля гэтага яна некалькі

разоў вадзіла яго з сабой у царкву і прымушала завучваць малітвы.

Ад бацькі дасталося бабцы:

— Ордэн Славы ў мяне, фатаграфія на Дошцы гонару, а ты мне сына калечыш!

Цяпер яго смерць зусім побач. Халодная, як стэп. І ўсё, што перад ім цяпер — апошняе. Абаранак, завіруха... Не ўбачыць ён нават вушэй Івашына. Калі той злаваўся, вушы ў яго трэсліся. Крычыць ён на каго-небудзь, а той стаіць, рагатаць гатовы, ногі аж падгінаюцца, так трасе.

Неяк ён, не доўга думаючы, сказаў Івашыну: «Вы, таварыш начальнік, вушы прытрымайце, а то, чаго добрага, адваляцца». Івашын сціх і да яго больш не лез.

Тосьцы пярсцёнак ён ужо не падорыць. Ужо і грошай накапіў! Бразготку якую-небудзь, якія ў іхняй вёсцы дзяўчаты насілі, не хацелася. Іншая справа — залаты пярсцёнак. Ведай нашых! І што Тоська за дзеўка такая? Ні разу яму такой не сустракалася. Другі год ходзіць за ёй, быццам прывязаў хто. Не тое каб кахаў ён яе... А што такое каханне? Ніхто дакладна не ведае. У кнігах, нават самых тоўстых, незразумела пра гэта пішуць. А ён тым больш не ведае, што гэта такое. Івашын неяк выпіў і крычаў, што кахання наогул няма. Дык ён — ясна, чаго так крычаў. Прыехаў да іх шафёр новенькі, з арміі толькі дэмабілізаваўся, завёў шашні з яго жонкай. Івашын пра ўсё дазнаўся — шафёру фізіяномію расфарбаваў, жонцы яшчэ больш дасталося. Той хлапец паехаў, а жонку Івашын не кінуў. Кажуць, б'е зрэдку, потым плача і гаворыць, што кахання няма. Усякае бывае... Толькі Тоська не такая. Няхай бы яму што хочаш гаварылі — не паверыў бы. Маці яму піша, маўляў, калі там на тваёй Поўначы дзяўчат няма, дык

прыязджай дамоў. На Магілёўшчыне дзяўчаты не перавяліся, дзякуй богу. Не, калі ён ужо выберацца з гэтай завірухі, Тоську нікому не аддасць. Чорта лысага!

Раптам сярод марозных узораў, што размалявалі ветравое шкло, убачыў ён Тосьчын твар. Вочы глядзяць з дакорам. Здаецца, гавораць: «Дурнянькі, і трэба ж было ехаць, га?..» А на галаве ў Тоські зіхатлівая карона з крышталікаў складзена. Крышталікі гэтыя перабягаюць на твар, запаўняюць сабой рысы, і вось ужо Тоські няма. Сяргей углядаецца ў шкло, крычыць: «Куды-ы-ы?»

Калі б не крык свой уласны, не прачнуўся б ён зусім. Машына стаіць на месцы... Ён паспрабаваў націснуць на газ, ірвануць на сябе рычагі, але рукі — ватныя, безжыццёвыя, не варухнуліся нават. І ногі таксама змярцвелі.

— Замярзаю!..— закрычаў ён, здавалася, на ўвесь стэп. Але крык атрымаўся нейкі прыглушаны, здаўлены.

Што было сілы Сяргей націснуў на дзверцы кабіны. «Да вады, да вады... Толькі б не паспела замерзнуць вада!» Кулёмываліўся ў ноч. У твар ударыла ветрам, у адно імгненне заняло дых. Цела не слухалася, гнуліся пад яго ным цяжарам ногі.

«Рухацца!» — загадаў ён сабе. Хрыпеў нейкія словы і, размахваючы рукамі, скакаў, кожны раз правальваючыся ў снег.

У роце зрабілася салёна ад крыві, што пацякла з пакусаных губ. Сяргей сплёўваў крывавыя згусткі, думаючы аб адным — толькі б не замерзла вада. На лбе нарэшце выступіў пот, цела пачало выслабаняцца ад путаў, што скавалі яго.

Хопіць. Цяпер адкрыць капот. Рука наткнулася на цеплыню. «Не паспела!» — радасна падумаў ён.

Але ўсе пачуцці, якія ахапілі яго, былі дачасны-

мі. Машына не заводзілася. Пачуццё безвыходнасці зноў ажыло ў ім. З маторам нічога сур'ёзнага стацца не магло. Перад выхадам у рэйс працаваў як гадзіннік. Толькі бензаправод хацеў прачысціць і забыўся.

Ён паспрабаваў адкруціць гайку ад бензаправода. Нічога не выйшла — пальцы не адышлі, а тут яшчэ цяжкая, адубелая рукавіца. Сяргей адшпурнуў яе ў снег, адшпіліў ад пояса біклажку са спіртам і, зрабіўшы некалькі глыткоў, выліў астатні спірт на рукі. Пачаў церці іх.

Адразу ж пальцы прыліплі да гайкі. Аддзёрнуў руку і ўбачыў, што на гайцы застаўся ласкут скуры, а з пальца сочыцца кроў. Сцяўшы зубы, ён зноў узяўся за гайку.

Адшукаў у снезе рукавіцу, абгарнуў ёю канец бензаправода і, набраўшы ў лёгкія паветра, што было сілы дзьмухнуў. Залез у кабіну і глянуў на далонь. Доўга ёй цяпер загойвацца...

Матор завёўся, і машына, нібыта прачнуўшыся, кранулася з месца.

Боль крыху адагнаў сон. Каб не адмарозіць твар, ён праз некаторыя прамежкі часу саскрабаў са шкла снег і цёр ім вушы, нос, шчокі, пакуль не наліваліся яны крывёю.

Ён думаў пра тое, што будзе далей. Бензіну хопіць ненадоўга. І тады — заплюшчвай вочы і не тузайся. Кладзіся ў кабіне так, каб зручней выцягваць было. Ён спалохаўся таго, што думаў пра гэта, быццам староннí чалавек, быццам гаворка ішла не пра яго. Яму было ўсё роўна, што будзе далей, ён баяўся гэтага і нічога не мог з сабой зрабіць. І раптам ён адчуў — зараз будзе апошні правал. Вачэй ён не адкрые больш. Тады ён адважыўся — зываліўся з машыны і, крыху прытрымліваючы руль, пабег побач. На адной з выбоін машыну пад-

кінула, і яна рванулася ўлева. Матор заглух. Яго позірк спыніўся на чорнай пляме пад шынамі. Дарога! Ён поўзаў на каленях, гладзіў яе рукамі. Цяпер трэба трымацца! Трымацца! Пачынала днець. Крыху воддаль ён убачыў дрэва. Стары дуб, які невядома як вырас у стэпе. Ён добра ведаў гэты дуб. Шмат разоў праязджаў міма. І гулі над галавой правады электралініі. Уздоўж дарогі ішлі слупы. Кіламетраў сто засталося...

Відаць, з гадзіну ён заводзіў матор. Нарэшце яму гэта ўдалося.

Праз некалькі гадзін удалечыні паказаліся агеньчыкі. Спачатку Сяргей не звярнуў на іх увагі, думаючы, што проста-напраста рабаціць ад стомы ў вачах. Але агні не знікалі. Іх станавілася ўсё больш.

«Воўчая зграя!» — падумаў ён. Але іх вельмі многа, і яркія яны для ваўчыных вачэй. Прыбавіў газу. Неўзабаве зразумеў, што агні тыя не што іншае, як вокны дамоў. Вокны маленькія, падобныя на амбразуры. Амаль такія, як у іхніх бараках.

...Ля самага першага ён спыніў машыну. Калі вылез, убачыў людзей, якія беглі насустрач. Валька Турбін бег першы.

— Глядзіце, ды гэта ж Сярожка, Сярожка-а-а!!!

Сяргей, спатыкаючыся, ішоў ім насустрач, апусціўшы долу падраныя, акрываўленыя далоні. Ішоў і думаў: «Хоць бы не заплакаць ад радасці, а то ўбачаць слёзы...»

# Падарожжа па старому завулку

Дзень выдаўся проста на здзіўленне — бязветрана, марозік зусім лёгкі, толькі крыху шчокі пашчыпвае. Іваноў павольна крочыць вуліцай, мошчанай круглай галькай. Абапал вітрыны, быццам ідзеш па дне старога, абшарпанага акварыума — надпісы на іх амаль сцерліся, і толькі здагадвацца можна, што гэта «майстэрня гадзіннікаў», а не «...стэрня ...дзіннікаў».

Гэта яго вулачка. Ён тут вырас, дзяцей выгадаваў, адсюль ваяваць пайшоў. Колькі ўжо гадоў мінула, як пераехаў у новы раён, у прасторную з усімі выгодамі кватэру, пераехаў з дзецьмі і сваёй старой жонкай, але як толькі выдаецца вольная хвіліна, ідзе на сваю вулачку. Моцна трымае яго гэта месца.

Па небе праплылі калматыя аблокі, і скрозь іх, высветліўшы старую вулачку і вітрыны, балюча разануўшы па вачах, ірвануўся сонечны прамень. Іваноў на імгненне прыжмурыў вочы, усміхнуўся. Побач, рукой да яе падаць, была шавецкая майстэрня Антона. Зрэшты, гэта вельмі гучная назва. На рагу каля самай аптэкі, заціснутая з усіх бакоў старымі сценамі дамоў, стаяла, пафарбаваная ў бледна-зялёны колер будка, дзе Антон кожнаму, хто меў патрэбу, мог зрабіць дробны рамонт абутку. Ну, а яму, Іванову, ён любую старызну, на якую і глядзець не хочацца, даводзіў да ладу.

Іваноў уявіў, як усміхаецца яму Антон.

Сцёртыя, адпаліраваныя да бляску камяні за-

вулка зведалі босыя хлапечыя ногі — яго і Антона. Яны жылі ў адным доме, біліся за сваю вуліцу адным гуртам і на завод цагельны, што стаяў да вайны зусім побач, разам хадзілі. Антон быў адным з першых у горадзе рэгбістаў. Раней яны і слова такога не чулі, пакуль не з'явіўся тут француз Жан — ён прыехаў устанаўліваць абсталяванне на гарбарным заводзе. Жан і арганізаваў каманду па рэгбі. Іваноў таксама ганяў мяч.

А можа, і не было ўсяго гэтага? Ногі паволі набліжаюць яго да майстэрні Антона, хоць і шпарчэй хочацца яму ісці, хочацца перагнаць усіх прахожых, большасцю чамусьці маладых. З Жанам яны зноў сустрэліся праз колькі гадоў. Да таго часу Антон прывык да свайго становішча і калі-нікалі гаварыў Іванову:

— Лепш бы мяне, Алёха, вайна пабіла, як цябе, з усіх бакоў, а ногі пакінула.

Француз прыехаў на бліскучай, на ўсю шырыню іхняй вулачкі, машыне, і яе адразу ж абступілі хлапчукі. Іваноў таксама спыніўся. Яго адшукаў у натоўпе ўнук Антона і пракрычаў:

— Гэта той самы француз, той самы!..

Іваноў нічога яшчэ не зразумеў, ён пайшоў да будкі шаўца і ўбачыў, як сівы тоўсты мужчына ціскае ў абдымках Антона і плача. Яны потым цэлы дзень пілі віно, пілі без абмежаванняў і боязі перад жонкамі і ўрачамі, пілі, як у маладосці. Аказалася, што француз цяпер працаваў у Маскве карэспандэнтам. Ён прасіў прабачэння, што раней не мог прыехаць, жыццё кідала яго па ўсім свеце.

Потым у вячэрняй газеце надрукавалі інтэрв'ю з французам Жанам, яго фатаграфію змясцілі. Француз гаварыў аб сваёй колішняй любві да Расіі і яшчэ аб тым, што Мінск яму асабліва дарагі — тут прайшло юнацтва, засталіся сябры. Ён гаварыў,

што яго сябрам, Антону і Іванову, горад і краіна абавязаны сваёй прыгажосцю, што такія людзі, як яны, перамаглі фашызм.

Да Антона пайшло адразу шмат кліентаў, яны трымалі ў руках газеты, і хто-небудзь адзін чытаў той кавалак, дзе пісалася пра Антона і Іванова. Антон сядзеў, глядзеў перад сабой, зрэдку хмурыўся, а часам усміхаўся і да канца дня ўжо не рамантаваў абутку. Іваноў таксама прыйшоў да яго з газетай і таксама чытаў тое месца, дзе пісалася пра іх, а Антон пытаўся:

— А можа, гэта і сапраўды так, га? — і стукаў сябе кулаком па пратэзах.

На майстэрні Антона замок. Відаць, захварэў. Звычайна ў такі час у Антона самая работа.

Іваноў дайшоў яшчэ да адной вітрыны і раптам блізка-блізка ўбачыў у ёй сваё адлюстраванне — паліто выглядае вялікім пацёртым мяшком, заяц на шапцы паліняў. Даўно думаў апрануцца як след, ды ўсё замінка выходзіла — дачцэ паліто справіць трэба, а ў зяця з яго ста рублямі ў месяц вечныя праблемы, унучка ў школу ідзе — таксама дапамагчы трэба, не хоча ён, каб Ганна, жонка яго, зусім у старую бабулю ператварылася, таксама растраты... І былі яшчэ ў яго растраты. Ніхто не ведаў пра іх.

Нядаўна далі яму прэмію вялікую, дык і яе не на сябе патраціў...

Іваноў адвярнуўся ад акна, што выходзіла ў густы парк. За паркам была яго вулачка — старыя, цудам уцалелыя ў вайну дамы. У апошні час з-за вечных клопатаў ён бываў тут рэдка, ды вось зноў лёс прывёў.

Іваноў глыбока ўздыхнуў, пачаў разглядваць невялікія трэшчыны на белай століі. Калі яму не дазвалялі варушыцца, ён паспеў вывучыць столь, як

ваенную карту. Іншы раз бачыліся ў ёй рэкі, азёры, складзены з дробных палосак, штрышкоў узнікаў раптам твар знаёмага чалавека, якога ён тысячу гадоў не сустракаў і нават не ўспамінаў пра яго...

Але сёння столь была шэрая і невыразная. Колькі людзей, прыкаваных да пасцелі, гэтак жа, як ён, разглядалі яе?

Іваноў зноў цяжка ўздыхнуў.

— Вам кепска? — пачуўся голас суседа па палаце.

— Сон прысніўся,— сказаў Іваноў.

Маўчанне. Сусед амаль бязгучна кашлянуў некалькі разоў. Іваноў ведаў — у яго чацвёра ўнукаў, персанальная пенсія і інфаркт — другі раз...

— Я ніколі нічога не баяўся, паверце мне,— гаварыў сусед, павярнуўшыся да Іванова.— Ні работы, ні дрэнных людзей, і смерці таксама. І цяпер не баюся. Ведаю толькі — не вырвацца мне з гэтага белага меха жывым. Дзе вы бачылі, каб з рэанімацыі выбіраліся? Вам прасцей — ёсць шанс. Я тут другі раз, і трэцяга не будзе.

Іваноў ражком прасціны сцёр пот з твару. Няма чаго яму сказаць суседу. Ён смерці баіцца, а сусед самому сабе хлусіць, што не баіцца. Праўда, аказваецца, выгляд у яе не такі ўжо і страшны, як людзі малююць. Хіба вясёлка можа быць страшнай? А да яго смерць з'яўлялася ў выглядзе вясёлкі вось ужо каторы раз. Упершыню ён убачыў яе тады, тры тыдні назад. Заглянуў да знаёмай прадаўшчыцы, каб кофту купіць. Іваноў стараўся трымацца спакойна, як належыць, падзякаваў прадаўшчыцы за блакітную імпартную кофту, узяў скрутак пад паху і выйшаў з магазінчыка. Толькі непрыкметна для сябе паскорыў крок, быццам уцякаў ад некага, і думаў, як хутчэй дабрацца да Антонавай майстэрні, каб у яго скрутак на нейкі час пакінуць. Ён пра-

ціскваўся праз шчыльны натоўп прахожых, расштурхваў іх лакцямі, і апошняе, што ён убачыў перад тым, як зямля знікла з-пад ног, быў твар нейкага рыжага хлапца ў куртцы з маланкай і з маленькай дзяўчынкай на руках. Хлапец глядзеў на Іванова з нейкім здзіўленнем, і Іванову нават захацелася спытаць, чаму ён здзіўляецца, але не паспеў...

У бальніцы ён апрытомнеў і адразу не мог зразумець, дзе знаходзіцца. А калі зразумеў — пачаў рукой мацаць вакол, ён нават спытаў, дзе яго скрутак. І тады ён упершыню пачуў голас суседа па палаце. Сусед неяк няясна перапытаў, што мае на ўвазе Іваноў.

Ён, відаць, зусім не чакаў, што ягоны сусед з тварам мерцвяка, нерухомы, каля якога бясконца круціліся ўрачы, сядзелкі, калі-небудзь загаворыць.

Іваноў тады не паспеў нават добра зразумець, што можа адбыцца з-за гэтага скрутка. Ён зноў страціў прытомнасць. Пасля ўжо ён прыдумваў розныя варыянты наконт скрутка. Значыць, ён паваліўся, яго паднялі і адвезлі або аднеслі ў бальніцу. На скрутак маглі не звярнуць увагі. Адкуль ім ведаць, што ў ім кофта за сорак рублёў, да таго ж імпартная і колеру прыемнага — сіняя ў белую клетачку, і што Іваноў збіраў на гэту кофту грошы цэлыя тры месяцы, але з дзесяткай усё роўна не выкруціўся і ўзяў яе ў свайго зменшчыка Дзімкі Бурага. Дзімка аж рот разявіў ад здзіўлення — Іваноў, той самы Іваноў, які яго вось ужо гадоў пяць настаўляе, такі сем'янін, што любая баба пазайздросціць, раптам неяк крадком, каб ніхто не чуў, папрасіў пазычыць яму чырвонец да палучкі або крыху пазней, калі нарад няўдала ім закрыюць.

— Відаць, гульнуць вырашыў, Сямёнавіч? — здзівіўся Дзімка Буры.— На гарэлачку пацягнула...

— Каб цябе так усё жыццё цягнула,— прабур-

чэў Іваноў і, сунуўшы дзесятку ў кішэню камбінезона, пайшоў ад яго.

Цяпер у яго былі сорак рублёў, і ён мог ісці ў магазін на сваю вулачку, дзе яму абяцалі імпартную кофту. Але ён так і не данёс яе да майстэрні Антона.

Ноччу Іваноў чуў нейкі рух у палаце, быццам нехта па ёй хадзіў узад-уперад, аб нечым нягучна размаўляючы. Але вачэй ён, як ні стараўся, расплюшчыць не мог. Сон яго быў цяжкі, і хоць бы на імгненне вырвацца з яго было нялёгка.

Раніцай ён павярнуў галаву налева — на яго вулачцы нічога не змянілася, паўзлі па ёй трамваі, прахожыя запаўнялі іх, спяшаючыся схавацца ад дробнага частага дажджу, потым — направа. Ложак быў пусты. Іваноў раптам ясна ўспомніў, што так і не даведаўся прозвішча суседа па палаце. І імя таксама не даведаўся. Не да знаёмства ім было. Няўжо назаўсёды суседа павезлі?

Сястра прачытала гэтае нямое пытанне ў вачах у Іванова і сказала, каб ён не хваляваўся — суседу было кепска, але цяпер ужо лепш, і яго зноў вярнулі ў палату.

— Гэта добра,— усміхнуўся Іваноў.— Значыць, мы з ім пазнаёмімся яшчэ.

Сястра так нічога і не зразумела з ягоных слоў. Яна пакарміла Іванова з лыжкі маннай кашай, дала выпіць малака. Еў Іваноў старанна, так, каб ні малако, ні каша не сцякалі ў яго па падбародку. Ад напружання твар Іванова пачырванеў, увесь ён спацеў, быццам ад непасільнай работы.

Сястра сказала, што ён проста малайчына. Калі б усе былі такія пакорлівыя, паслухмяныя і да ўсяго яшчэ старанныя, яна б у два, а то і ў тры разы менш стамлялася на рабоце. Іваноў спачатку заўсміхаўся, забыўшыся нават у гэты момант пра

пусты ложак справа, а пасля сказаў, што ляжаць у такіх палатах ён прывык, толькі не ў бальніцах, а ў шпіталях. Як толькі ён пачаў гаварыць, сястра замахала рукой, маўляў, шкодна яму гэта, але потым прысела і сказала, каб ён расказваў нядоўга, яе за гэта ўрач будзе папракаць.

У вайну Іваноў у пяхоце служыў, што гэта такое, яна, сястра, павінна па кнігах ведаць ды па фільмах. Спачатку Іваноў шчаслівчыкам лічыўся — кулі міналі яго. Пасля кожнай атакі, гэта калі ў сярэднім браць, на полі каля палавіны людзей заставалася, а трэцяя частка трапляла ў шпіталь. А ён у атаку ішоў без страху — ведаў, нічога з ім не здарыцца. І наогул ён шчаслівы быў. Аднойчы пасля дзвюх бяссонных начэй зваліў іх сон у кароткіх перапынках паміж баямі. Ліў дождж, і салдаты забраліся пад танкі. Іваноў таксама ўладкаваўся пад танкам, а потым сказаў сваім хлопцам, што яму тут горача, лепш пад дрэвам спаць, паветра шмат, гэта нічога, што дождж. Тыя засталіся, а Іваноў у лес падаўся. Прачнуўся ён ад моцнага выбуху. Бомба трапіла ў той самы танк. А назаўтра ў баі яго моцна бразнула аб зямлю. Як ні месяц у шпіталі праваляўся, з гэтага ўсё і пачалося. Шрамаў на целе ў яго — лічы не злічыш.

— Таму і прывычна мне тут, у палаце,— сказаў Іваноў.— І з лыжачкі мяне шмат разоў кармілі.

Сястра пайшла, і Іваноў першы раз заўважыў, што паходка ў яе зусім як у Зіны. Вядома, здалося, ён проста пра Зіну падумаў. Ён і расказваць сястры пра вайну пачаў, каб перавесці думкі свае на іншую тэму — ад смерці, раненняў, розных там выпадкаў, але не змог.

Яму было зусім кепска. Там у шпіталі з тыдзень не прыходзіў да свядомасці. Выкрыкваў каманды, лаяўся, быццам ішоў на суцэльны вогненны шквал,

плакаў — але сам нічога гэтага не чуў. Ён вырваўся з крывавага небыцця. Дзяўчына ўсміхалася яму, а ён ледзь выціснуў з сябе:

— Дзе я?

Гэтай дзяўчынай была медсястра 12-га ваеншпіталя Зіна. Ён ад сораму заплюшчваў вочы, калі яна падстаўляла пад яго судно, здымала з яго чорныя ад запечанай крыві бінты. Ён бачыў яе і быў упэўнены, што жыве, што зноў стане на ногі... І не толькі яму так здавалася. Іх шмат было ў палаце. Самых розных — з адарванымі нагамі і выбітымі вачыма, аглухшых і знямелых, і з усімі яна была аднолькавая, але так, можа, здавалася ім, але не Іванову.

Так пачалося ў яго маўклівае і безнадзейнае каханне. Ён тады не думаў пра гэта, дыктаваў пісьмы жонцы, якія пісаў за яго бязногі лётчык, але чакаў кожнага яе прыходу. Калі кульгаць навучыўся на сваіх аслабелых нагах, запрасіў яе прайсціся па шпітальнаму парку і, узмакрэлы ад бяссілля, прытуліўся да дрэва і гаварыў такія словы, якіх нікому да гэтага ніколі не мог сказаць. Нават сваёй Ганне, якую і да вяселля кахаў, і потым, калі дзяцей яму нараджала, і на вайне... Да таго часу, пакуль Зіну не сустрэў.

Потым ён пайшоў на фронт, зноў яго раніла, зноў валяўся ён ужо ў іншых шпіталях — і ўсё пісаў, пісаў ёй пісьмы. А неўзабаве і вайна скончылася, паехаў ён дамоў і страціў Зінін след. Пачуў пра яе гадоў праз дзесяць пасля вайны. У горадзе, дзе жыла Зіна, аказаўся ў Іванова саслужывец. Ён і напісаў — жыве Зіна цяжка. Пахавала мужа і засталася з двума дзецьмі.

І адразу ажыў у сэрцы стары боль, быццам учора толькі са шпіталя выпісаўся. Праз саслужыўца даведаўся Зінін адрас, пачаў грошы пасылаць,

колькі мог — дзесяць, пятнаццаць рублёў у месяц. Антону толькі пра гэта сказаў. Антон не здзівіўся, сказаў:

— Цяпер ад сваіх дзяцей уцякаюць на край свету, а ў цябе ж з ёй нічога не было.

— Было, Антон. Каханне было.

Яна прыслала яму некалькі пісьмаў на рабочы адрас, маўляў, шалёны, навошта мне твае грошы, у цябе ж сям'я і сам жывеш, ад сябра твайго ведаю, не соладка.

Так у яго з'явілася тайна ад жонкі, дзяцей. Калі гаварыла Ганна, што грошай не хапае, ён вочы адводзіў убок...

Часу з той пары прайшло шмат. Відаць, і ў яе ўжо ўнукі ёсць. Успомніў, як у шпіталі адзначалі дзень нараджэння. Дату забыць не мог — хутка пяцьдзесят. Вось і назбіраў на кофту, толькі да пошты не данёс: ударылі разнаколерныя знічкі ў вочы і зямля паплыла з-пад ног.

У адзін з дзён, калі за акном імжэў дробны дождж, у палаце з'явіўся сусед — бледны, з завостранымі рысамі твару.

— Ну, вось і норма,— сказаў Іваноў, калі яны засталіся ў палаце адны.— Я ведаў, што вы вернецеся, ведаў!

Сусед прамаўчаў. Позірк яго саслізнуў з Іванова і цяпер лунаў у няпэўным месцы.

— Я думаў, што не паспею пагаварыць з жонкай. Я адчуваў — мне неабходна з ёй пагаварыць. У той момант ведаў пра што, а цяпер, паверце, не ведаю. Можа, пра дзяцей, пра ўнукаў, а можа, яшчэ аб нечым... Раскайвацца няма ў чым. Быў адзін момант, даўно, два дыханні побач, зусім побач, дрыготка ў руках, у сэрцы. Але я ўстаяў. Дурное слова «ўстаяў», асабліва зараз, і наогул, але так было.

«А я з маной і памру,— падумаў Іваноў.— Жонка будзе думаць, які ён быў добры, слёзы будзе праліваць, у магілу следам за трунoй кідацца, ёй будуць соваць насоўку, змочаную нашатырам, побач з ёй будуць дзеці і ўнукі, яны таксама будуць у слязах і ў страшэнным горы, а ён...»

— І мне трэба пагаварыць з жонкай, абавязкова трэба,— сказаў Іваноў.— Я-то веру, мы адсюль абавязкова выберамся, але на ўсякі выпадак пагаварыць трэба. Пастараюся папрасіць урача, каб жонку заўтра прапусцілі.

— І я хачу жонку ўбачыць. Няхай не сумняваецца, што жывы я,— сказаў сусед па палаце.

Іваноў раптам успомніў:

— А мы ж з вамі так і не пазнаёміліся,— і адрэкамендаваўся: — Пётр Лукіч Іваноў.

— Мікалаеня Аляксандр Сцяпанавіч,— прагучала ў адказ.— Мне з вамі лягчэй. Ад вас жыццём патыхае.

— Дык вось, Аляксандр Сцяпанавіч, давайце скажам урачу, што нам з жонкамі во як пагаварыць трэба,— Іваноў правёў рукой па горле.— Гэта, маўляў, нам самае лепшае лякарства...

На здзіўленне, ім вельмі хутка ўдалося ўпрасіць урача.

І назаўтра з самай раніцы (і як толькі даведалася, пэўна, кожны дзень парогі ў клініцы абівала) на табурэтцы ля ложка Іванова сядзела яго жонка.

Перад гэтай сустрэчай Іваноў усю ноч не спаў, варочаўся, крактаў, абдумваючы, як ён адкрые ёй самую галоўную сваю тайну і расправіцца такім чынам з хлуснёй, што не дае яму спакою ні на хвіліну. Ад бяссонніцы ў Іванова рэзала ў вачах, самі вочы, напэўна, былі чырвоныя, але жонка

яму пра гэта не гаварыла, яна, наадварот, суцяшала яго:

— Выглядаеш ты, Пецечка, лепш. Значыць, на папраўку ідзе. Галоўнае — табе зараз не хвалявацца.

— Як дома справы?

— Усё добра, усе здаровыя, усе цябе дамоў чакаюць. Так, кофта якраз Надзейцы прыйшлася. Я мерала, але мне яна малаватая.

Іваноў адвёў галаву ўбок, паглядзеў у акно, за якім зноў была шэрая, дажджлівая імгла, і ціха сказаў:

— Пагаварыць нам трэба, Ганна. Сур'ёзна пагаварыць. Мне трэба сказаць табе нешта вельмі сур'ёзнае....

Ёй гэтыя словы было дзіўна ад яго чуць, але яна і выгляду не падала, сказала:

— Пагаворым, Пецечка, абавязкова пагаворым, у нас яшчэ будзе час, шмат часу...

— Сёння трэба, Ганна, сёння! — настойваў ён на сваім.

— Пачакай, Пецечка, ты адпачывай лепш. Прыйдзеш дамоў, і мы з табой нагаворымся. Працаваць ты больш не пойдзеш, так што часу ў нас хопіць.

Ён сказаў на гэты раз крыху рэзкавата:

— Ды не разумееш ты, вінаваты я перад табой. Выпадак адзін быў, дакладней, яго, выпадку, не было, але я сустрэў...

Ён адчуў на сваёй шчацэ дотык губ сваёй жонкі, потым яшчэ раз і яшчэ.

— Я пайшла дамоў, Пеця. Урач прасіў доўга не затрымлівацца. Не магу я яго падводзіць, слова дала. Дома, Пецечка, пагаворым, усё мне раскажаш, а цяпер не хвалюйся, адпачывай.

Унізе, у шырокім і пустым холе бальніцы, да жонкі Іванова падышла другая жанчына, пажылая, са стомленым, шэрым тварам.

— Яму лепш,— сказала жонка Іванова.— Ён хацеў мне пра вас расказаць.

Яны выйшлі на вуліцу.

# Аднойчы летам

Елістратаў уставаў звычайна на золку, некаторы час слухаў цішыню кватэры, у якой усе моцна спалі, потым асцярожна, на дыбачках, прабіраўся ў ванную, апаласкваў твар халоднай вадой (любіў ён гэта рабіць колькі разоў на дні) і кіраваўся да пісьмовага стала, што стаяў ля самага акна. Звычайна ў такі час яго апаноўвалі ўчарашнія думкі. Елістратаў разумеў, што час ужо брацца за доктарскую — і ўзрост падаспеў і глядзелі на яго са здзіўленнем: усё ж раней падаваў надзеі...

Елістратаў абвінавачваў ва ўсім паскораны рытм жыцця, які не адпавядаў павольнаму цячэнню думак, і аднойчы надумаўся з'ездзіць у вёску. Ды толькі вось знаёмых нікога там не было. Давялося ехаць у маленькі гарадок да сваякоў. А гарадок гэты — ні горад, ні вёска. Нешта сярэдняе. Вакол дамы — ні кусточка. Голае, знявечанае будаўнікамі поле. Лес сінее ўдалечыні вузенькай палоскай. У Елістратава асобны пакой у кватэры на пятым паверсе, вокны яго выходзяць на пусты двор, дзе разгортваецца будоўля. Ужо навезена блокаў, пліт. Сваякі Елістратава, нават іх дзеці, не дакучлівыя. Яны робяць усё, каб ён адпачываў і працаваў уволю.

Елістратаў доўга глядзіць у расчыненае насцеж акно, адзначаючы пра сябе ўсе падрабязнасці таго, як раніца прабіваецца скрозь халоднасць ночы. Сонца ўзыходзіць спакваля, бязгучна. Елістратаву падабаецца гэта параўнанне, ён, каторы ўжо раз,

думае, што мог бы стаць неблагім паэтам. Выявіў ён у сабе гэту ўласцівасць параўнальна нядаўна. Усё пачалося з таго самага вечара, дакладней, са спробы ўзнавіць усмешку, выраз вачэй іх новага малодшага навуковага супрацоўніка Кацечкі Баярковай. Але хіба з гэтага вечара ўсё пачалося? Гэта ж не прыходзіць раптоўна, не звальваецца, быццам снег на галаву сярод гарачага лета. Магчыма, ён ужо адчуваў або падазраваў у сабе гэта пачуццё, але проста не звяртаў увагі. У наступныя дні, калі ўсё нарэшце стала гранічна ясным, ён пачаў курчыцца пад позіркам жонкі і пазбягаць размоў з дзецьмі. Пачуццё віны прымушала саромецца іх ды і самога сябе.

І зараз думкі пра Кацечку, прыемныя і казытлівыя, як сама раніца, прымушаюць Елістратава адсунуць паперы. Ён вырашае яшчэ крыху паваляцца ў ложку і соладка пацягваецца ўжо ў сне.

Так працягваецца некалькі дзён. Прасынаючыся другі раз, Елістратаў голіць свой крыху распаўнелы твар, п'е каву і спускаецца ўніз. На двары пуста. Санцагрэй. Выратоўвае невялікі цень ад дома. Да апоўдня, пакуль цень не перапаўзе на другі бок, можна, зручна ўладкаваўшыся на лаўцы, чытаць або прымушаць сябе думаць аб рабоце, можна праганяць або падпускаць да сябе ўшчыльную думкі пра Баяркову. Можна яшчэ назіраць за работай на будоўлі рабочых у заляпаных камбінезонах, якія з чорных ператварыліся ў шэрыя, а яшчэ можна перакінуцца некалькімі фразамі са старым. Кожную раніцу Елістратаў застае яго ў адной і той жа позе. Стары сядзіць нахіліўшыся наперад, апорай яму служыць маленькая высахлая рука, што ўпіраецца локцямі ў калені. Ён заўсёды гладка паголены, на ім беласнежная накрухмаленая кашуля, у якой, нягледзячы на спёку, расшпілены

толькі верхні гузік. З Елістратавым стары заўсёды вітаецца, прыўзнімаючы крыху капялюш, дэманструючы мяккую, ненаіграную ўсмешку, якая адкрывае белыя роўныя, адзін да аднаго, зубы.

Так яны і сядзяць моўчкі да той пары, пакуль цень, падганяны сонцам, не знікае. Размовы ў іх амаль не ўзнікае — рэдкія фразы. Стары: «Патрэбен, ой як патрэбен дождж» або: «Дарэмна поле такім голым пакінулі, дрэў бы тут насадзіць — любата была б»; Елістратаў: «Так пячэ, і лесу паблізу няма або азярца невялікага, каб апаласнуцца. А то ніякіх думак у галаве...»

Дні ішлі, а работа не рухалася. Елістратаў знаходзіўся ў нейкім сонным стане. Ён бы і галіцца перастаў, калі б не падкрэсленая акуратнасць старога, якая і вымушала яго перад тым, як спусціцца ўніз, брацца за электрабрытву.

«Вельмі дагледжаны стары,— думаў Елістратаў,— відаць, клапатлівыя ў яго дзеці. Заўсёды чысты, паголены. Кім ён да пенсіі быў? Бухгалтарам або рахункаводам? Вельмі гэта яму пасуе».

Аднойчы з ранку неба нахмурылася — з захаду насоўваліся хмары. Спачатку яны былі рэдкія, затым перараслі ў суцэльную заслону.

— Пальe зараз дождж, абавязкова пальe,— ажывіўшыся, прамовіў стары.— Я нядаўна здалёк прыехаў. Там таксама дажджу як манны нябеснай чакаюць. Няма яго — дрэнна прыходзіцца. У нас тут лепш, дый то іншы раз прырода капрызнічае. Не навучацца, відаць, ніколі людзі пакараць яе...

Словы «ў нас» ён вымавіў з такім асаблівым пачуццём, што Елістратаў страпянуўся.

— У пустыні хіба былі? — спытаў ён, вырашыўшы неяк прадоўжыць іх першую гутарку.

— Ды не, не ў пустыні... Поўдзень, адным словам,— няпэўна адказаў стары, зноў замкнуўшыся.

Елістратаў нават пакрыўдзіўся на старога — бач ты, які важны! Але неўзабаве забыўся на гэта, вярнуўшыся ў думках у той вельмі далёкі дзень.

Ён з Кацечкай ды яшчэ старшы навуковы супрацоўнік Трафімаў з яго аддзела зусім выпадкова трапілі ў адну дарогу. Трафімаў і рота не даў яму раскрыць, усё балбатаў пра сваю новую кватэру і прасіў дапамагчы дастаць халадзільнік «ІЖ», бо халадзільнікі ўсіх астатніх марак проста дрэнь... Неўзабаве Трафімаў павярнуў, а яны з Кацечкай пайшлі далей удваіх. Ім заставалася яшчэ метраў дзвесце, дзе Елістратаў павінен быў застацца на тралейбусным прыпынку, а Кацечка пайшла б дамоў (жыла яна зусім побач), але раптам наўкола пацямнела, ударыў гром, потым ярка бліснула маланка і сыпануў буйны дождж. Елістратаў з Кацечкай паспелі заняць самае зручнае месца ў арцы дома — і суха, і добра вуліца праглядваецца, па якой бяжыць вада.

Яны стаялі і маўчалі, і ім было вельмі хораша. Можа, яму здаецца, што было хораша, і нават не здаецца, а хочацца па той простай прычыне, што ўяўляе ён усё гэта ў афарбоўцы сваіх пачуццяў да Кацечкі.

Пайшоў густы, спорны дождж. Дыхаць адразу стала лёгка і свежа.

— Як дыхаецца, як дыхаецца! — гаварыў стары.— Каб адзін раз так уздыхнуць, варта нарадзіцца і паміраць.

«Ну і загаварыў,— думаў Елістратаў,— можа, ты, старэча, і вершы ўпотай пісваеш? Праўвала раптам, га?! Спярша такі маўклівы быў».

— Так, хораша,— сказаў Елістратаў.— Здаецца мне, сёння я ўпершыню папрацую як след.

— А што, усе дні не ішло? — спытаў стары.

— Ніяк. Засеў на адным месцы, і кропка,— па-

чаў Елістратаў, ды спыніўся — стары ж і ўяўлення не мае аб яго дысертацыі. Раней яны і словам аб гэтым не перамовіліся. І дадаў: — Складаная гэта штука, баця.

Стары, відаць, адчуў у ягоным голасе фанабэрлівасць. Праз некаторы час, сабраўшыся з думкамі, сказаў:

— Гэта і зразумела. Работа ваша, відаць, складаная. Я рознымі работамі ў жыцці займаўся. Усё больш рукамі працаваў, чорную работу рабіў, але таксама не заўсёды ішло.

Дождж усё ішоў і ішоў, лаўку яны перанеслі пад павець і доўга сядзелі моўчкі. Не думаючы ні аб чым, а проста слухаючы дождж і рэдкія, але моцныя парывы ветру.

Аднойчы ўвечары Елістратава ўпершыню за ўвесь час раптам акрыліла, і ён накідаў на паперы некалькі даволі неблагіх думак, якія свабодна клаліся, як яму здавалася, у асноўны раздзел яго дысертацыі. З таго вечара ён павесялеў, і нават пазваніў жонцы, даведаўся, як справы ідуць у яе і дзяцей, і яшчэ схлусіў, што працуецца яму добра, як ніколі ў жыцці, і ён вельмі рады, што паехаў у гэтую ціш, дзе хоць і не вёска, але працаваць у сто разоў лепш.

З Елістратавым такое бывала. Варта было ў доўгай і нуднай рабоце з'явіцца пробліску, як ён ажываў увесь, пераўтвараўся, работа зноў станавілася яму цікавай. Трафімаў гаварыў у такіх выпадках: «Елістратаў у загуле».

Назаўтра з раніцы Елістратаў устаў раненька і засеў за работу. Некалькі думак, запісаных на палавінцы лістка паперы, хутка разрасталіся ў старонкі, спісаныя густым почыркам.

Ад работы ён адарваўся толькі а палове першай ад ламаты ў спіне і, пагартаўшы спісаныя старонкі, задаволена падумаў: «Хоць бы гэта не прайшло, хоць бы папрацаваць вось так яшчэ з тыдзень». Галоўным для яго было абрасціць касцяк думак мясістым, як ён гаварыў, беконам, і тады справа пойдзе на лад.

Елістратаў хутка з'еў прыгатаваны жонкай сваяка сняданак і толькі цяпер успомніў пра старога. «Ён, відаць, сядзіць там адзін,— падумаў Елістратаў.— Здарава, што я папрацаваў, але ён там адзін».

Елістратаў спусціўся ўніз. Лаўка была пустой. Абедае, вырашыў ён, і пачаў чакаць. Потым ён забыўся, што чакае старога, і пачаў уяўляць, як Кацечка, пераскокваючы праз лужыны, падсохлыя ўжо з раніцы, не ідзе і не бяжыць, а проста ляціць па паветры ў кафэ паблізу з інстытутам, як яна заказвае сабе на першае свой любімы курыны булён з піражком, а на другое — пельмені. Яна баіцца, што растаўсцее ад пельменяў, а Елістратаў яе звычайна запэўнівае, што яна нізавошта не растаўсцее, яна проста створана такой, якой яна ёсць, і ніколі, нават праз многа гадоў, не зменіцца. Цяпер побач з ёй у кафэ, безумоўна, тырчыць Трафімаў, супакоены яго адсутнасцю. Трафімаву здаецца, што Кацечка ўдзяляе больш увагі Елістратаву. Трафімаў стары халасцяк і ніколі не жэніцца. Гэта ведаюць усе. Ён не ажэніцца нават з Кацечкай, калі б яна і згадзілася на гэта. Трафімаў заўзяты халасцяк. Ён вельмі баіцца ўсякіх перамен, але ж раўнуе Кацечку да Елістратава.

Дзіўны чалавек і смешны, падумаў пра Трафімава Елістратаў з нейкім непрыемным раздражненнем і ўбачыў раптам старога, які накіроўваўся да яго.

— А я пачаў ужо думаць, ці не хвароба вас адолела,— сказаў ён, прыўзняўшы капялюш, вітаючы Елістратава.— Сядзеў усю раніцу ў адзіноце, надакучыла, і пайшоў дамоў на канапе паваляцца.

Нельга было не заўважыць, што стары шчыра ўзрадаваўся Елістратаву.

— Ды не хвароба, а работа нарэшце з месца скранулася, вось і давялося парушыць распарадак.

— Значыць, на карысць спакой тутэйшы пайшоў.

— Відаць. Ва ўсякім разе, у горадзе я зусім працаваць не мог.

Яны пасядзелі моўчкі, супакоеныя нарэшце прывычнай сустрэчай.

— Кажуць, вунь той лес вельмі прыгожы. Густы, сасна ўперамешку з бярозавым гаем, ды вельмі ўжо далёка,— уздыхнуў стары.

Елістратаў таксама паглядзеў у бок сіняй палоскі на гарызонце.

— А можа, рызыкнём? — раптам сказаў ён.— Як-небудзь збяромся раніцай і адправімся ў падарожжа. Далекавата, але спяшацца нам няма куды.

— І на самай справе нядрэнна было б. Толькі адкладваць не будзем. Заўтра, калі хочаце, і рушым. Пратрасу крыху свае старыя косці, можа, не рассыпяцца... Даўно, вельмі даўно я ў сапраўдным лесе не быў.

— І я таксама. Усё справы. А ў водпуск да мора едзеш. Добрага там мала — спёка ды чэргі,— але ж усе едуць, і ты ў агульным статку.

Вечарам Елістратаў быў заняты зборамі. Ён адшукаў у кладоўцы сваякоў стары рукзак, паклаў у яго бутэльку віна, мяса для шашлыкоў, сцізорык, запалкі, калі раптам касцёр раскладаць давядзецца, у вялікую біклажку набраў вады і, падумаўшы

крыху, зверху ўпіхнуў старэнькую коўдру — зямля сыраватая пасля дажджу, а старому, вядома, трэба будзе адпачыць.

Сустрэліся яны ўнізе, як і было дамоўлена, а палове сёмай. Сонца яшчэ толькі ўздымалася, на небе не было ні хмаркі — чакалася спёка. Але пакуль свежае паветра падбадзёрвала.

У руках у старога быў акуратна загорнуты ў цэлафан сняданак ды яшчэ свежавыструганая палка. Елістратаву нават няёмка зрабілася за свой выгляд.

З палкай стары ісці не мог. Яна цягнулася за ім, і хутка ён, нязлосна сказаўшы: «пайшла ты да д'ябла», адкінуў яе ў кювет. Елістратаў імкнуўся ісці не вельмі хутка, каб не замарыць старога. Той нават крыху быў наперадзе, і Елістратаў падумаў, што стары яшчэ моцны. Ён раптам успомніў:

— Пачакайце, мы ж з вамі не знаёмыя. Як гэта мы, га? — і, працягнуўшы старому вялікую далонь, адрэкамендаваўся: — Елістратаў Сяргей Данілавіч.

— Кавалевіч Іван Пятроў,— сказаў стары і паправіўся: — Пятровіч.

Рука яго аказалася маленькая, але жорсткая.

Стары вырашыў пахадзіць па лесе, а Елістратаў, выбраўшы палянку зручней, пачаў раскладаць касцёр, каб неадкладна прыгатаваць на ім шашлыкі. «Дзіўны стары,— думаў ён,— чаму ён даўно ў лесе не быў? Са мной усё зразумела, я на пад'ём цяжкі, да таго ж, у мяне спраў усякіх процьма, а ён? Такімі вачыма на лес глядзіць, быццам з месяца зваліўся. А наогул, нешта ў ім ёсць нестарое». Што іменна, Елістратаў не стаў удакладняць. Неўзабаве зарумяніліся шашлыкі, а старога ўсё не было. Елістратаў пачаў ужо нервавацца. Які ж смак у халодным шашлыку?

Калі стары паказаўся, Елістратаў сказаў:

— Так не пойдзе, Іван Пятровіч. Шашлыкі ўжо стыць пачалі. Падсілкуемся і пойдзем удвух паходзім.

— Вы прабачце ўжо. Дарваўся я да лесу. Вельмі даўно не быў. Нават пах яго забыў.

Елістратаў дастаў з рукзака бутэльку белага сталовага віна, хлеб, пластмасавыя шклянкі. Наліў старому, сабе.

Іван Пятровіч нейкі момант моўчкі трымаў шклянку, потым сказаў:

— Я сам па сабе не вельмі вялікі ахвотнік да гэтага. Кажуць, людзі п'юць з гора. А гора, яно п'янаму ўтрая большым здаецца.

Ён адпіў крыху і акуратна паставіў шклянку на закапцелы пень.

— Часам вельмі тужліва на сэрцы робіцца. І кілішак прыходзіцца вельмі дарэчы,— сказаў Елістратаў.— Але не падумайце, калі ласка, кілішак я радзей бяру ў рукі, чым мне бывае тужліва. Спіўся б ужо, відаць.

— Няўжо так справы абстаяць? Не верыцца нешта,— здзіўлена прамовіў стары.

— А чаму вам не верыцца?

— Выгляд у вас не той. Як бы гэта сказаць... Словам, не падыходзіць гэта вам.

«А ён, аказваецца, яшчэ і псіхолаг»,— падумаў Елістратаў, а ўголас сказаў:

— І ўсё ж гэта так.

Стары яшчэ раз адпіў са сваёй шклянкі і павольна неяк, вельмі засяроджана пачаў есці прыгатаваны Елістратавым шашлык.

— Бывае, так абрыдне работа, ды і дом таксама. Усё прывычна, усё ў цяжар. Наперад ведаеш усе размовы, падзеі, якія і падзеямі нават не назавеш. І вось наплывае часам такое,— выпаліў Еліст-

ратаў адным духам,— кінуў бы ўсё да д'ябла, ды не выходзіць — пачуццё абавязку перад некім, перад нечым не дазваляе. Па-мяшчанску развважаць пачынаеш — а што людзі скажуць: знаёмыя, саслужыўцы, зноў жа — сваякі. А калі б і адмовіўся ад усяго, што ёсць... Узамен наўрад ці лепшае знайшоў бы. Работу позна мяняць — не той узрост, жонка... Бог з імі, аб ёй не варта.

Стары ўвесь гэты час, пакуль Елістратаў гаварыў, уважліва глядзеў на яго.

— Ды ўжо каму-каму, а мне добра вядома, што такое туга,— прамовіў ён праз некаторы час.— Яна — жудасная рэч, усю душу перавярнуць здольная, чалавека на самае непапраўнае штурхае. І вось што я вам скажу — гэта зусім не туга ў вас, прабачце мне за такія словы. Усё нармальна ў вас у жыцці склалася, усё гладка. А таму не навучыліся вы ўсё гэта цаніць. Або нават не так — няма з чым вам усё гэта параўнаць, вось у чым справа.

У Елістратава нават пот ад гэтых слоў выступіў. «Ды ён жа мяне, як школьніка, павучае»,— падумаў ён, але нічога не сказаў. Пачаў есці мяса, час ад часу запіваючы яго віном. Стары, відаць, зразумеў, што адбываецца з ім, і сказаў:

— Вы ўжо не крыўдуйце на старога дурня. Можа, і перахапіў я лішку, мала зусім вас ведаю, каб высновы такія рабіць. Толькі мне чамусьці менавіта так усё здалося...

Сказаў стары ўсё гэта шчыра, і па выгляду яго можна было бачыць, што ён ужо раскайваецца ў тым, што сказаў раней.

— Ды што вы, я не пакрыўдзіўся,— адказаў Елістратаў.— Можа, у чымсьці вы і маеце рацыю. А вось што за туга ў вас?

— Давайце яшчэ па кілішку вып'ем,— прапанаваў стары.— Вельмі ўжо смачнае віно, а пра ша-

шлык ужо і не гавару — мастак вы сапраўдны ў гэтай справе.

Яны выпілі яшчэ па кілішку.

— Старыя людзі заўсёды выклікаюць усмешку, калі гавораць — мне б вярнуць маладосць. А смяяцца ў такіх выпадках не варта. Паверце, у старыя гады гэтак жа загаворыце. А мне ўжо і сам бог наказаў шкадаваць аб тым, што маладосць ніяк не вярнуць.

Ён замаўчаў. Па дрыготкіх павейках, па руцэ, якая нервова шукала сабе занятак, Елістратаў зразумеў, як цяжка яму гаварыць.

— Усяго год назад я з Аргенціны вярнуўся...

— Як — з Аргенціны?

Стары перахапіў яго поўны непаразумення позірк.

— Ды вось так ужо. Не турыстам ехаў. Ледзь не сорак гадоў там пражыў. Роўна год назад вярнуўся.

— Назусім?

— А хіба можна інакш вяртацца? Назусім. Паехаў я туды, калі тут, у заходніх абласцях Беларусі, панская Польшча гаспадарыла. Мыкаўся я з сяла ў горад, а з галечы вылезці не мог. Сям'я з голаду пухла. Ну і завербаваўся. Прабачце, у вас ёсць цыгарэта?

— Наогул я не куру, але іншы раз магу зацягнуцца. Вось, калі ласка.

Стары глыбока зацягнуўся, як заўзяты курыльшчык.

— Шмат тады нас, дурняў, завербавалася. Ад адных паноў да другіх паноў...— працягваў стары.— Спіну гнулі горш, чым тут, а плацілі тыя ж грошы. Гаспадары ўсюды аднолькавыя. Хацеў назад, ды грошай на дарогу не было, а пасля жаніўся на аргенцінцы. Спадабалася яна мне вельмі. Разам

у аднаго гаспадара працавалі. Яна беднячка таксама — ні граша за душой. Ну, і закруціліся. Дзеці пайшлі. Чуў я аб добрых пераменах на маёй зямлі, спрабаваў угаварыць паехаць, ды дзе там. З галечы мы так і не выбраліся, а ўжо трое дзяцей было. Куды з імі...

Ён змоўк. Елістратаў разліў рэшткі віна, стары выпіў і па-сялянску абцёр рот тыльным бокам далоні.

Гаварыць пачаў ціха, ледзь чутна:

— Старая мая два гады назад памерла. Жыць мы да гэтага часу лепш сталі. Майстэрню я нават невялікую займеў. Дзеці павырасталі. Унукаў поўны дом... Дзяцей аргенцінцаў і ўнукаў аргенцінцаў. Вучыў я іх сваёй мове, ды ўсё роўна — якія яны рускія? Я ўсе гады ведаў, што паеду сюды — крыху пажыву ды злягу спакойна ў сваю родную зямельку. Калі старую пахаваў, злавіў сябе на страшнай думцы: цяпер нішто не ўтрымае, нішто! Быццам узрадаваўся яе смерці, а любіў жа яе ўсё жыццё. Спісаўся я з пасольствам нашым, там здзівіліся — куды, маўляў, у канцы жыцця ад сям'і, але просьбу задаволілі. Зразумелі маю душу. Сабраў я дзяцей, унукаў, сказаў, што да чаго. Тыя ў слёзы, а сыны, іх двое ў мяне, гавораць, звар'яцеў бацька пад старасць. А ўсё ж не ўтрымалі. Паехаў я! Калі морам плыў і ўсё бліжэй да сваёй зямлі набліжаўся, плакаў, як дзіця малое. Прыехаў у сваю вёску, а на яе месцы гэты горад. Знайшоў далёкую радню — добра, што знайшоў. Вось і жыву ў іх. Такая, значыць, туга мая была. Ніколі, ні на адзін дзень, я ад яе пазбавіцца не мог дый не хацеў. Спадзяваўся ўсё. Пішуць мне пісьмы. Вярнуцца просяць. Зразумець не могуць — я ўжо вярнуўся.

Елістратаў ад'язджаў. Ён развітаўся са сваякамі і спяшаўся ўніз, дзе на лаўцы яго чакаў Іван Пятровіч. Дзень стаяў ціхі, мякка свяціла сонца, пагружанае ў сваю смугу. Стары сядзеў, як раней, у любімай сваёй позе — нахіліўшыся наперад, абапёршыся на маленькія жылістыя рукі.

— Вось я і ад'язджаю,— сказаў Елістратаў.

— Так, ад'язджаеце,— сказаў стары.— Мне будзе зусім адзінока...

Павейкі яго заміргалі мацней звычайнага, рукі нервова заснавалі.

— Я хутка прыеду наведаць вас, абавязкова прыеду, і вельмі хутка, абяцаю.

— Добра. Буду сядзець на лаўцы і ўбачу вас здалёк. Мы пра многае яшчэ не дагаварылі. Я гэта толькі зараз адчуў. Я вам пра многае не расказаў.

Маленькая сухая далонь старога легла ў шырокую, мяккую Елістратава. Елістратаў ішоў не паварочваючыся. Ён ведаў — стары неадрыўна глядзеў яму ўслед. Яму было балюча бачыць яго.

Елістратаў даведаўся, што Трафімаў сустракаецца з Кацечкай і ўсё ў іх вельмі сур'ёзна. Вось і цудоўна, думаў ён, усё да лепшага, вырашыцца ўсё. На рабоце аб ім зноў загаварылі: «Елістратаў пазверску працуе, быць яму яшчэ і членам-карам», жонка яму сказала: «Табе на карысць пайшла гэтая паездка. Трэба часцей ездзіць куды-небудзь папрацаваць у цішыні. Твае нервы цяпер — проста цуд!»

Елістратаў пастаянна думаў пра старога. Ён падыходзіў да шырокага акна лабараторыі, глядзеў на цяжкія, навіслыя над самымі дахамі аблокі і думаў: даплывуць яны ці не даплывуць да старога,

што ён робіць зараз? Зусім адзін, а аблокі так наганяюць тугу...

Праз паўтара месяца ён нарэшце вырваўся да яго. Елістратаў ішоў да дома і думаў, сядзіць ці не сядзіць стары на лаўцы. Яму здавалася, што абавязкова павінен сядзець. Як гэта ён у мінулы раз не здагадаўся запрасіць яго да сябе? Цяпер ён гэта абавязкова зробіць.

Лаўка была пустая. Яе зацерушыла скурчаным жоўтым лісцем, навокал бляклa паблісквалі лужыны. Відаць, дождж быў зусім нядаўна. Дзівак я, падумаў Елістратаў, чаго гэта ён будзе сядзець у дождж?

Павітаўшыся са здзіўленымі сваякамі,— не абяцаў жа так хутка з'явіцца,— ён спытаў:

— Дзе стары?

— Які стары?

— Як — які? Той, што ўнізе заўсёды сядзеў. Прыемны такі стары. Іван Пятровіч.

— Памёр ён. Два тыдні прайшло, як пахавалі. Паспеў яшчэ ўсю пустэчу дрэвамі абсадзіць.

— Як памёр? Не можа гэтага быць...— выціснуў з сябе Елістратаў.

— Хацеў памерці на роднай зямлі, вось і памёр.

Елістратаву зрабілася душна.

— Як жа гэта так, як жа гэта так! — бясконца паўтараў ён, спускаючыся ўніз.

На вуліцы ён доўга глядзеў на маладыя дрэўцы, галінкі якіх гайдаў вецер, і плакаў, не саромеючыся слёз.

# Тыгрыца Кацька

Ці кусала вас калі-небудзь кацяня?
Пэўна кусала. А шчаня? Таксама...
Ну, а тыгр? Не?! І не раю!
*З уступу да цыркавой рэцэнзіі*

—Давай, старушэнцыя, твой выхад,— прамармытаў Фёдаравіч, стары асістэнт Кацькінага дрэсіроўшчыка Леаніда Ярмілава. Ён вечна гаварыў адно і тое ж, нейкім абыякавым голасам, і асабліва тады, калі ад яго патыхала вінам.

Напружыніўшыся, Кацька кінулася з клеткі ў доўгі калідор з кратаў. Бегла яна нячутна, па мяккім і прыемным навобмацак пілавінні. Кацька ўжо тысячу разоў выбягала такім чынам на арэну і таму заўсёды ведала, што будзе далей. Святло. Вельмі многа святла. І вакол, там, дзе заканчвалася святло, неверагодная цемра. Так было заўсёды. І заўсёды Кацька выбягала на арэну першая, прабягала ўздоўж клеткі круг і гыркала. Праўда, не таму, што злавалася, а таму, што была тыгрыцай і проста не магла інакш. І ўжо толькі потым прыходзіла чарга іншых тыграў. Яны рабілі дакладна такі ж круг вакол клеткі і таксама рыкалі, страшэнна разяўляючы зяпы.

Манфрэд выбег следам за Кацькай і недружалюбна гыркнуў на яе. Абабег вакол клеткі і неахвотна ўсеўся на якраз такую ж, як і Кацька, паласатую і абшарпаную тумбу. Яшчэ раней, на рэпетыцыі, Манфрэд хваляваўся і ледзь не зачапіў лапай Ярмілава. Дурны! Кацька наогул адправіла б даўно Манфрэда ў звярынец, пра які ведала толькі па чутках. Жыві там сабе і гыркай на ўсіх без раз-

бору. І ўсім гэта толькі падабаецца. Усім тым, у каго навідавоку ты ясі, спіш, словам, жывеш.

Загулі барабаны. Спачатку дробным пераступкам, а затым усё мацней і мацней. Промні юпітэраў пакінулі Кацьку і іншых тыграў у спакоі і перакінуліся да ўвахода ў клетку, дзе ў бліскучым касцюме, стройны і прыгожы, з'явіўся Ярмілаў, Кацькін дрэсіроўшчык. У руцэ ў яго, як звычайна, была палка, назву якой Кацька, як ні намагалася, запомніць не магла.

Узмах — і ўсе тыгры пачалі рабіць вельмі прывычнае і да дэталяў адрэпетыраванае, або, як гаварыў Ярмілаў, аддрэсіраванае. І пасля кожнага нумара ў цырку пракатваўся шумны ўздых. Тыгрыцы заўсёды здавалася, што людзі ў цырку, гэта значыць, гледачы, уздыхаючы, ставяць сябе на месца Ярмілава і ім гэта не ўдаецца, таму што ім робіцца вельмі страшна. Таму, відаць, і ўздыхаюць, а ў нейкія моманты нават і зусім не дыхаюць.

Калі Кацька раскрывала зяпу і Ярмілаў прасоўваў туды сваю галаву, у цырку панавала цішыня. Кацька разумела, што, хоць Ярмілаў ведае яе цудоўна і ўпэўнены ў ёй, усё роўна яму было страшнавата. Што ні кажы, не проста пакласці галаву ў пашчу з такімі вострымі, як у Кацькі, зубамі. Стой і думай, а што, калі прыйдзе ёй які-небудзь кашмар у галаву, возьме дый...

На гэты раз, каб дапамагчы Ярмілаву лягчэй перажыць гэтыя імгненні, Кацька ўзяла і лізнула яго некалькі разоў у патыліцу, вуха, шыю. Зрабіла гэта вельмі акуратна, каб ніхто не заўважыў. Здарылася падобнае ўпершыню, і Ярмілаў з цеплынёй паглядзеў на сваю старую тыгрыцу, а потым, чаго таксама ніколі раней не здаралася з ім на арэне, пашматаў тыгрыцу па шыі і за вухам, ад чаго ёй зрабілася казытліва.

А калісьці было, што Кацька пакусала дрэсіроўшчыка. Не, не Ярмілава, а зусім іншага, у іншым горадзе і ў іншай краіне. Тады, калі Кацька была параўнальна маладая, і мянушка ў яе была зусім іншая. Пасля таго выпадку да яе доўга не прыходзілі і ежу зусім не давалі, а потым некуды павезлі. Праз некаторы час Кацька ўпершыню ўбачыла Ярмілава. Ён здаўся ён вельмі маладым і занадта самаўпэўненым. Некалькі разоў Ярмілаў імкнуўся зайсці да яе, але Кацька кожны раз гыркала на яго, ашчэрвалася, і дрэсіроўшчык пакідаў клетку.

Яго асістэнт Фёдаравіч у такіх выпадках змахваў з твару пот, які з'яўляўся ад хвалявання за Ярмілава, і паўтараў адно і тое ж:

— Ну і надулі нас грамадзяне іншаземцы з гэтай звяругай... Прама з джунгляў прывезлі... Відаць, не аднаго ўжо дрэсіроўшчыка ў пузе пераварыла.

— Нічога, Фёдаравіч, прывыкне... Няхай спачатку нораў свой пакажа,— адказваў Ярмілаў, адыходзячы ад клеткі. Голас яго ў такіх выпадках быў зусім нязлосны.

Асістэнт Ярмілава не супімаўся:

— Не давядзі гасподзь — яшчэ схопіць... Вунь вочы якія, быццам вуголле распаленае...

Потым Ярмілаў яшчэ і яшчэ заходзіў да Кацькі ў клетку, і яна сама ўжо не памятае, калі ўпершыню не загыркала на яго. Напэўна, таму, што дрэсіроўшчык аказаўся настойлівым і не падобным на сваіх калег.

З Ярмілавым Кацька шмат гадоў працавала разам і ведала, што славу Ярмілаў набыў дзякуючы іменна ёй.

Кацька выконвала ўсё вельмі дакладна, але на гэты раз не думала пра тое, што рабіла. Іменна зараз павінен быць той самы нумар. Каронны. Суп-

раць яго быў дырэктар. Рэжысёр. Усе! Апрача Ярмілава і Кацькі, хоць яна замяніла б толькі партнёра. Вельмі ўжо рызыкоўна выступаць з гэтым жаўтаротым Манфрэдам.

Усе тыгры ўжо «адпрацавалі». Яны засталіся ўтраіх: Ярмілаў, Кацька і Манфрэд. На твары ў Ярмілава крапінкі поту. Гледачы сцішыліся. За кратамі Кацька ледзь пазнае твар рэжысёра. На ім — разгубленасць.

У вачах бліснула полымя — загарэўся круг! Оуп! Манфрэд скочыў на спіну тыгрыцы. Яна адчула, як яго кіпцюры балюча ўпіліся ў шкуру. Скачок. Кацька адчула, як праляцела праз круг. Але адна! Значыць, Манфрэд саскочыў... Нічога страшнага не адбылося, але нумар усё ж не ўдаўся. Дрэсіроўшчык даў знак, каб прынеслі яшчэ адзін круг, і накіраваўся да Манфрэда. Той ашчэрыў зубы і адскочыў, прыціснуў галаву да арэны. У вачах яго бліснулі шалёныя агеньчыкі. Нехта за кратамі войкнуў. У два скачкі Кацька была ля Манфрэда і ўдарыла яго лапай па мордзе. Манфрэд гыркнуў, але не варухнуўся — відаць, нават ён зразумеў, што з Кацькай лепш не звязвацца. Ярмілаў уздыхнуў з палёгкай, супакоіліся за кратамі асістэнты, якія прыгатаваліся адкрыць брандспойты.

— Оуп!

Вось ужо Манфрэд на спіне ў Кацькі і яны разам ляцяць праз вогненны круг...

...Неўзабаве ўсё было закончана, і звяроў вярнулі ў клеткі. Кацька вельмі стамілася і, адмовіўшыся ад вячэры, улеглася ў клетцы. Яна пачала было драмаць, як яе разбудзіла злоснае гырканне Манфрэда, клетка якога знаходзілася за нейкі метр ад Кацькінай. Цяпер ён мог злавацца і гыркаць, ніколькі не баючыся цяжкай Кацькавай лапы. Кацька памкнулася гыркнуць у адказ, як

раптам пачуліся галасы Ярмілава і Баграцова, дрэсіроўшчыка вялізных, неразумных і празмерна добрых сланоў.

— Гэта проста цуд, Лёнечка. Прыміце мае віншаванні. Я шмат гадоў у цырку, але такога яшчэ не бачыў,— гаварыў Баграцоў.

— Усё яна,— сказаў Ярмілаў, калі яны падышлі да клеткі і дрэсіроўшчык, прасунуўшы руку ў клетку, палашчыў Кацьку па шыі.

— Гэта цуд! Гэта самы лепшы нумар, чорт пабяры! — не супакойваўся Баграцоў.

Ярмілаў нявесела ўсміхнуўся.

— Спектакля не было, Сяргей Данілавіч. Манфрэд сапраўды гатовы быў адправіць мяне на той свет. Кацька сама зрэжысіравала.

— Ну, бацечка! — не адразу прамовіў Баграцоў.— Вы нарадзіліся ў кашулі. А гэтая тыгрыца на самай справе цуд.

Яны яшчэ доўга аб нечым гутарылі. Усё больш аб тым, як адпрацаваць нумар, зрэжысараваны Кацькай. Няхай Манфрэд робіць выгляд на арэне, што хоча кінуцца на Ярмілава, а Кацька ў самы рашаючы момант б'е Манфрэда па мордзе, і тыгр выконвае тое, што яму належыць рабіць.

Але Кацька гэтага ўсяго амаль не слухала і зноў задрамала, як Баграцоў раптам сказаў:

— Лёнечка, можа, вы палічыце гэта нетактоўнасцю або, скажам, яшчэ нечым... Але я хацеў вам сказаць... Каханне да такіх жанчын, як Ларыса, губіць. Будзьце разумнікам, Лёнечка, я ж не проста так гавару. Я паважаю вас як дрэсіроўшчыка, і я ўдвая старэй за вас... Я сам лятаў матыльком у касцёр. І, паверце, гэта не вельмі прыемна, калі вам раптам падпальваюць крылы.

— Навошта гэта размова, Сяргей Данілавіч? — ціха сказаў Ярмілаў.

— Я стары і ўсё бачу лепш, чым вы, хоць даўно ўжо блізарукі. Вы яе кахаеце, Лёнечка, а гэта ўжо гаворыць само за сябе. Але яна лёгкая, як адуванчык... Вам патрэбна іншая жанчына...

Кацька расплюшчыла адно вока і глянула на Ярмілава. Па ягоным твары яна бачыла, што ён гатовы вось-вось сказаць нешта рэзкае Баграцову, але затым убачыла, як Ярмілаў павярнуўся і, прамовіўшы: «Дзякуй, Сяргей Данілавіч, за параду», першым пайшоў ад клеткі.

Кацька заплюшчыла вочы, але заснуць так і не змагла, хоць цела ныла ад стомы і цяжару. Яна ведала тую, пра каго гаварыў Баграцоў, і таму ёй было не да сну.

Неяк тыграў Ярмілава, а значыць, і Кацьку, пагрузілі ў вялізныя машыны і павезлі ў порт. Там было сіняе мора, якое закрывалі доўгія дамы на вадзе — параходы. Кацька шмат разоў была на розных гастролях, але ні аднаго разу не даводзілася ёй ездзіць на гастролі морам. Яна ўвесь час бегала па клетцы і сама добра не ведала, чаго ёй хацелася. Ёй здавалася, што калісьці ўжо яна дыхала гэтым паветрам. Кацька нарадзілася ж не ў клетцы, а на волі. Вельмі даўно яе вылавілі і прадалі ў цырк. Кацька зусім не помніла той час, але варта было ёй удыхнуць марскога паветра, як быццам убачыла сябе іншай — вольнай, на марскім узбярэжжы, сярод дурманячых кветак, сярод ззяння хваляў.

Ярмілаў спачатку ўстрывожыўся, думаючы, што тыгрыца захварэла, але потым прыгледзеўшыся да яе больш уважліва, убачыў, што вялікія рыжыя ў крапінку Кацькіны вочы зацягнуты тугой, і зразумеў усё.

Ён прыйшоў да яе ў клетку, гладзіў яе галаву, што ляжала ў яго на каленях, і прыгаворваў:

— Ну што ты, дурненькая... Ну, што ты, супакойся...

Сам Ярмілаў цудоўна разумеў стан Кацькі, і, відаць, таму голас яго гучаў не зусім пераканаўча.

Клеткі стаялі асобна ад людзей, зусім на другой палубе, але Ярмілаў па некалькі разоў у дзень прыходзіў да Кацькі, карміў яе сам і проста сядзеў побач. Аднойчы ён прыйшоў да клеткі разам з жанчынай. Кацька і раней мімаходзь сустракала гэту жанчыну сярод іншых артыстак, што прабягалі, бывала, міма яе клеткі на арэну. Яны вечна шапацелі сваімі моднымі цыркавымі туалетамі і дзейнічалі гэтым тыгрыцы на нервы. Яна гыркала на артыстак, а Фёдаравіч у такіх выпадках гаварыў:

— Не можа Кацярына бабскага духу пераносіць. Дурное ўздзеянне ён на яе аказвае.

Цяпер Кацька ўбачыла адну з тых прыгожых дзяўчат. На гэты раз яна была апранута ў лёгкі сарафан і была зусім не падобная сама на сябе. Ціхі вецер растрапаў валасы, што было ёй вельмі да твару.

Жанчына падышла да клеткі зусім блізка, так, што Кацька магла б дацягнуцца да яе лапай. Але Кацька нават гыркаць не стала на гэтую жанчыну, таму што побач быў Ярмілаў.

— Я захапляюся табой, Лёнечка,— сказала жанчына.— Кожны раз уваходзіць у клетку да такіх пачвар... Яна ж можа разарваць чалавека...

— Не гавары так. Яна ўсё разумее...

— О, ты нават навучыў іх думаць? Можа, яна і гаворыць у цябе?! — засмяялася жанчына.— А чаго гэта яна валяецца ў кутку клеткі?

— Смуткуе... Заўсёды смуткуе на паветры. Некалі даўно яна жыла ля мора. Можа, успомніла...

— А яна не падохне ад смутку? — зноў хіхікнула жанчына.— Прапаў тады твой нумар.

Кацька не вытрымала і, ашчэрыўшы зубы, загыркала.

— Супакойся, Кацечка. Ларыса жартуе...— Ярмілаў паклікаў Кацьку, але яна не падышла да яго, а адбегла ў далёкі кут клеткі і ўлеглася, адвярнуўшыся.

— Пакрыўдзілася і на мяне,— уздыхнуў Ярмілаў.

Яны яшчэ крыху пастаялі ля клеткі і пайшлі, а ў Кацькі цяжка зрабілася на душы, і пасля гэтага выпадку яна зненавідзела Ларысу.

Дарэчы, ужо назаўтра для нянавісці не засталося месца — пачаліся гастролі, і Кацька забыла пра гэту жанчыну.

Але ненадоўга. На месяц, не больш. Пакуль ішлі гастролі за морам. За ўвесь гэты час Кацька толькі мімаходзь бачыла гэту жанчыну, але ёй было не да яе. Гастролі былі цяжкія, насычаныя новымі, зусім нядаўна пастаўленымі нумарамі.

Усё абышлося ўдала, і Кацька гатова была дараваць ранейшыя крыўды Манфрэду, з якога паступова пачынаў атрымлівацца нядрэнны артыст.

Праз месяц зноў пляскалася за бортам мора, а праз які час вярнулася ў родны горад.

У цырку надыходзілі канікулы — самы жудасны час для Кацькі. Час суму. Ясі, спіш і толькі зрэдку прагульваешся ў спецыяльна адведзенай загарадцы. Да таго ж, на ўвесь гэты час Ярмілаў ад'язджаў адпачываць, а не бачыць яго два месяцы Кацька проста не магла.

Пасля гастроляў Ярмілаў заўважыў, што тыгрыца засумавала. Ён пасадзіў Кацьку ў аўтамабіль, хоць гэта забаранялася рабіць, і павёз да сябе на дачу.

Дача аказалася вялікім мураваным домам са мноствам пакояў. Дасталася яна Ярмілаву ад ня-

божчыка бацькі — вядомага генерала, і цяпер амаль пуставала.

— Зараз мы з табою абедаць будзем. У мяне для цябе ёсць вэнджаная шынка,— сказаў Ярмілаў і пайшоў завіхацца на кухню.

Кацька тым часам хадзіла па пакоях, абнюхвала і разглядала ўсякія цікавыя рэчы, якіх ніколі раней не бачыла.

У гладкім і бліскучым шкле Кацька ўбачыла старую вялізную тыгрыцу, якая невядома адкуль узялася на дачы Ярмілава, і загыркала на яе. Тыгрыца таксама загыркала ў адказ адначасова з Кацькай. Тады Кацька махнула на тыгрыцу лапай, і тая зрабіла тое ж самае. На падлогу нешта палянела і разбілася. Гэта была прыгожая каляровая ваза, і Кацька ніяк не магла зразумець, хто гэта зрабіў: яна або старая тыгрыца ў шкле?

На звон у пакой зайшоў Ярмілаў. Але дакараць Кацьку ён не стаў, а толькі засмяяўся, прамовіўшы пры гэтым:

— Ды ты, як кацяня, дурненькая...

Ярмілаў пачаў тлумачыць тыгрыцы, што ў шкле гэта яна, і, каб даказаць тыгрыцы сваю павагу, стаў побач. Кацька ўбачыла ў шкле Ярмілава побач з сабой, і ёй стала вельмі сорамна за сваю неразумнасць.

Яна не стала больш хадзіць па пакоях і ўлеглася на мяккую тахту. Раптам Кацьку патрывожыў вельмі знаёмы пах. Ішоў ён не з кухні і быў знаёмы Кацьцы яшчэ раней. Перад вачыма ў яе прамільгнуў цырк — незнаёмыя гімнасткі і мора — параход і жанчына побач з Ярмілавым і яе доўгія раскудлачаныя валасы. Кацька ўспомніла пра Ларысу, і ад таго, што яна была тут, у Ярмілава, настрой у тыгрыцы яшчэ больш сапсаваўся.

Кацька адмовілася ад сваёй любімай вэнджанай шынкі, і Ярмілаў ніяк не мог зразумець, што з ёй здарылася.

Праз нейкі час яна нарэшце пачула знаёмыя крокі.

— Радуйся, старушэнцыя,— сказаў ёй Фёдаравіч,— Ярмілаў прыехаў.

Ярмілаў, як здалося тыгрыцы, ніколечкі не абрадаваўся сустрэчы з ёю.

— Як яна тут? — абыякава спытаў у Фёдаравіча.

— А што ёй зробіцца... Толькі вельмі сумавала...

— Ну і цудоўна,— прамовіў Ярмілаў, пастаяў з хвіліну ля клеткі і пайшоў.

Фёдаравіч прынёс тыгрыцы паесці, але яна, не звяртаючы на яго ўвагі, ляжала ў кутку клеткі.

— Ты на яго не злуйся, дурніца. Справа такая... Баба! Навошта ён толькі з ёю звязваўся, даруй яму божа... Крутнула хвастом і наплявала хлопцу ў душу. Не да цябе яму цяпер... Прыбіты ён...

Ярмілаў не з'яўляўся ў цырку некалькі дзён, а аднойчы позна ўвечары, пахістваючыся, падышоў да клеткі, і Кацька ўбачыла, што ён стаў падобны на вечна падвыпіўшага Фёдаравіча.

— Вось такая штука, Кацярына,— учапіўшыся рукамі за краты, прамармытаў Ярмілаў.— Я пацярпеў фіяска. Кропка! Любоўны карабель разбіўся аб скалы...— саркастычна заўважыў ён.

Дрэсіроўшчык цмокнуў Кацьку ў морду і, хістаючыся, пайшоў прэч. Кацька не ведала, што такое любоўны карабель, але разумела па свайму немалому жыццёваму вопыту, што ва ўзросце Ярмілава тыгры кусаюць дрэсіроўшчыкаў, а людзі дадумваюцца яшчэ да большых глупстваў.

Тыгрыца мітусілася па клетцы, гыркала, але ніхто не звяртаў на яе ўвагі. Тады яна вырашыла захварэць. Кацька была ў тым узросце, да якога тыгры рэдка дацягваюць.

Кацька ўлеглася пасярэдзіне клеткі і пачала стагнаць. Калі прыйшоў Фёдаравіч, яна некалькі разоў перакулілася з жывата на спіну і наадварот.

— Няўжо памірае? — Фёдаравіч пакруціўся вакол клеткі і знік.

Праз паўгадзіны ля клеткі з'явіліся Ярмілаў і чалавек у белым халаце. Твар Ярмілава быў не падобны на той, з якім ён толькі нядаўна пакінуў Кацьку. Цяпер ён быў вельмі ўстрывожаны.

— Ну, што з табою, Кацечка? — дрэсіроўшчык гладзіў Кацьку рукой, а ўрач тым часам аглядаў яе, выслухоўваў...

Пасля яны выйшлі і аб нечым размаўлялі. Пры размове прысутнічаў яшчэ і Фёдаравіч. Ён ківаў галавой і жаласліва глядзеў на Кацьку.

Тыгрыцы зрабілі ўкол, а назаўтра з самага ранку прыехаў Ярмілаў. Ён даваў тыгрыцы горкую ваду, і Кацька, нягледзячы на агіду, піла яе. Дарэчы, яна зусім не звяртала на гэта ўвагі. Адварочваючыся, радавалася — ёй удалося адцягнуць увагу Ярмілава ад ягонага гора, і ён цяпер не зробіць нічога дрэннага.

Цэлымі днямі Ярмілаў быў каля Кацькі, і яна вырашыла, што настаў час перастаць прыкідвацца хворай. Але раптам яна з жахам адчула, што расхварэлася не на жарт.

Ярмілаў зусім разгубіўся. Са слязьмі на вачах глядзеў ён на тыгрыцу. Кожны дзень Леанід прыводзіў да Кацькі новага ўрача, але ўсе яны разводзілі рукамі. Тыгрыца вельмі састарылася, і выратаваць яе ўжо нішто не магло.

---

Яе павёз туды сам Ярмілаў. Ён сядзеў за рулём, а Кацька ляжала на заднім сядзенні і глядзела ў акно. Там, за акном, Кацька бачыла аблокі. Яны плылі, то адкрываючы, то зноў засланяючы вялізны і яркі шар сонца, і здавалася, што аблокам доўга не будзе канца.

# Хлопчык на лузе

Дзе гэты хлопчык на скошаным лузе? Пэўна, ён ужо забраўся на гару. З гары, або, дакладней, з пагорка, наварочанага яшчэ ледніком, адкрываецца ўвесь свет або, па крайняй меры, велізарны кавалак яго — дарога, што круціцца паміж пагоркаў, абрысы лясоў удалечыні... І цераз край гэтага бачнага свету пералiваецца неба. І гару, і, вядома, луг гэты прыстасавалі для сваіх патрэб жыхары навакольных вёсак. Скошаная трава пякуча коле ногі, але хлопчыку нішто тыя ўколы, хоць ён і басаnож... Свеціць сонца, і хлопчык амаль раствараецца ў ягоных промнях. Ён жвавы, але нагнаць такую ж басаногую дзяўчынку яму ніяк не ўдаецца. Яна ўсё выслізгвае з ягоных рук і імчыць далей па вяршыні пагорка. Відаць, і пагорак, і хлопчык, і дзяўчынка з'явяцца зараз за паваротам. Вось ён мінуў, і пагорак паказаўся ўжо, і луг, але хлопчыка з дзяўчынкай на ім няма. Бачацца ўдалечыні маленькія фігуркі на лузе, але таго хлопчыка і той дзяўчынкі сярод іх няма. З таго часу, калі яны былі тут, шмат разоў вяла і зноў вырастала трава, шмат разоў калола атава ногі іншым хлопчыкам і дзяўчынкам. Сямёнаў гэта добра ведаў. Таму што ён сам і быў тым хлопчыкам.

Доўга ён выбіраўся сюды. А здаецца, усё было зусім нядаўна. А можа, даўно?

Аўтобус цягнецца, быццам чарапаха. Сямёнаў нервуецца, коўзаецца на сядзенні. Яму пачынае

здавацца, што робіць гэта аўтобус знарок, надумаўшы выпрабаваць яго цярпенне.

Сышоў раней часу. Зачапіўся за кошыкі нейкай старой жанчыны і пачуў услед нязлосныя папрокі.

Ён быў адзін на дарозе. У баку ад яго — лес. Гэта справа, а злева — густы арэшнік. У дзяцінстве Сямёнаў любіў забірацца ў яго зараснікі і доўга глядзець на аблокі, што плылі над галавою. Аблокі плылі бясконца, кружылі Сямёнаву галаву і неслі за сабой туды, куды яму толькі жадалася. Раптам захацелася паўтарыць усё... Сямёнаў зайшоў у арэшнік, улёгся ў густую траву. Ён нагледзеў скрозь прасветы ў галінках воблачка на небе. Маленькае, але затое яно нагадвала старадаўнюю каравэлу. Цяпер трэба заплюшчыць вочы, каб не пайшла кругам галава... Усё адышло прэч, нібыта і не было ніколі нічога іншага.

Воблака плыло па небе. Бадай, па хуткасці яго маглі апярэдзіць хіба што коні Васькавага бацькі Парфірыя. Сямёнаў з зайздрасцю глядзеў на Парфірыя. На што толькі мог быць здольны гэты разбіты хваробамі, змрочны чалавек! Спачатку Парфірый да коней іх не падпускаў. Гаварыў:

— Конь сур'ёзнасць любіць... Дарасці да яго трэба!

Гэтыя словы рабілі іх няшчаснымі, але супраць непрыступнай строгасці Парфірыя ісці яны не адважваліся. І толькі аднойчы Сямёнаў зрабіў забаронны крок. Так захацелася ёй, а ён не мог здавацца ў яе вачах баязліўцам.

— Пракаціся, га! — вочы Кацькі загарэліся. Сямёнаў ведаў, што калі ёй што ўздумалася, дык тое і будзе. Імгненне прайшло, і Васька не паспеў што-небудзь сказаць, як Сямёнаў ужо быў на кані. Ён навечна запомніў дзіўную мянушку каня — Саколік. Саколік, адчуўшы на сваёй спіне конніка,

панёсся па лузе. Сямёнаў адразу ж паляцеў вобзем.

— Ты не пабіўся? — спытала яна.— Табе не баліць?

А Сашка Сямёнаў не думаў пра боль. Яму здавалася, што Саколік навечна зганьбіў яго перад Кацькай.

Мінут праз дваццаць ён быў у пасёлку. Той не вельмі змяніўся. Прыбавілася дамоў, ды вуліцы сталі шырэйшыя і раўнейшыя. Сямёнаў пайшоў у гасцініцу.

— Камандзіровачны? — не ўзнімаючы галавы, спытала дзяжурная.

— Не. Я ў водпуск. Знойдзецца нумар?

Дзяжурная паглядзела пашпарт. На яе твары было шчырае здзіўленне.

— У водпуск да нас? З такой далечыні?

Пакойчык Сямёнаву трапіўся ўтульны. Засунуўшы чамадан пад ложак, ён выйшаў на вуліцу. Куды ісці? Ну, вядома ж, да Ваські. А дзе ён жыве? У той далёкі год, калі, пахаваўшы дзеда, Сямёнаў забіў вокны ў старой бацькоўскай хаце і паехаў, Васька жыў побач, за агароджай.

Дом у Ваські быў добры, з шырачэзнымі аканіцамі, якія мудрагеліста размалёўваў сам Парфірый. Аканіцы былі яго страсцю, і ён перафарбоўваў іх па пяць разоў на год.

Сямёнаў чамусьці вельмі хутка аказаўся каля гэтага дома, хоць дарога да яго была зусім не кароткай. Дом быў усё такім жа — моцным, устойлівым. Толькі бярвенні пацямнелі, ды аканіцы былі перафарбаваны ў адзін колер.

На тым месцы, дзе стаяла старая хата Сямёнавых, з'явіўся другі дом. Толькі ліпа засталася. Не

пазнаць яе! Вымахала пад неба! Гадоў у сем ад роду Сямёнаў залез ледзь не на самую вяршаліну, але зваліўся разам з абламанай галінкай. Пабіўся не моцна, перапалохаўся больш. А тут дзед на ганак выйшаў... Пасля ў Сашкі было такое адчуванне, быццам вушы яму зусім адарвалі.

Веснічкі ў двор, дзе жыў Васька, былі адчынены. Насустрач Сямёнаву выбег хлопчык гадоў шасці.

— Вам каго?

— Тату.

— Тата! — крычыць хлопчык.— Да цябе прыйшлі...

З сенцаў выйшаў каржакаваты мужчына, крыху ніжэйшы за Сямёнава ростам, у каўбойцы з закасанымі рукавамі. Ён глянуў на Сямёнава і спыніўся. Позірк яго чапляўся то за вочы, то за падбародак Сямёнава... Сямёнаў злавіў сябе на тым, што глядзіць на яго дакладна гэтак жа...

— Здароў, Васька,— першым сказаў Сямёнаў.

Губы чалавека ледзь прыкметна задрыжэлі. Ён выдыхнуў:

— Сашка? Ты?

— Я самы.

Хлопчык здзіўлена глядзіць, як яго бацька і незнаёмецціскаюць адзін аднаго ў абдымках.

І вось яны сядзяць насупраць, шукаюць словы, якімі можна было б пачаць размову. Іх не так проста знайсці. Паміж Сямёнавым і Васькам было толькі дзяцінства ды невялікі кавалак юнацтва.

— Ты здорава падобны на сябе... Даўжэзны стаў і стары. Стары Сашка...

— І ты таксама здорава падобны, стары Васька.

У размову ўлазіць хлопчык.

— Хто гэта, татка?

— Дзядзька Саша, марак. Я табе гаварыў, ці-

каўны...— Васіль усміхаецца: — Малодшанькі мой, Федзька. Яшчэ дачушка ёсць. Тая ўжо нявеста — у другі клас ходзіць. Жонка на дзяжурстве, а я гатую.

Толькі зараз Сямёнаў заўважыў, што Васька ў фартуху, а на пліце нешта скварчыць.

— Вячэру гатую,— смяецца Васька,— ты якраз дарэчы. Зараз сустрэчу нашу адзначым,— і ўздыхнуў: — Эх, Сашка, навошта ты знік тады? Атрымаў я ад цябе апошняе пісьмо з фатаграфіяй, і кропка. Бацька мой усё шкадаваў, можа, маўляў, здарылася што, мору канца і краю няма, усё ў ім бывае.

— Так ужо атрымалася,— няпэўна прамармытаў Сямёнаў.— Закруціла...

— І цяпер плаваеш?

— І цяпер таксама.

— Татка, гэта дзядзька Саша, марак?

— Ага. Той самы. Марскі бадзяга.— Васька ляпнуў Сямёнава па плячы мазолістай рукой.— Паслухай, а рэчы твае дзе? — раптам спахапіўся гаспадар.— Ці ты так? У камандзіроўку?

— Якая там камандзіроўка... У водпуск. А рэчы ў гасцініцы пакінуў.

— Ну вось, надумаў яшчэ! — шчыра абурыўся Васька. Ён скінуў фартух і выключыў пліту. Распарадзіўся: — Тут усё гатова. Прыйдзе Валя — няхай вячэрае.— Гэта сыну. І тонам, не дазваляючым пярэчанняў, сказаў сябру: — Пайшлі за рэчамі!

Яны выйшлі на вуліцу, якая цудоўна ведала іх босыя хлапечыя ногі. Зусім побач была калісьці школа — доўгая, падобная на канюшню. Вокны ў ёй забілі, і яшчэ больш яна ўрасла ў зямлю.

— Дачцэ прыходзіцца далекавата хадзіць,— перахапіўшы позірк сябра, сказаў Васіль.— Але школа, як лялечка! Зайду — дух займае. Памятаеш,

як вучыцца я хацеў. Ды нешта пасля зламалася. Тэхнікум закончыў, як з арміі прыйшоў. Цяпер вось камандую лесапілкай. А ты як?

— Плаваю. Раней на гандлёвым хадзіў. Цяпер рыбку лаўлю...

— Я недзе чытаў — цяжка яна ловіцца.

— Усякае бывае. Прывёз паўчамадана — пакаштуем. Вы тут такой не бачылі.

— А з сямейным жыццём як?

— Ды ніяк. Была сям'я — і ў мора знесла. Сына цяпер і не пазна́ю, відаць.

Васька схамянуўся:

— Як гэта? Жартуеш хіба?

— Ды не. Прыйшоў з мора, а яна ўжо ў другую кватэру перабралася. Пасля і зусім выехалі ў другі горад. Я сына неяк вырашыў праведаць. Пачастункаў розных накупляў і заявіўся. Дзверы яна перада мной зачыніла. А пачастункі я каля пад'езда пакінуў. Вось і ўсё.

Васіль памаўчаў, калі падышлі да гасцініцы, спытаў:

— Што, вось так проста і пайшла? — і сам сабе адказаў: — Па мне, не бывае так...

— Напэўна,— згадзіўся Сямёнаў.— Толькі я добра не ведаю. Відаць, плаваў доўга. У нас такое не навіна... Скажы, а Каця як?

Гэта пытанне Сямёнаў павінен быў задаць адразу, з першай хвіліны іх сустрэчы. Па тым, як глянуў на яго Васька,— з трывогай, асуджэннем і адначасова — з цеплынёй,— Сямёнаў зразумеў — чакаў ён гэтага пытання. З самага пачатку чакаў.

І тут, як знарок, гасцініца... Так і не паспеў Васіль адказаць.

Дзяжурная здзіўляецца, а Васька ёй гаворыць:

— Памыліўся ён, дом мой з гасцініцай пера-

блытаў. Так што чамаданчык аддавайце. Забіраю я ад вас жыхара.

— Ты так і не адказаў,— пачаў Сямёнаў, калі назад яны пайшлі.

Тут ужо нельга было Васілю адкруціцца.

— Дрэнна, Сашка, яна жыве. Горш і не прыдумаеш. Мужык яе на лесапілцы працаваў. Ад гарэлкі зусім ашалеў. Руку сп'яна сунуў... Але і адной б'е яе. Пенсію я яму зрабіў, як за вытворчую траўму. Для яе толькі і стараўся. Дзяцей шкада. Два хлопчыкі ў яе. Можа, хоць што-небудзь ім прынясе. Яна худзенькая. З раніцы да ночы на нагах. У бальніцы санітаркай дзяжурыць ды яшчэ прыбіральшчыцай падрабляе. З жонкай маёй сябруе...

Словы Васіля быццам аддаліліся і сціхлі ўдалечыні. Сямёнаў нават і не імкнуўся ўявіць Кацьку такой — маленькай, забітай жыццём. Ён заўсёды цягнуўся да яе гордасці. Калі Сямёнаву хоць бы крыху ўдавалася параўнацца з ёю, ён адчуваў бы сябе шчаслівым.

На вуліцы было свежа, нават халаднавата. Але нешта перашкаджала Сямёнаву дыхаць.

Насустрач Сямёнаву выбег Васькаў сын. Ён працягнуў руку госцю і горда сказаў:

— Я гэтага дзядзечку ведаю. Гэта — Сашка-марак!

— Ой, хутка ты асвойтаўся,— усміхаючыся, гаворыць невысокая, крыху паўнаватая жанчына — Васькава жонка.

— Маці як адчула — раней прыйшла. Яна ў мяне любіць у кілішак зазірнуць,— смеючыся, гаворыць Васіль.— Так яна нічога. Толькі злюшчая. І імя злюшчае: Пелагея. Памятаеш, як нас Пелагея па арыфметыцы мучыла? Як гляне, дык жах:

усё адразу з галавы выскоквае. А дзе наша малодшая жанчынка?

З другога пакоя выйшла дзяўчынка, вельмі падобная на бацьку.

— Паглядзі, што за прыгажуня ў мяне. Наталля... У другі клас ходзіць. Што сёння прынесла? Пахваліся перад госцем.

— Па арыфметыцы пяць, а па чытанню чатыры,— гаворыць дзяўчынка і ружавее.

Сямёнаў пачаў разбіраць чамадан, а Васька завіхаўся каля пліты, на гэты раз разам з жонкай, і бясконца жартаваў:

— Уяўляеш, у гасцініцу адразу пайшоў! Вось дзівак, га?! Памятаеш, я табе пра яго яшчэ ў арміі расказваў.— І звяртаючыся да Сямёнава: — Я сваю жонку здалёк прывёз. У арлоўскіх землях адшукаў.

А сын Ваські расчараваны — у дзядзькі Сашы няма ніводнага хоць бы зусім маленькага якарка. Сямёнаву давялося паабяцаць прыслаць многа і не проста паабяцаць — а даць «марацкае» слова.

Жонка Васіля аказалася вельмі спрытнай — мінут праз дваццаць стол быў накрыты.

— А што, ікры там у вас колькі хочаш? — здзіўляецца Пелагея, калі Сямёнаў выставіў на стол усё са свайго чамадана.

— Колькі хочаш. Толькі лаві. Цэлы акіян,— за госця адказвае Парфірый-малодшы і ўпэўнена дадае: — Я, калі вырасту, таксама паеду. Дзядзьку Сашу тата і мама адпусцілі. І вы мяне адпусціце.

Васіль хмыкае. Сямёнаў маўчыць. Чокнуліся, пачалі закусваць.

Васіль раптам уважліва глянуў на сябра і хуценька сказаў дачцэ:

— Схадзі, Наталля, за цёткай Кацяй. Скажы, што мама просіць зайсці.

Адбылося нечаканае. Васіль шукае падтрымкі ў жонкі:

— Так яно лепш будзе. Старыя ж сябры. Няхай прыйдзе, пасядзім разам...

На Сямёнава ён і не глядзіць. Калі дачка ўжо выходзіць у двор, крычыць ёй наўздагон:

— Толькі глядзі, каб дзядзька Сямён не пачуў. Ціхенька так скажы. І без цёткі Каці не вяртайся!

Сямёнаву становіцца цесна за сталом. Ён нават не ведаў — ці злаваўся ён на Васіля, ці быў удзячны за гэту нечаканасць.

— Пойдзем на двор, пакурым,— прапанаваў Васілю, з хвіліну пасядзеўшы моўчкі.

— Пойдзем. Душна ў хаце.

Яны выйшлі ў двор. Чырвонае сонца пераваліласяпраз край неба.

— Ты не крыўдуеш на мяне? Усё роўна вам трэба ўбачыцца.

— Трэба.

— Яна мне пісьмы твае паказвала. Радавалася. Ты памятаеш, як яна ўмела радавацца? Уся проста свяцілася. Потым пісьмаў тваіх не стала.

— Калі малады, не ведаеш цану сапраўднаму. Хто мог падумаць, што так здарыцца. І ў мяне, і ў яе... А мінулага не вярнуць, і нічога ў ім не зменіш. Нядобрае ўсё жыццё. Прыйдзеш на бераг і думаеш — хутчэй бы зноў у мора. Ведаеш, аднаму жудасна нават іншы раз бывае.

Сашка апусціў галаву, развёў рукамі. І толькі цяпер Васіль заўважыў, што ў ім нічога не засталося ад ранейшага, загадкавага сябра Сашкі. Перад ім сядзеў трыццаціпяцігадовы невясёлы чалавек. Відаць, ён і вясёлым ніколі не бывае. Ён падумаў, што дарэмна запрасіў зараз Кацярыну. Трэба было адпачыць яму, прыгледзецца.

У двары пачуліся крокі. Васькава дачка Ната-

ша ішла наперадзе, а за ёй — жанчына з хлопчыкам.

— Яна? — не ведаючы навошта, спытаў Сямёнаў.

— Яна.

Сямёнаву раптам зрабілася страшна, як у той раз, калі іх траўлер шчэпкай кідала ў халодным моры і здавалася, паратунку не будзе.

Каця іх не заўважыла і зайшла ў дом.

— Дачка твая, пэўна, сказала, што я прыехаў?

— Не. Яна ў мяне кемлівая. Што ёй сказана, тое і перадасць. Пойдзем у хату.

Каця спачатку глянула міма Сямёнава, потым позірк яе насцярожыўся.

— Сашка?!

— Я... Тое... Сапраўды,— прасіпеў Сямёнаў і падумаў, што, напэўна, не трэба было ехаць яму сюды, каб убачыць яе такой. Перад ім стаяла маленькая жанчына, з непрыкметным, маршчыністым тварам. Яна не ведала, як паводзіць сябе. То трымала перад сабой худыя рукі ў сініх прожылках, то апускала іх долу.

Ім абодвум прыйшла на дапамогу жонка Васіля:

— Вось і сустрэліся старыя сябры. Чаго ж стаяць — сустрэчу адзначаць трэба.

Расселіся за сталом. Каця і Сямёнаў зрэдку, ненадакучліва разглядалі адзін аднаго. Калі хтонебудзь з іх не разлічваў і позіркі сустракаліся, абодвум рабілася няёмка.

— Вось і добра! Давайце вып'ем за тое, што Сашка нарэшце аб'явіўся жывы і здаровы, а не дастаўся рыбам, як многія тут лічылі.

Выпілі. Моўчкі жавалі. На двары дурэлі сыны Васіля і Каці.

— Як сустрэнуцца — не разняць,— усміхнуўся Васіль.— Відаць, сябрамі растуць.

— А ты як жывеш? — супакоіўшыся крыху ад нечаканасці сустрэчы, спытала Каця.— Сям'я, відаць, ёсць, дзеці?

— Ёсць. І сям'я, і дзеці,— зацягваючыся папяросай, сказаў Сямёнаў, гаркавата ўсміхнуўшыся.— Усё, як ва ўсіх...

— Адзін чаго ж прыехаў? Прывёз бы жонку. Пазнаёміў бы,— умяшалася ў размову жонка Васіля.

Той шыкнуў на яе:

— Чаго там паказваць. Ён да сяброў прыехаў. З ёю наступны раз прыкоціць. Прычапіліся да чалавека...

На гэтым размова згасла. Гаварылі аб нечым няпэўным, зрэдку. У сенцах пачуліся цяжкія крокі. У дзвярах з'явіўся высокі мужчына, з чырвоным, спітым тварам. Апрануты ён быў у яркую квяцістую кашулю, адзін рукаў якой быў заткнуты за рэмень.

— Я як чуў... І нá табе! Нават да стала паспеў! — прабасіў мужчына адразу ж з парога.— І жонка мая тут!

Каця адразу сцялася, быццам з дзвярэй падзьмула холадам.

— Ты б хоць з людзьмі павітаўся,— папракнула яна мужа.

— За гэтым справа не стане! — засмяяўся мужчына.— Вітаю вас, людзі добрыя!

Працягнуў кожнаму па чарзе сваю адзіную руку і паспяшаўся сесці.

— Ужо недзе хапіў? — не стойваючы раздражнення, сказаў Васіль.

Але госць на гэта асаблівай увагі не звярнуў. Адмахнуўся:

— А ты мяне, Васька, не папракай. Я пару кілішкаў вып'ю за знаёмства вось, з чалавекам...

Усе за сталом, апрача мужа Каці, адчувалі сябе няёмка.

Яна замітусілася:

— Не трэба табе больш піць... Дамоў нам час ісці. Няма чаго ў людзей заседжвацца.

Стараючыся рабіць гэты непрыкметна, патузала мужа за пусты рукаў. Але той або не заўважаў, або проста не звяртаў увагі. Перакуліўшы яшчэ кілішак, крэкнуў і, нарэшце падняўшыся, пайшоў да выхада. Павярнуўся, нібы яшчэ нешта хацеў сказаць, але Каця падштурхнула яго ззаду, развіталася з вінаватай усмешкай:

— Да пабачэння. Дзякуй за ўсё.

Хлопчык выбег следам за бацькам і маці, і дзверы за імі зачыніліся.

Сямёнаў падняўся. Прайшоўся па пакоі. Сказаў:

— Стаміўся я за дарогу. Спакойнай ночы.

І пайшоў паспешліва ў пакой, дзе яму было паслана.

Назаўтра з Васькам схадзілі на могілкі. Магілы дзеда і бацькоў былі дагледжаны — Васькава справа. Сустракаўся некалькі разоў і з Кацяй. Усё загаварыць спрабаваў, ды яна паспешліва адыходзіла. Ён і сам, дарэчы, ведаў, што гаварыць ім няма пра што.

Спачатку Сямёнаў збіраўся гасціць у сябра да канца водпуску, а потым адчуў — цяжка яму заставацца тут. Гнаў ад сябе думкі аб ад'ездзе, запэўніваў самога сябе, што нічога такога не адбылося. Проста сумна ад успамінаў. Першы пацалунак з Кацяй, дурманячая галаву высачэзная трава ля пагорка...

Відаць, усё было не так. Праз некалькі дзён, прыйшоўшы дамоў з лесапілкі, Васіль убачыў на

стале запіску, напісаную рукой Сямёнава: «Прабач, Васька... Не магу я тут больш быць. Употай спецыяльна паехаў — ведаю, ты б пачаў утрымліваць. Мой аўтобус у гадзіну дня. Я табе напішу ўсё. Можа, калі і ўбачымся... Сашка».

Васіль памкнуўся да дзвярэй, пасля зірнуў на гадзіннік. Было позна. Аўтобус Сямёнава адышоў.

# Бабіным летам

І выдалася ж Насці раджаць суботнім вечарам! Гадзін у дзевяць пачаліся схваткі. Насця пабялела, ад чаго яшчэ больш выразна праступілі на яе круглым твары вяснушкі.

Свякруха яе, Фёкла, мітусілася па хаце, праклінаючы ў душы сына, якому іменна ў гэты дзень спатрэбілася раптам ехаць у горад па нейкія там запчасткі. Механікам ён быў у калгасе. Толькі-толькі ўборка скончылася, а ўжо новыя клопаты.

Апрача Насці і свякрухі ў доме быў стары. Ён не ведаў, куды падзецца, шаркаў па хаце, стараючыся падалей трымацца ад ложка, на якім мучылася Насця.

— Чорт стары,— закрычала на яго Фёкла,— чаго зенкі вылупіў? Памрэ дзеўка. Разродзіцца і крывёй сыдзе. У раён трэба, у бальніцу. Бяжы шукай дзе хочаш машыну! Каб мігам...

Стары накінуў на плечы ватоўку і, дакладна не ведаючы, куды ісці, паспешліва выйшаў за дзверы. У твар яму ўдарыў вецер, сыпнуў прамоклым лісцем. Ён шчыльней захінуў ватоўку — вось у такую ж пару летась прыхапіла яго запаленнем лёгкіх. Ледзь ачуняў. Стары прайшоў міма некалькіх хат і толькі цяпер зразумеў, што машыну яму не знайсці без дапамогі старшыні. Жніво было. Людзі павыдахліся. Ні паспаць як мае быць, ні выпіць... Цяпер адпачываюць. Каго знойдзеш?

Ён пайшоў напрасткі да старшынёвай хаты. Дзя-

куй богу, той сам дзверы адчыніў. Жонку старшыні стары недалюблівае. Шэрай дзеўкай па вёсцы хадзіла, а як старшынёвай жонкай стала (і што ён у ёй такое асаблівае ўбачыў), дык нос вунь як задрала.

— Памажы, Ягоравіч,— узмаліўся стары.— Насця раджаць уздумала...

Старшыня не адразу зразумеў:

— Што я табе — павітуха?

— Ды не,— на твары ў старога напісана было — ну і някемлівы ты.— У раён везці трэба. Андрэй за запчасткамі ў горад паехаў. Хто павязе?

Да старшыні дайшло. Ён накінуў пінжак і ішоў ужо наперадзе старога.

Пайшлі да Данілы Суворына. Толькі дома Суворыных — ні старых, ні маладых — не аказалася. Сусед сказаў, што падаліся яны да сваякоў сваіх у суседнюю Паджылаўку.

— Можа, да твайго, га? — з надзеяй у голасе спытаў стары. Ён меў на ўвазе шафёра старшыні і яго беленькую, праўда, ужо крыху пакамечаную з бакоў «Волгу».

— Адпусціў я яго, чорта, у горад на тыдзень. Зазноба яго ў тэхнікуме. Як не з'ездзіць, дык проста руль з рук выпускае. Не мог адмовіць,— нібы апраўдваўся старшыня.— А вунь, бачыш, у Аляксейчыкаў святло гарыць. Пойдзем зазірнём.

Міхаіл сядзеў са сваім шваграм за сталом і глядзеў тэлевізар. Перад імі стаяла бутэлька.

— Вечар добры,— сказаў старшыня.

І Міхаіл і швагер яго павярнуліся, і адразу было відаць, што абодва падпітыя.

Міхаіл падняўся насустрач, запрасіў да стала. З другога пакоя выйшла жонка яго Зінка, заспаная і распатлатая.

— Я зараз усё прыгатую. Сядайце, Ягоравіч.

— Па справе мы зайшлі. Прабачце, што пазнавата. Насця раджае. Трэба ў бальніцу везці,— з ходу выпаліў старшыня.

— Пятнаццаць кіламетраў... Мігам дастаўлю. Азірнуцца не паспее,— сказаў Міхаіл і пачаў апранацца.

А стары ўжо адыходзіў да дзвярэй, ведаючы добра, што старая Насцю з п'яным у дарогу нізавошта не адпусціць.

— Толькі вось выпіўшы ты,— уздыхнуў старшыня.

Міхаіл махнуў рукой:

— Мы пакрысе выпілі. Не хвалюйцеся — усё добра будзе. Вы ж мяне ведаеце, Ягоравіч. На мяне гэтая рэч зусім за рулём не дзейнічае. А тут нейкія два кілішкі...

Ён хуценька сабраўся. Калі адыходзілі, трывога мільганула ў вачах Зінкі. Неяк на свята выпіў Міхаіл лішку і бухнуў ёй, што ледзь не з самага маленства Насцю кахаў, а з ёю ажаніўся толькі таму, што яна выбрала другога.

Але Зінка нічога не сказала. Што ўжо тут скажаш — трэба яму ехаць.

Насця ачнулася ад падкаціўшага болю і ўбачыла над сабою твар Міхаіла. Падумала, што здалося ёй, і зноў заплюшчыла вочы.

Ён сказаў:

— Не міргай, Насця, вачыма. Ехаць трэба. Праз паўгадзіны будзеш у бальніцы.

Насця павяла позіркам убок і ўбачыла побач з Міхаілам свякруху, а крыху воддаль свёкра і старшыню. Старая ёй кіўнула: маўляў, трэба ехаць. Хацела ёй дапамагчы, але Насця адвяла яе руку і села на пасцелі. Твар яе злёгку паружавеў. І да

машыны сама дайшла. Толькі ў кабіну залезці Міхаіл дапамог. Калі ён завёў матор, у вачах у свякрухі бліснула слязінка.

— Едзь, Насцечка, мы заўтра раніцой прыедзем. Дасць бог, усё добра будзе. Унучак у нас з'явіцца. Толькі ты пацярпі. Сцісні зубы і цярпі, а лепш — крычы. Гэта памагае, я ведаю па сабе.

Машына паехала.

Насця адкінулася на сядзенні і гнала прэч думкі аб тым, што зараз пачнецца зноў страшэнны боль. Толькі б даехаць. Заўтра прыедзе Андрэй. Можа, і сапраўды ўсё гэтай ноччу скончыцца. Яна доўга чакала дзіця. Засталося зусім няшмат. Усе праз гэта прайшлі. І яна вытрымае...

— Не думаў я, што буду з табой вось так ехаць,— пачула яна крыху дрыготкі голас Міхаіла. Быццам у горла яму пяску насыпалі.— Вось як бывае.

Яна маўчала.

Вельмі даўно, сярод хмельнага паху квітнеючых яблынь, ён, гэты крыху п'янаваты чалавек, што вёз яе раджаць, цалаваў яе самы першы раз у жыцці. Смешная дзяўчынка была. Думала, што кахае яго. А пасля Андрэя сустрэла. Яго, Міхаіла, праўда, ужо каля яе не было. Ён не павінен быць у крыўдзе на яе. Толькі тады ўжо, калі з Андрэем гуляла, хадзіў Міхаіл следам і прасіў вярнуцца.

Насця старалася думаць пра што хочаш, толькі не пра боль, які зноў пачынаў ажываць унутры. Машына ішла павольна, толькі зрэдку падкідала яе на выбоінах. Насця ў такія мінуты закусвала ад страху губу, але не прасіла Міхаіла, каб ён ехаў акуратней.

Ён увесь час з трывогай глядзеў, ці не мяняецца выраз яе твару, і, здавалася, сам хваравіта пераносіў кожны штуршок.

— Цікава,— зноў загаварыў Міхаіл,— мог бы я цяпер везці цябе ў радзільны дом, як сваю жонку. А родзіш ты сына не мне, а Андрэю. Усё, як у кіно.

Яна хацела сказаць, маўляў, дурны ты, Мішка, знайшоў, аб чым у такі час гаварыць, і наогул ты выпіўшы, вось і мроіцца ў тваёй галаве абы-што, а сваіх дзяцей у цябе ўжо двое. Хацела сказаць, але замест гэтага хапіла некалькі разоў адкрытым ротам паветра... Ускрыкнула.

Міхаіл спалохана глянуў на яе. На лбе выступіў пот, вочы затуманіліся, шэпча ледзь чутна:

— Гані, Мішачка, хутчэй. Не то бяда здарыцца.

Ён выціснуў з грузавіка ўсё. Сам увесь узмакрэў. Насця і крычала, і стагнала, скрэбла пальцамі ветравое шкло. Ён уявіў, што можа зараз адбыцца, і праглынуў камяк. Нечакана зашчымеў у ягонай душы смутак, быццам пыл з сябе страсянуўшы, праглынула, ажыла даўняя крыўда. Крыўда: хутчэй за ўсё, на самога сябе.

— Стой! — раптам закрычала яна.— Стой, нельга больш, нельга.

Ён рэзка затармазіў. Насця цяжка дыхала і глядзела на яго мутным позіркам.

— Чаго ты? — ён асцярожна крануў яе за плячо.— Ехаць трэба. Кіламетры тры засталося, не больш. Гэта ж дробязь, га?

— Едзь,— выдыхнула яна,— едзь.

Толькі паспела яго машына набраць скорасць, як у яе зноў пачаліся схваткі. Яна ўскрыквала, а ён стараўся не глядзець у яе бок і крыку стараўся таксама не чуць. Усё паўтараў на поўны голас:

— Дастаўлю я цябе. Толькі пацярпі, пацярпі, Насця!

Машына яго шпарка імчала па вуліцах райцэнтра да бальніцы. Міхаіл выскачыў з кабіны і што было сілы забарабаніў кулакамі ў дзверы радзіль-

нага аддзялення. Дом гэты ён добра ведаў — два разы прывозіў і адвозіў адсюль жонку. Выбегла сястра ў белым. У яго вушах усё стаяў крык Насці.

— Баба ў мяне. У кабіне. Вось-вось родзіць,— выдыхнуў Міхаіл. І сястра паморшчылася — так несла ад яго перагарам.

Насцю ён узяў на рукі і панёс, баючыся аступіцца. Яе ў яго забралі, некуды павялі.

— Можаце пачакаць,— сказалі яму.

Ён заўсміхаўся:

— А чаго чакаць. Няхай раджае спакойна...

Калі ішоў да машыны, адчуў, што хмелю ў ім быццам прыбавілася. Сеў у машыну. За акном была цемра. Міхаіл стараўся глыбей дыхаць. Дыхалася яму цяжка. Заляцеў у кабіну выпадковы ліст, жоўты і прамоклы.

Праз гадзіну ў Насці нарадзіўся сын. Здаровенькі хлопчык. Амаль чатыры кілаграмы вагой. Урач з палёгкай уздыхнула:

— Добра, што паспелі. Дарэчы, хто яе прывёз?

— А хто яго ведае? Муж і быццам не муж. Чакаць не стаў. Пад хмяльком чалавек. Дзякуй богу, што цэлай давёз.

# Аб каханні

І папярэджвалі ж мяне, каб не ехаў у камандзіроўку з Варапаевым. Да смерці загаворыць. Усе, хто з ім калі-небудзь на аб'екты выязджаў, даўно ўжо заракліся.

Наш аўтобус, нібы сляпое каценя, тыцкаецца тупой мордай у туман і таму паўзе марудна. Якому шафёру ахвота галаву скруціць у такое надвор'е. Тут ужо не да графіка, абы дабрацца шчасліва.

Мы з Варапаевым сядзім на заднім сядзенні. Жанчын паблізу няма, а значыць, ніхто не расшуміцца, і Варапаеў курыць беламорыну і расказвае:

— Баба ў мяне зараз люкс. Кожны пазайздросціць. Дома парадак, як на карабельнай палубе, ніколі слова супраць не скажа, і целам пышная. А з першай не выйшла. З першых дзён жыцця не пайшло. Прыдуркаватая нейкая. Ох, і намаецца з ёю афіцэрык. Яна за яго хуценька выскачыла пасля таго, як я яе адправіў. Пашанцавала дурніцы.

Аўтобус збавіў ход, а неўзабаве і зусім спыніўся. І спаў я і не спаў. Галава трашчыць. Выйшлі на невялікай станцыі. У буфеце было накурана, чуліся сіплыя галасы. Мы дастаяліся за півам і селі за адзін столік з шафёрам нашага аўтобуса. Ён піў чай і жаваў каўбасу з хлебам, якую дастаў з газетнага кулька.

Мы прапанавалі яму піва. Варапаеў сказаў:

— Які чай у такое надвор'е...

— На гэтай станцыі ніяк нельга,— сказаў шафёр.— Хутка перакрыжаванне, а інспектар на ім

вельмі злосны. Вось на наступнай можна пагрэцца. Далей усе свае хлопцы.

— Ну і дарога,— зноў загаварыў Варапаеў.— Вочы выкалеш. Не пазайздросціш вашаму брату шаферу. Усё жыццё на колах калашмаціцца...

— А вы без нас прапалі б. Дый прывычка ва ўсякай справе патрэбна,— сказаў шафёр.— Я вось, напрыклад, нічым бы іншым і заняцца не мог. Прыкіпеў да руля. Жонка толькі бурчыць, ідзі, маўляў, у слесары. Сем гадзін адрабіў і дома. Чорт з ім, што зарплата ў два разы меншая, затое на душы спакайней — ні галалёду табе, ні туману. Зараз, пэўна, не спіць баба. Праклятушчы туман...

Мы паехалі далей. Заснуць я ўжо не мог. Удалося ўсё ж Варапаеву сон мой прагнаць.

Сам у яго пытаюся:

— А як ты пазнаёміўся са сваёй другой?

Ён засмяяўся:

— Як у кіно. Іду я неяк з канторы нашай дамоў. Кватараваў я тады. Жыцця ад гаспадыні не было. Іду, значыць, і думаю, як бы гэта яшчэ павольней ісці, каб морду яе агідную не бачыць. Гляджу, краля на лыжах ідзе. Маіх гадоў прыблізна, а побач з ёю дзяўчынка. Ні мама, ні дачка не ўмеюць хадзіць на лыжах. Махаюць палкамі, а карысці ад гэтага размахвання ніякай — ледзь паўзуць. У мяне ў арміі першы разрад па лыжах быў, вось я і вырашыў паказаць ім, як гэта робіцца. Спачатку, ясна, дачцэ, пасля маме. Пытаюся ў дачкі:

— Чаму ж гэта вы без таты? Так і нос сабе разбіць можна.

А дачка ў адказ:

— Таты ў нас няма. Ён паехаў у камандзіроўку і даўно не прыязджае.

Мама пачырванела і гаворыць: «Ты, Ніначка, шмат размаўляеш». Я вырашыў дзяўчынцы на да-

пamогу прыйсці: «Мяне дзядзя Толя завуць». Яна мне: «А маю маму Валя...»

Пасля мы ўжо разам на лыжах паехалі. І сам не ведаю, як усё выйшла — праз год я ажаніўся з Валяй і дзяўчынку на сваё прозвішча запісаў. Цяпер толькі татам мяне і называе. Прывыкла. Што дзіцяці трэба? Ласка!

Ён травіць мне душу, гэты Варапаеў. Я з дзетдомаўскіх. І цяпер таксама адзін. Аднойчы, праўда, ледзь не жаніўся, але яна сама перадумала. Дакументы былі ўжо ў загсе, і сябрам я пра вяселле паведаміў, а яна ўзяла дый перадумала. Васька, сябар мой бліжэйшы, сказаў: «Плюнь, Гена. Новую знойдзеш. І радуйся, што да вяселля перадумала». Я гэтак жа рашыў. Але рашыць адно, а ў душы навесці парадак і пустату запоўніць — зусім іншая справа.

Цяпер я разумею — несур'ёзная ўся гэтая гісторыя была. Я за ёй бегаў, і яна здалася толькі на час. А пасля апамяталася. І атрымалася, што і сабе лепш зрабіла, ды і мне таксама. Але вось прыеду я ў свой горад, а мяне ніхто не чакае.

Аб'ект нам з Варапаевым трапіўся дробязны. Доўга галаву ламаць не прыйшлося. Сядзі ды пакручвай гайкі. Мне такая пустая работа не па сэрцы, а Варапаеў гаворыць, што гэта яшчэ і лепш — і пры складаным рамонце, і пры простым адны і тыя ж грошы ідуць.

Вечарам мы сядзелі ў рэстаране, елі цвёрдае, крыху падгарэлае мяса і запівалі яго півам. Варапаеў еў многа і піва піў яшчэ больш.

— Ты еш,— гаварыў ён.— Ніякія валасы тады лезці не будуць. Чалавеку во як,— ён правёў рабром далоні па горле,— вітаміны патрэбны. І бабы худых не любяць. Ні на што яны не прыдатны.

Ён смяецца і гучна чмякае, разглядаючы пры

гэтым маю вельмі парадзелую за апошні час шавялюру. На шавялюру мне напляваць, але з Варапаевым я ў камандзіроўкі больш не яздок.

Ён пытаецца:

— Што з рамонтам рабіць будзем? Працягнем да канца камандзіроўкі або заўтра закончым і айда дамоў?

Дамоў мне спяшацца, як я ўжо гаварыў, няма чаго, і каб быў са мною другі напарнік, я б не супраць быў пасядзець яшчэ некалькі дзён тут, людзей новых паглядзець, ды й з рамонтам гарачку не пароць, але так мне абрыдлі размовы Варапаева, што я сказаў:

— Чаго тут валаводзіцца. Заўтра закончым рамонт і пакацім дамоў.

— І то праўда,— гаворыць Варапаеў.— Занудзіўся я па сваіх. Заўтра зайду, ласункаў дачушцы куплю — прыгледзеў тут тое-сёе. І паедзем.

Рамонт мы закончылі, аб чым і далажылі мясцоваму начальству. Прыйшоў майстар, агледзеў машыну з усіх бакоў, паляпаў, матор запусціў і галавой кіўнуў:

— Поўны парадак, браточкі! Можаце адчальваць, а камандзіровачку я вам патрэбным днём адзначу.

Варапаеў адправіўся ў душ мыцца, а я пабег па білет на самалёт. Аказалася — нялётнае надвор'е. Давялося ўзяць білеты на аўтобус. Я падумаў, што зноў Варапаеў спаць не будзе даваць, але іншага выйсця не было.

Увечары мы яшчэ паспелі павячэраць і неўзабаве сядзелі ўжо ў аўтобусе. Добра, што мяккі, можна адкінуць спінку і спаць. Але адразу не заснуць. Трэба спачатку прывыкнуць да дарогі.

— Зараз бы дома апынуцца...— прамовіў летуценна Варапаеў,— блінцы з гарачанькім чайком, тэлевізар...

Я ў яго ніколі дома не быў, але ўявіў раптам, як Варапаеў налівае чаёк, глядзіць тэлевізар паўлежачы на тахце. Д'ябальшчына, усё ж я моцна зайздрошчу яму, аказваецца. Мяне дык зусім не цягне ў свой пакойчык, дзе і павярнуцца няма дзе, а ў халодную пару ні пад якія коўдры не схаваешся, і вечнае бурчэнне гаспадыні — старой няўдаліцы, якая больш за ўсё на свеце любіла пералічваць вечарамі грошы.

Я ў сваім пакоі бываю рэдка. Усё больш стараюся вольны час правесці з сябрамі, на футболе або ў кіно.

Пад гэтыя думкі я заснуў. Невядома, колькі спаў — у дарозе цяжка прасачыць гэта, і прачнуўся ад таго, што ў твар мне дыхнула ветрам — аўтобус стаяў на невялікай станцыі. Варапаева не было побач, дый аўтобус быў паўпусты. Відаць, асадзілі буфет. Я таксама пайшоў. Варапаеў стаяў і піў піва. Замахаў мне рукой:

— Ідзі выпі. Да самага дому, як забіты, спаць будзеш.

Куфаль не перашкодзіць, вырашыў я. Піва аказалася аксамітным, свежым. Пакуль я куфаль дапіў, Варапаева і след прастыў. Можа, ён мне і гаварыў, што адлучаецца, але я не заўважыў...

Варапаеў аказаўся ў аўтобусе. Месца побач са мной было свабодным, а сядзеў ён наперадзе з нейкай дзяўчынай, твару якой мне не было відаць. Варапаеў з'яўлення майго не заўважыў, так старанна ён ёй аб нечым нашэптваў.

— Знаёмую сустрэў? — сам не ведаю навошта, спытаў я.

— Так. Выпадкова сустрэліся. Знаёмся і ты.

Я працягнуў праз сядзенне руку:

— Косця.

— Наташа.

— А мяне Валодзем завуць,— сказаў ёй Варапаеў, і абодва яны засмяяліся, насмешліва гледзячы на мяне.

Смейся, смейся, падумаў я пра незнаёмку. Табе Варапаеў сваімі байкамі галаву так затлуміць, што потым суткі апрытомнець не зможаш.

Яны пра нешта размаўлялі, а я закрыў вочы і неўзабаве з радасцю адчуў, што засынаю.

Прачнуўся я незразумела ад чаго. Аўтобус наш ехаў па добра накатанай дарозе, за акном была цемра. Варапаева побач не было. Ён сядзеў на ранейшым месцы каля незнаёмкі. З глухім цмоканнем яны цалаваліся. Спрасонку я вачам сваім не паверыў. Але вось Варапаеў быццам нават падміргнуў мне ў цемры. А можа, здалося. Я адвярнуўся і закрыў вочы.

Прачнуўся я, калі аўтобус тармазіў ужо на канечным прыпынку. Варапаеў трос мяне за плячо:

— Я думаў, што не разбуджу цябе,— сказаў Варапаеў.

Ён панёс з аўтобуса дзве сумкі — сваю і незнаёмкі. На вуліцы яна ўзяла яго пад руку. Збоку можна было падумаць, што яны адзін аднаго самае меншае гадоў па дзесяць ведаюць, не менш.

— Так што пойдзем на матор і да цябе заедзем,— Варапаеў падміргнуў мне і кіўнуў у бок незнаёмкі. Я чамусьці ўявіў сабе яго жонку і прыёмную дачку, што няўмела ішлі на лыжах, і сказаў:

— Прабачце, але да мяне нельга. Бабуля пагасціць прыехала.

І, не гледзячы на іх, пайшоў прэч.

# Пісьмы да запатрабавання

Чалавек здаваўся Надзі незвычайным. Паводзіў ён сябе зусім не так, як астатнія наведвальнікі, што прыходзілі сюды дзеля Надзінага акенца. На акенцы надпіс: «Атрыманне карэспандэнцыі да запатрабавання». Варта было толькі працягнуць дакумент: пашпарт або пасведчанне, і Надзя пачынала праглядаць пісьмы. У такія хвіліны на тварах наведвальнікаў можна было прачытаць расчараванне, крыўду, разгубленасць, радасць... У залежнасці ад таго, даставала Надзя або не з доўгай скрынкі маленькі канверт.

— Глядзі, глядзі, Надзейка,— гаварыла суседка Надзі па акенцу Варвара Міхайлаўна, самая вопытная з іх паштарка,— людзі тут неяк адразу выдаюць свае пачуцці...

Рыгор Ільіч Кузмічоў, той самы чалавек, якога Надзя лічыла такім незвычайным, атрымліваючы ад Надзі пісьмы, рабіўся падобным на школьніка, які правініўся. Нават скура на яго аблыселай галаве ружавела. Пісьмы Рыгор Ільіч паспешліва засоўваў ва ўнутраную кішэню пінжака і, развітаўшыся, хуценька адыходзіў.

Падобнае паўтаралася праз кожныя два-тры дні. Пісьмы Рыгору Ільічу прыходзілі з адным і тым жа почыркам на канвертах вельмі часта. Часцей, чым усім астатнім наведвальнікам.

— Жанчына піша... Хто будзе пісаць так часта? А ў яго сям'я...

— А можа, і не,— спрабавала запярэчыць Варвара Міхайлаўна Надзі.

Але ў той былі свае, вывераныя жыццём, аргументы.

— Гэта абавязкова,— гаварыла Варвара Міхайлаўна.— Чалавек ён інтэлігентны. І па твары, і па адзенню. І часта з авоськай ходзіць. Дый сюды чаго б хадзіў? Сядзеў бы дома і атрымліваў свае пісьмы спакойна.

Надзя згаджалася з Варварай Міхайлаўнай, а ў душы спачувала Рыгору Ільічу. Сама яна таксама атрымлівала пісьмы да запатрабавання. Ад бацькі. Дамоў ён ніколі не пісаў. Надзя часта пыталася ў яго пра гэта, але ён амаль не адказваў, а калі і адказваў, дык вельмі расплывіста і няпэўна. Надзя ўяўляла, як бацька піша пісьмо, нізка схіліўшы над сталом сівую галаву, і ад напружання прыкусвае верхнюю губу. Вакол стала ходзіць дзед і прыгаворвае:

— Напішы, што здаровы я. І няхай Надзейка прыязджае, радня ж мы ёй як-ніяк...

Бацька дзеда не слухае і працягвае пісаць пісьмо. Надзя ўяўляе сабе ўсё гэта, на яе вочы набягае сляза. Калі маці пайшла ад бацькі да Надзінага айчыма, бацька нечакана для ўсіх паехаў да сябе на радзіму, у Тулу, дзе жыў яго састарэлы, але яшчэ даволі моцны бацька. З таго часу мінула нямала гадоў, але бацька жыў адзін і не збіраўся жаніцца.

Іншы раз па службовых справах ён прыязджаў у іх горад. У тым, што прычына прыезду — чыста службовая справа, Надзя заўсёды сумнявалася, але бацьку пра гэта не гаварыла — баялася, пакрыўдзіцца. Які толк гаварыць пра гэта, калі Надзя ўпэўнена, што прыязджае бацька толькі для таго, каб глянуць на маму. Пра гэта Надзя даведалася,

наткнуўшыся на бацьку, калі ішла з работы. Ён сачыў за жанчынай, што ішла наперадзе. У жанчыне Надзя лёгка пазнала маці. Яна не вытрымала і аклікнула бацьку. Яму зрабілася няёмка.

— Разумееш, я...

— Не трэба, тата. Калі ты прыехаў? — перабіла яго Надзя.

І яшчэ, прыязджаючы ў камандзіроўку ў іх горад, бацька пачынаў піць. Ад яго часта патыхала гарэлкай. У сябе ў Туле ён не піў зусім, у чым Надзя магла пераканацца, бываючы ў яго ў гасцях у час кожнага свайго водпуску. Надзя ведала, чаму ён п'е, прыязджаючы ў Мінск, і не магла даравацъ маці таго, што яна кінула бацьку. Надзя, праўда, ведала, што айчыма маці вельмі любіць і не проста так пайшла да яго ад бацькі. Але нічога з сабой зрабіць не магла і з кожным днём аддалялася ад маці, адчуваючы, як расце яе непрыязь да шчаслівага жыцця маці і айчыма.

Не хочучы сядзець у іх на шыі, Надзя пайшла пасля школы на вячэрняе аддзяленне універсітэта і ўладкавалася на пошту. Работа ёй спачатку не падабалася, але потым яна знайшла ў ёй сваю рамантыку. Перад яе акенцам праходзіла мноства людзей. Надзі было цікава ўглядацца ў твары, старацца зразумець, што тоіцца за імі. Не выпадкова ж яе празвалі ў школе фантазёркай і выдумшчыцай. Былы Надзін аднакласнік Вадзім таксама лічыць яе такою. Амаль штодзённа сустракае ён Надзю ля пошты, праводзіць да інстытута і сустракае позна ўжо ўвечары.

Вучыцца ён у медыцынскім, на другім курсе, і страшэнна не любіць усякія недакладныя навукі. Надзя спрабуе яго перавыхаваць, але ён толькі смяецца і гаворыць: «Я, таварыш філалагічка, у цэлым згодзен, але мой арганізм і без таго задужа

перанагружаны, каб яшчэ прымаць у сябе значныя дозы чужога паветра».

Таму Надзя амаль ніколі не расказвае Вадзіму пра людзей, што прыходзяць да яе на пошту па пісьмы, і тым больш пра Рыгора Ільіча.

Ён па-ранейшаму завітваў часта, ні на каго не гледзячы, хаваў у кішэню пісьмы і адыходзіў хутка нейкай дзіўнай хадой. Пасля ён пачаў прыходзіць усё радзей, прыкладна, раз на тыдзень. Твар Рыгора Ільіча пацямнеў, асунуўся.

Неяк Надзя пайшла ў водпуск на сесію і дзесяць дзён не з'яўлялася на пошце. Сесія закончылася добра, і, прыйшоўшы на работу, Надзя паказала вялікі палец, што азначала «ўсё ў парадку».

— А твой кліент з таго часу, як ты пайшла, не прыходзіў,— сказала Варвара Міхайлаўна, якая падмяняла Надзю на час водпуску.— Я ўжо думала: акруціў дзеўку і на пісьмы свае махнуў рукой. Вунь іх колькі сабралася. Штук дваццаць...

Надзя адкрыла скрынку. Пісьмы, адрасаваныя Рыгору Ільічу, ляжалі асобным стосам. Перамяшала канверты. Почырк быў на іх адзін і той жа.

«Ад яе пісьмы»,— падумала Надзя, а ўголас прамовіла тое ж самае.

— Ад каго ж яшчэ. Ну і дурная баба, відаць,— задумліва сказала Варвара Міхайлаўна. І адразу ж запярэчыла сама сабе: — А можа, так любіць яго? Ці пісаў ён ёй столькі пісьмаў? Дарэчы, там і табе ёсць пісьмо.

Бацька пісаў: «Зусім ты мяне забыла, дачка. Жыццё ў цябе цікавае, людзей вакол шмат, а я далёка. І, галоўнае, у кожнага чалавека — маці. Твая побач з табой, і я ніколькі не крыўджуся...»

Надзя паспрабавала ў думках параўнаць Рыгора Ільіча з бацькам. Бацька вымушаны быць без чалавека, якога любіць. Рыгор Ільіч — таксама...

6 Зак. 2262

Але ці вымушаны ён? Як бы бацька зрабіў на яго-ным месцы? Ён бы ні на што не паглядзеў... Ну, а мама?

Надзя зразумела, што ва ўсім гэтым ёй проста не разабрацца.

Яна выдала некалькі пісьмаў і, убачыўшы, што наведвальнікаў каля акенца больш няма, прынялася за пісьмо да бацькі. І пачала яго так: «Родны мой, бурклівы старыкан. Ты для мяне і бацька і лепшы сябар...»

Рыгор Ільіч не прыходзіў. «Можа, памёр? — са страхам думала Надзя.— Бывае ж так — жыве, жыве чалавек і зусім нечакана памірае».

Пачак пісьмаў, адрасаваных Кузьмічову, рос яшчэ, але ўсё марудней. Відаць, чалавек, які пісаў іх, страціў усякую надзею атрымаць адказ.

Прайшоў месяц. Другі. Пісьмы ляжалі. Адваротнага адраса на іх не было.

— Усё скончылася,— смяялася Надзіна равесніца Любка, якая займалася на пошце выдачай пасылак.— Відаць, на курорце пазнаёміліся. Я таксама пісала... Што толку ў пісьмах? За пасылкамі вунь як бягуць!

Надзя нічога не адказвала. Дый бескарысна. Усё роўна не зразумее. Сама ж яна спрабавала разабрацца ва ўсім і вырашыць, што ёй зрабіць. Надзі здавалася, што на яе вачах рушыцца шчасце.

У гардаведцы Надзя даведалася, што ў іх горадзе, які вечна здаваўся ёй невялікім, аказалася адзінаццаць чалавек, якія носяць прозвішча Кузьмічоў і імя — Рыгор Ільіч. Жылі яны ў розных канцах горада.

«Адзінаццаць дзён не так ужо і многа,— думала Надзя і тут жа спахоплівалася: — а што я яму скажу? Выставіць за дзверы і будзе правы».

У першы вечар, калі яна ўсё ж адважылася пачаць пошукі Рыгора Ільіча, ёй не пашанцавала. Дзверы адчыніў стары.

— Тут жыве Рыгор Ільіч Кузьмічоў?

— Гэта я.

— Прабачце, я памылілася,— сарамліва прамармытала Надзя і хуценька збегла ўніз па лесвіцы, адчуваючы на сабе недаўменны позірк старога.

Каля свайго дома яна сустрэла Вадзіма.

— Серада... Заняткаў няма, а ты некуды знікла...

— Заходзіла пасля работы па адной справе,— адказала Надзя.

Вадзім угаварыў яе крыху прагуляцца. Надзя сама не заўважыла, як расказала яму пра ўсё. Яна проста не магла больш трымаць пры сабе гэту незвычайную тайну. Вадзім прыняў яе расказ сур'ёзна.

— Можа, захварэў ён? Ляжыць, а жонку ж за пісьмамі не пашлеш.

— Я гэтак жа думала. Думала нават, што ён памёр. Але, мне здаецца, тут іншае...

— Можа, збаяўся, а можа, пісала яму якая-небудзь выпадковая жанчына, і адшукваць яго не варта. Надакучыла яна яму, і ўсё,— выказаў меркаванне Вадзім.

— Усё гэта не так,— запярэчыла Надзя і выклала ўсе свае назіранні за Кузьмічовым.

— Ты б толькі бачыў ягоны твар...

— Міфічны рамантык з бледным тварам, які атрымлівае таямнічыя пасланні,— усміхнуўся Вадзім.— Пойдзем шукаць Кузьмічовых. Адчуваю, выльe яго жонка на нас вядро вару...

Быццам знарок, ім трапляліся ўвесь час іншыя Кузьмічовы. Дзесяць цёзак Рыгора Ільіча. Застаўся адзіны адрас.

— Я пайду адна,— сказала Надзя Вадзіму, які нязменна суправаджаў яе.— Чаго табе ісці? І так злосны на мяне за гэту выдумку. Толькі не гаворыш.

— Адну я цябе не адпушчу. Да таго ж, адчуваю я сябе героем дэтэктыву ў стылі Агаты Крысці.

Вадзім застаўся ў двары, а Надзя, узняўшыся на патрэбны паверх, з няясным пачуццём няўпэўненасці, націснула кнопку званка. Больш за ўсё яна непакоілася за тое, што дзверы адчыніць жонка Кузьмічова. Цэлую гадзіну ламалі яны з Вадзімам галаву, што павінна сказаць Надзя ў такім выпадку, ды так нічога талковага і не прыдумалі.

Апасенні аказаліся дарэмнымі. У дзвярах стаяў Рыгор Ільіч. Ён адразу ж пазнаў яе, захутаную ў касматы махеравы шалік, ружовашчокую ад марозу.

— Добры дзень, Рыгор Ільіч,— сказала Надзя, застаючыся за парогам.— Я прынесла вам пісьмы.

Сказала і сама падумала: «Не хворы. Здаровы. Зараз зачыніць дзверы».

Ён разгубіўся:

— Пісьмы?! Праходзьце, Надзейка...

Яна зайшла ў калідор, затым прайшла следам за Рыгорам Ільічом у прасторны, абстаўлены з густам пакой.

Рыгор Ільіч прысеў за стол і прапанаваў ёй зрабіць тое ж.

— Дзе пісьмы? — спытаў ён, перабіраючы пальцамі па паліраванай паверхні стала.

— Вось,— Надзя дастала з сумкі пісьмы, загорнутыя ў жоўтую абгортачную паперу.

Разгарнуўшы паперу, Рыгор Ільіч адным жэстам раскідаў пісьмы па стале. Прабягаючы вачамі з аднаго на другое, ціха прамовіў:

— Многа...

Надзя адчула сябе лішняй побач з ім і гэтымі

пісьмамі, якія павергли яго ў разгубленасць, няёмкасць.

— Вы мне прабачце, Рыгор Ільіч, я падумала, што вы хворы, і знайшла вас. Я лепш пайду.

Рыгор Ільіч устаў і прайшоў з канца ў канец па пакоі, засунуўшы рукі ў кішэні хатніх вельветавых штаноў, запярэчыў:

— Не. Я быў здаровы. Кроў з малаком. А вы не спяшайцеся. Вы мяне толькі зразумейце, Надзя. Не мог я інакш. У мяне двое дзяўчынак. Маленькіх, з коскамі, ды яшчэ жонка...

Яго апошнія словы агарошылі Надзю. Чаго-чаго, а падобнага яна не чакала. Чаму яго раптам прарвала перад ёй, незнаёмай, чужой дзяўчынай, якая ў дочкі яму падыходзіць? І толькі заўважыўшы, што ён не звяртае на яе ніякай увагі, яна зразумела — гаворыць зараз, звяртаючыся больш да самога сябе, і яна тут зусім ні пры чым.

— Жонка зараз пайшла ў дзіцячы сад. Я доўга не жаніўся. Усё часу не хапала. На гэтай паліцы ёсць і мае кнігі... Пасля жудасна стала аднаму, і ажаніўся, упэўнены, што ўсё роўна нікога не пакахаю. Жонка мне не падыходзіць... Дарэчы, гэта наіўна і смешна гучыць. Адкрыў я сябе ў другой жанчыне. Выпадкова, у камандзіроўцы...

Рыгор Ільіч гаварыў амаль неразборліва, але Надзя яго разумела.

— Вы яшчэ кахаеце? — вырвалася ў яе.

Ён спыніўся, глянуў на яе, усміхнуўся:

— Ах, дзяўчынка... Відаць, гэта называецца так. Я нікому ніколі не гаварыў нічога. А цяпер не маю права. У мяне дзве дачкі... У яе таксама сям'я. Яна гатова на ўсё, а я... Я слабы... А можа, моцны. Я нічога не ведаю!

Твар Рыгора Ільіча расчырванеўся, вочы заблішчэлі.

Раптам пазванілі. Ён спыніўся, неяк сцяўся, быццам рыхтуючыся да скачка, затым абмяк і крыва ўсміхнуўся:

— Ідуць...

Нязграбна скінуў у скрынку стала пісьмы і пайшоў да дзвярэй. Надзя ўслед за ім. У пакой увайшла жанчына, аблепленая з ног да галавы снегам, а за ёй дзве дзяўчынкі прыкладна аднаго ўзросту.

— Грышачка,— жартаўліва ўзмалілася жанчына,— што яны са мной зрабілі?!

Убачыўшы Надзю, жанчына асеклася.

— Да пабачэння,— выпаліла Надзя і збегла ўніз.

Вадзіму, які нецярпліва чакаў яе, Надзя сказала:

— Ты не праводзь мяне сёння. Прыйдзі заўтра да інстытута...

— Добра,— сказаў Вадзім і пайшоў, відаць, пакрыўдзіўшыся на яе.

Дамоў Надзі ісці не хацелася, і яна знарок падоўжыла дарогу, блукаючы па дварах. Яна думала пра тое, ці прыйдзе на пошту Рыгор Ільіч? Што будзе з ім і тымі дзвюма дзяўчынкамі, так падобнымі на бацьку? А яе маці? Яна была вельмі несправядлівая да яе. Яе маці і мужная і смелая. За гэта яе і любіць бацька.

Свет у гэты вечар, як ніколі раней, здаўся ёй велізарным, недасягальным.

# Салон прыгажосці

Нельга сказаць, каб з раніцы ў Морава быў радасны настрой. Нарэшце акрыяў паўтарагадовы ўнук Морава Санька. У дзеда быццам цяжар з сэрца зваліўся — хварэў унук доўга, пакутліва. Двухбаковае запаленне лёгкіх, потым ускладненне на сэрца... Пасля работы, нагрузіўшыся пакункамі, Мораў чакаў на прыпынку сваю жонку, Лідзію Пятроўну, і імчалі яны разам у маленькі пакой дачкі. Ад дачкі карысці было мала, яна зусім знясілела, пад вачыма ў яе чорныя кругі, і слёз не было, каб плакаць. Толькі цяпер Мораў зразумеў, як цяжка было жонцы ў далёкія гады малалецтва дачкі. Ён тады ездзіў бясконца па экспедыцыях і дачку бачыў рэдка.

Раніцой пазваніла дачка і парадавала іх з жонкай: урач прызнаў Саньку зусім здаровым.

Праз дзве гадзіны пасля прыходу на работу добры настрой у Морава бясследна знік. Прыйшло паведамленне з пошукавага раёна, на які аддзел Морава ўскладаў вялікія надзеі,— калійнай солі не выяўлена.

«Д'ябальшчына нейкая,— думаў Мораў,— павінна быць там соль, ён яе за сто вёрст чуе. Прыйдзецца пад'ехаць самому, паглядзець». Потым выклікаў да сябе дырэктар інстытута, згадзіўся, што Мораву лепш за ўсё паехаць у пошукавы раён тыдні на два, а пакуль адправіў яго на сваёй машыне ў бальніцу забіраць галоўнага інжынера першага аддзела Кузьміна. Мораў паспрабаваў было адмо-

віцца — Кузьміна ён ведае кепска, ёсць у яго свой начальнік аддзела і свае супрацоўнікі, але потым згадзіўся — ён жа старшыня мясцкома.

Кузьміна Мораў ведаў не настолькі і добра, але з даўніх часоў — Кузьмін на год пазней заканчваў інстытут. Неяк прыходзіў Кузьмін пазычаць у Морава буйную суму грошай на мэблевы гарнітур. Вось і ўся іх дружба.

У бальніцу Кузьмін злёг неяк нечакана — мажны, з румяным тварам мужчына, весялун і балагур. Знайшлі ў яго пухліну і адправілі ў анкалагічную клініку. Але пухліна, на шчасце, аказалася незлаякаснай, і Кузьмін вяртаўся дамоў. Мораву і яго спадарожніку, супрацоўніку аддзела Кузьміна, ніколі не даводзілася бываць у клініцы, назву якой усе вымаўлялі з непрытоеным хваляваннем, нават страхам. А клініка на выгляд аказалася наогул звычайнай — чатыры пяціпавярховыя дамы паблізу адзін ад аднаго і паміж імі малады яшчэ парк. Мораў і яго спадарожнік распыталі, дзе знайсці Кузьміна.

Мораў пасядзеў крыху ва ўтульным холе, пагартаў брашуркі, у якіх папулярна расказвалася, як засцерагчыся ад розных хвароб, і ўбачыў нарэшце Кузьміна. На ім быў паласаты халат, твар бледны, і Мораў адзначыў, што пастарэў Кузьмін адразу на некалькі гадоў.

— Я хутка вярнуся,— сказаў Кузьмін,— пераапрануцца трэба. Дзякуй, што вы прыехалі. Дарэчы, пазнаёмцеся, вось мая жонка.

Аказалася, што жонка Кузьміна, маленькая жанчына з маладым тварам і сухаватай, цвёрдай рукой, таксама чакала яго ў холе.

Кузьмін пайшоў, і Мораў разгубіўся — гаварыць з жонкай Кузьміна не было пра што. Яны толькі абмяняліся некалькімі фразамі аб тым, што

сюды лепш не трапляць і што яна шчаслівая — нарэшце настаў гэты дзень і яе муж вернецца дамоў.

Яны змоўклі, і Мораў пачаў разглядаць людзей у холе. Тут (ён толькі цяпер гэта заўважыў) сядзелі двое мужчын з беднымі тварамі, у дакладна такіх жа, як у Кузьміна, паласатых халатах, яны вяла гутарылі з жанчынамі, якія вельмі стараліся размаўляць бадзёра. У іх гэта выходзіла непераканаўча.

Была яшчэ ў холе жанчына. У паласатым, неяк вельмі добра падагнаным пад яе фігуру халаце. Яна сядзела да Морава ўпаўабарота, і ён не мог бачыць яе твар. Жанчына размаўляла з дзяўчынай гадоў семнаццаці. Мораў урыўкамі ўхопліваў яе голас — мяккі, з вельмі прыемным тэмбрам. Яму здалося, што ён недзе чуў гэты голас.

Кузьмін затрымліваўся. «Я б на яго месцы,— думаў Мораў,— пастараўся б хутчэй адгэтуль выбрацца». Нарэшце паказаўся Кузьмін з усмешкай на бледным твары. Мораў сказаў яго жонцы:

— Ну вось і пойдзем цяпер.

Пэўна, яна ўвесь гэты час думала пра тое ж і таму кіўнула Мораву галавой. Апошні раз Мораў абвёў позіркам хол і спыніўся на твары жанчыны з на дзіва знаёмым Мораву голасам. Жанчына стаяла ўжо і развітвалася з дзяўчынай.

Мораву ўдалося пададавіць аняменне, і ён сказаў глухім голасам:

— Дзень добры, Маша!

Ён адразу пазнаў гэту жанчыну, хоць не бачыў яе шмат гадоў. Калісьці яна ледзь не стала яго жонкай.

Пасля двух тыдняў рэдкага бабінага лета высыпаў вясёлы, быццам у сакавіку, снег. Вуліцы пакрыліся чорнымі лужынамі: у снег уціснуты былі

бруднага колеру размоклыя лісты — учора яшчэ ярка-жоўтыя, вясёлыя.

Мораў зрабіў памылку, што ўціснуўся ў перапоўнены тралейбус. Цыбатая фігура Морава пачала прабірацца да выхада. Тыя, каму ўдалося ўлезці ў тралейбус следам за ім, зашыкалі — ці варта было чалавеку штурхаць стомленых людзей дзеля нейкага аднаго прыпынку. Другім бы разам Мораў абавязкова агрызнуўся, але цяпер ён толькі прамармытаў сабе пад нос: «Спяшацца няма куды. Я пешшу пайду. Гэта мая асабістая справа». А гузік Мораву ўсё ж выдралі. На яго месцы толькі ніткі матляліся. Мораў сагнуўся і, прыжмурыўшыся, пачаў шукаць гузік у снезе. На яго азіраліся рэдкія прахожыя — вельмі ўжо недарэчна выглядаў сагнуты напалам Мораў у сваім даўжэзным, даўно нямодным паліто, і да ўсяго яшчэ невядома чаго ўтаропіўшымся ў бруднавата-шэрую, ліпкую масу пад нагамі. «Што я раблю, дзівак,— падумаў Мораў.— Хіба гузік знойдзеш тут?» І паклыпаў па непрывычна пустому праспекту. Ішоў ён напрасткі, не пераступаючы праз лужыны, па яго твары сцякалі струменьчыкі ад сняжынак, але і на іх ён не звяртаў увагі.

Ён прайшоў так два кварталы. У галаве была цяжкая, невераго́дная стома.

Бледнасць яго твару не засталася незаўважанай жонкай.

— Зноў стаміўся? — спытала яна.

— Зноў.

— Званіла Танечка. Санька стаў зусім вясёленькі.

Яго голас данёсся з ванны:

— Прабач, але я сёння забыўся ім пазваніць.

Мораў старанна апаласкваў твар халоднай вадой. Яму думалася, што гэта прывядзе яго ў нар-

мальны стан. Ён глядзеў на свой твар у люстэрку, быццам з боку, і ён здаваўся яму чужым і незнаёмым.

Усё лагічна, думаў ён, жыццё падышло к канцу. Як ва ўсіх. Яна там, ты — тут. Нічога ў гэтым няма незвычайнага. Вы нічым не адрозніваецеся ад іншых нармальных людзей. Між вамі нічога не было па цяперашніх паняццях. Вы не бачыліся амаль два дзесяткі гадоў, жывучы ў адным горадзе і, магчыма, зусім непадалёк. Ён спалохаўся сваіх, як яму здалося, нейкіх вельмі гучных думак. А што, калі гэта зусім і не думкі, а гаворыць ён уголас? Ён прысеў на край ванны і пачаў слухаць голас жонкі. «Ты сёння пайшоў у нячыстай кашулі? Прабач, я не заўважыла. Час было б ужо навучыцца самому заўважаць гэта. Саўка́ ты, вядома, не купіў, я вось ужо другі месяц збіраю смецце з падлогі на паперу. Калі ласка, купі мне савок, такі высокі, з доўгай ручкай. Ты ж абяцаў...»

Затым настала маўчанне, пасля чаго пачулася:

— Ты заснуў там у ванне?

Мораў адказаў не адразу:

— Не заснуў. Я зараз.

Ён выйшаў у кухню. На стале стаяў яго любімы, чырвоны ў белы гарошак, кубак з кофе, з якога не знікла яшчэ белая пенка, на талерцы ляжалі бутэрброды з галандскім сырам. Інакш і быць не можа. Ён не прызнае ніякіх вячэр, апрача бутэрбродаў і кофе, не хоча тлусцець, гэта не трэба яму. Іншы раз, хоць у апошні час і рэдка, ён усё ж выбіраецца ў экспедыцыі, а там тлустыя, быццам белыя вароны...

— Што ўвечары будзем рабіць? — спытала жонка, сеўшы насупраць. Яна вечна садзілася насупраць. Ёй прыносіла вялікае задавальненне пагаварыць з ім. І не так важна, на якую тэму.

— Можа, да Алёшкі пойдзем? — сказаў ён.— Я вельмі засумаваў па ім.

Ён ведаў: варта ўбачыць усмешлівы твар унука, узяць яго на рукі, як усе клопаты разам знікалі.

— Ты не забыўся — нам заўтра да Сямёнавых на дзень нараджэння?

— Не забыўся,— адказаў Мораў і ў першы раз адпіў кофе.— Я ўсё добра помню. Яшчэ я помню, што заўсёды перад тым, як ісці ў госці, ты ідзеш у цырульню.

— Не адгадаў — сёння я іду ў салон прыгажосці.

— Нават так? Толькі я баюся, каб цябе не зрабілі там завельмі прыгожай. Інакш я застануся пры сваіх інтарэсах.

Лідзія Пятроўна падсунулася да Морава. Яна ніяк не магла зразумець — жартуе ён ці гаворыць усё гэта ўсур'ёз. Ён і сам гэтага не ведаў. Дарэчы, Лідзія Пятроўна не стала мучыць яго пытаннямі. Яна пачала збірацца ў салон прыгажосці, робячы гэта, як заўсёды, мітусліва.

— Ты ведаеш, я таксама пайду з табой. Не хочацца сядзець дома. Вельмі стаміўся, каб працаваць.

Пра такое Лідзія Пятроўна з даўніх часоў і марыць не магла. Морава цяжка куды-небудзь выцягнуць. Ён толькі гатовы ў любую мінуту імчаць да ўнука Лёшкі ды яшчэ гадзінамі гутарыць з такімі фанатыкамі аб магчымых месцанараджэннях, шчыльнасці пластоў і яўна ўстарэлай тэхніцы. Лідзія Пятроўна ўжо і ўспомніць не магла, каб ён калі-небудзь па сваім уласным жаданні прагульваўся з ёю.

— Ты сёння нейкі дзіўны,— сказала яна, калі яны ішлі па вуліцы.— Што-небудзь на рабоце здарылася?

— Не. Усё ў парадку. Хутка ў экспедыцыю палячу. Заседзеўся я, Ліда, заседзеўся. Страсянуць трэба старыя косці.

Больш яна ад яго нічога не дабілася. Лідзія Пятроўна пайшла ў кабінет, а Мораў застаўся ў вялікім холе салона. Тут было светла, утульна і моцна пахла букетам разнастайных духоў, лакаў. Работніцы салона выглядалі святочна, і нават у прыбіральшчыцы была старанна выкладзена прычоска. «Пайдзі я сюды раней, мог бы сустрэць Машу,— думаў Мораў.— Тады б усё атрымалася прасцей — пагаварылі б аб дзецях, уануках (можа, і яна ўжо бабка?) і разышліся ў розныя бакі».

Мораў пачаў уяўляць, як сустрэў бы ён тут Машу, з высокай прычоскай, прыгожую і крыху высакамерную, як бы адчуваў ён сябе і пра што б яны гаварылі... Толькі ён пэўна ведаў, што ў салоне яе немагчыма сустрэць. Яна ніколі празмерна не клапацілася аб сваёй знешнасці. У такім выпадку, дзе б яны маглі сустрэцца? У тэатры, у кіно, у магазіне, напрыклад, у чарзе ў каўбасны аддзел... Маша бледная і вельмі пастарэла. Хто гэтая дзяўчына? Відаць, дачка? Чаму не было мужа?..

З'явілася нейкая вельмі святочная Лідзія Пятроўна, і Морава пакінулі нарэшце гэтыя хвалюючыя думкі. На вуліцы была мяцеліца. Лідзія Пятроўна старалася схавацца за рукаў паліто Морава, а ён думаў, што на яе месцы магла быць Маша...

— Я лічу, што падарунак для Сямёнавых нядрэнны,— гаварыла між тым Лідзія Пятроўна.— Ага, ледзь не забылася. Ты ўяві сабе — іх Леначка надумала замуж выходзіць. Марыя Антонаўна ў паніцы.

— Ну і няхай бы выходзіла замуж, навошта панікаваць,— сумна прамовіў Мораў.— Можа, пасля

будзе позна, можа, не возьме ніхто, і будзе Сямёнавіч і ўдзень і ўначы шукаць ёй жаніха. Літаральна сон згубіць.

— Ты сёння шмат жартуеш,— адказала на гэта Лідзія Пятроўна.— Сямёнавы вельмі добрыя людзі, і я не разумею...

— Ну, добра, добра, я больш не буду,— сказаў Мораў ці то Лідзіі Пятроўне, ці то сам сабе і паскорыў крок.

Дома Лідзія Пятроўна пачала чытаць нейкі дэтэктыў, а Мораў доўга не мог знайсці сабе месца. Ён туляўся па кватэры, уключаў і выключаў тэлевізар і бясконца піў моцны чай. Заснуць ён таксама доўга не мог. Ляжаў і глядзеў перад сабой у пустату. Ён адганяў безадказнае пытанне: «Як быць?» Адказ здзівіў Морава сваёй прастатой: трэба схадзіць да яе, аднесці што-небудзь, апельсіны, напрыклад, падтрымаць словам, мы ж не чужыя... Ён спалохаўся гэтага «не чужыя». Каб не ўзважваць гэтыя вярэдлівыя для душы словы, ён моцна заплюшчыў вочы і ўткнуўся тварам у падушку. Так і не заснуў усю ноч.

«Так, трэба схадзіць да яе, вось і ўсё,— думаў Мораў, ідучы заўтра раніцой на работу.— Але што сказаць ёй?»

Ён не збіраўся адшукваць гэтыя словы цяпер. Гэта было б непатрэбнай справай. Нават знайдзі іх цяпер Мораў, потым яны ўсё роўна знікнуць з памяці або пераблытаюцца.

Мораў пазваніў свайму знаёмаму ў міністэрства гандлю, каб спытаць, дзе можна адшукаць хоць бы з кілаграм апельсінаў. Знаёмы гэты (раней Мораў да яго не звяртаўся з падобнымі просьбамі ды й не званіў) засмяяўся:

— Ты, браце, да мяне за «Жыгулямі» пры выпадку звяртайся, а апельсіны — гэта дробязь. Пай-

дзі ў любы рэстаран і скажы, загадзя, вядома, адрэкамендаваўшыся дырэктару, што ў вас хварэе супрацоўнік, і, павер, ён табе не адмовіць.

— Так, так... Як гэта я адразу не здагадаўся? — прамармытаў Мораў у трубку, вырашыўшы, што нездарма, відаць, ён даўно не званіў гэтаму знаёмаму.

Супрацоўніца аддзела Морава Галя Мікалаева, самая прыгожая дзяўчына ва ўсім геалагічным інстытуце, маючы адначасова завельмі адкрыты позірк, узялася дапамагчы Мораву. Ён дазволіў ёй на дзве гадзіны знікнуць з работы. Яшчэ напалавіну разгублены ад нечаканасці, Мораў кіўнуў галавой, падумаў, што, можа, і не патрэбны яму гэтыя апельсіны... Можа, ён толькі думае, што зможа сёння ж з'явіцца перад Машай з кульком апельсінаў у руках...

Праз паўгадзіны Мікалаева, радасная, запыханая, паклала на стол Морава вялікі духмяны пакет.

— Так, так, дзякуй вам вялікае,— сказаў Мораў і нарэшце ясна зразумеў, што сёння ён да Машы паехаць не зможа. Некалькі разоў ён сумняваўся, уяўляў сябе рашучым, але ўсё ж не пайшоў да дырэктара інстытута прасіць машыну.

Да яго бясконца неслі справаздачы, зводкі, але Мораў не бачыў выйсця са сваёй адчужанасці ад усіх прывычных і патрэбных спраў. Спачатку ён мучыўся пры гэтай думцы, але пасля махнуў на ўсё рукой, вырашыўшы, што ён можа дазволіць сабе падобнае хоць бы раз у жыцці.

Мораў спыніў таксі, назваўшы шафёру адрас. Ён прыжмурыў вочы і назіраў за тым, як часта агні зліваюцца ў адзін доўгі, яркі ланцуг, як у частых лужынах мільгаюць паўфантастычныя блікі.

Ачнуўся ён ад голасу шафёра:

— Прыехалі!

— Паслухайце, вы ведаеце, дзе анкалагічная клініка?

— Так. Вельмі знаёмы маршрут.

— Давайце зараз туды і паедзем.

— Па мне хоць на край свету, абы лічыльнік працаваў. Толькі гэта, вядома, не самае лепшае месца.

Мораў прамаўчаў. Ён сам не ведаў, як гэта ў яго выйшла, ды ён і не думаў пра гэта. Ён цешыў сябе тым, што таксі яшчэ не хутка дабярэцца праз увесь горад на другі бок, пасля адолее кіламетраў дзесяць загараднага шасэ, што ў яго яшчэ ёсць час, каб адцягнуць сустрэчу, без якой яму, Мораву, немагчыма абысціся.

Але машына вельмі хутка аказалася каля паўзацемненых соснамі карпусоў. Ужо стоячы перад маленькага росту дзяжурнай, Мораў раптам з жахам падумаў, што не ведае цяперашняга прозвішча Машы, а каму якая справа да яе дзявочага — Прохарава.

— Прозвішча, імя? — спытала дзяжурная, і Мораву былі адрэзаны ўсе шляхі да адступлення.

— Марыя Сямёнаўна Прохарава,— сказаў ён амаль машынальна і хацеў дадаць, што, магчыма, такога прозвішча ў кнізе дзяжурнай зусім няма, і тады ён трапіў бы ў даволі недарэчнае становішча.

— Няма ў нас Прохаравай Марыі Сямёнаўны,— адказала дзяжурная, дзіўна паглядзеўшы на Морава паверх акуляраў.

— Ведаеце, я так і думаў. Справа ў тым... Словам, я не ведаю цяперашняга прозвішча жанчыны, а яе дзявочае, сам разумею, ні ў чым мне не дапаможа.

— Дык што ж вы прыехалі сюды? — недаўменна спытала дзяжурная і ў наступнае імгненне, ві-

даць, пашкадавала Морава — ён неяк увесь сцяўся ад гэтага пытання, падаўся да дзвярэй.

— Вось што, давайце спачатку высветлім, у якім корпусе ваша знаёмая, Марыя Сямёнаўна,— сказала дзяжурная, і Мораў тут жа стаў ранейшым — крыху ўсхваляваным, але не баязлівым.

— Як бы гэта па-вашаму сказаць, здаецца, у папярэднім. Дзе ўстанаўліваюць канчатковы дыягназ. Адразу направа, як у вароты зойдзеш...

— Зараз гляну,— дзяжурная паглыбілася ў свой журнал, а Мораў стаў хадзіць па невялікім пакойчыку, асветленым бляклым святлом.

— Здаецца, Марыя Сямёнаўна ў гэтым корпусе ўсяго адна.— Яна пачала чытаць: — Марыя Сямёнаўна Богушава, 1928 года нараджэння, прыбыла...

— Гэта, відаць, яна,— паспешліва прамовіў Мораў, раптам уздыхнуўшы з палёгкай.— Дык вось, я б хацеў пабачыць яе, і яшчэ вось перадайце апельсіны,— ён паставіў на стойку перад дзяжурнай духмяны кулёк.

— Апельсіны перадаць можна, а вось пабачыцца нельга — час ужо для наведванняў скончыўся. У любы дзень з 8 да 17, але не пазней.

— Добра, я ўлічу,— ціха прамовіў Мораў і ўжо на прыпынку аўтобуса злавіў сябе на думцы, што радуецца гэтай магчымасці адцягнуць дзень сустрэчы з Марыяй. Яму вельмі хацелася ўсё ж прыдумаць хоць бы першыя словы, якія ён ёй скажа, але яны не ішлі ў галаву.

Заўтрашні паслярабочы распарадак дня быў распісаны загадзя — некалькі дзён Лёшка здаровы, і Мораву з жонкай проста нельга не праведаць яго. Да таго ж, пазваніў зяць Морава Андрэй і ска-

заў, што па ўсіх правілах выздараўленне сына трэба абавязкова замачыць. Лідзія Пятроўна ў загадным парадку даручыла Мораву ў што б там ні стала дастаць апельсіны (сама бачыла, як людзі сеткамі цягаюць, значыць, ёсць яны ў горадзе). Мораў адчуў перад ёй, і асабліва перад Лёшкам, нейкую нявытлумачальную віну за ўчарашні кулёк з апельсінамі і прыйшоў да аднаго рашэння — зноў давядзецца ісці з паклонам да супрацоўніцы Галачкі Мікалаевай.

— Разумееце, Галачка,— гаварыў ён ёй.— Вы ўжо мяне не казніце, але пазарэз патрэбны яшчэ апельсіны, хоць бы з кілаграм.

Яна ўсміхнулася яму сваёй чароўнай усмешкай (Мораў у гэту мінуту адчуў, што трапляе да яе ў нейкую дзіўную залежнасць) і сказала:

— Магу нават тры кілаграмы. Іх падвезлі, і гэта не з'явіцца вялікай праблемай.

Мораву стала няёмка, і ён толькі кіўнуў галавой, не сказаўшы тым самым ні так, ні не. Прасіць тры кілаграмы ў яго язык не варухнуўся. Праз паўгадзіны Галачка Мікалаева паставіла на яго стол кулёк, удвая большы ўчарашняга, Мораў расплаціўся з ёю, не ўзнімаючы вачэй, і сказаў як бы між іншым, што сёння яна можа быць свабоднай. Тым больш што заўтра субота і ў яе, напэўна, ёсць нейкія свае справы.

Хутчэй бы яна пайшла, думаў Мораў. Ён быў раздражнёны. «А раптам Маша чакае мяне сёння, раптам спадзяецца ўбачыць, а я не прыйду,— думаў ён.— Ну і што з гэтага — я проста не магу. Нельга ж адмовіцца пайсці праведаць Лёшку. Што дачка падумае». Ды і Лідзіі Пятроўне ён наўрад ці зможа растлумачыць што-небудзь.

Ідучы дамоў, Мораў накупляў поўны партфель віна, цукерак, узяў у сябе ў буфеце блок амеры-

канскіх цыгарэт для зяця. Яны выклікалі таксі і праз нейкія пятнаццаць мінут пачулі голас Лёшкі за дзвярыма. Лёшка пабег да Морава насустрач з крыкам: «Дзеда, дзеда!» — і ў яго пры поглядзе на ўнука адразу зрабілася на сэрцы лягчэй. Лёшка яшчэ не ачуняў ад хваробы — быў нязвыкла худы, нейк адразу выцягнуўся, але твар у яго пасвяжэў, на ім нават з'явіўся румянец.

— Я апельсінчыкаў купіў,— сказаў Мораў дачцэ.— Вазьмі некалькі, пакладзі на батарэю, няхай сагрэюцца.

Лідзія Пятроўна пайшла на кухню памагаць дачцэ завіхацца ля пліты, а Мораў застаўся гутарыць з зяцем. Зяця ён любіў, хоць і лічыў некаторыя яго меркаванні аб жыцці вельмі павярхоўнымі, лёгкімі, але спадзяваўся, што гэта пройдзе з узростам. На гэты раз размова не клеілася.

Мораў не мог дачакацца, калі вячэра з'явіцца на стале. Звычайна ён быў абыякавы да спіртнога. А цяпер хацелася выпіць, да таго ж, як мага больш.

Лідзія Пятроўна здзіўлялася, вачам сваім не верыла, гледзячы, як Мораў, маўклівы больш звычайнага, перакульвае кілішак за кілішкам, амаль не закусваючы. Вельмі хутка яна сказала:

— Трэба нам ужо дамоў, тым больш што Лёшка спіць, а мужчыны нашы ўжо «цёпленькія».

Зяць паспрабаваў быў пратэставаць, але Мораў у знак згоды з жонкай кіўнуў галавой:

— Час...

На вуліцы яна не спытала ў яго, што з ім здарылася. Мораў, адышоўшы літаральна некалькі крокаў ад дома дачкі, сказаў:

— Я выпадкова даведаўся, што Маша ляжыць у анкалагічнай клініцы, і аднёс ёй апельсінаў. Трэба ж праведаць чалавека. Калісьці былі добрымі знаёмымі...

Апошнія словы Морава гучалі як апраўданне. Насупраць яго волі. Ён ведаў, што скажа жонцы пра сустрэчу з Машай (ён ніколі не маніў ёй), і вось сёння віно развязала яму язык.

Лідзія Пятроўна не стала дапытвацца ў мужа, аб якой Машы ідзе гаворка. Нягледзячы на тое, што ўжо шмат гадоў яны не называлі гэтае імя, Лідзія Пятроўна вельмі добра памятала яго.

Дома Мораў сам зрабіў кофе і, усадзіўшы супраць сябе Лідзію Пятроўну, доўга гаварыў. Нязвыкла, нязвязна, блытана.

— Я яе вельмі любіў, Ліда. Але не падумай, што шкадую, бачачы перад сабой не яе, а цябе... Прабач, што я так гавару. Старымі мы становімся, вось і робяцца ўспаміны аб маладосці вельмі хваравітымі. Ты толькі не хавай крыўду, прашу цябе.

— Усё правільна,— сказала Лідзія Пятроўна.— Ты павінен праведаць яе.

І тут толькі Мораў заўважыў, што вочы жончыны, вялікія, ясныя, такія ж, як у маладосці, набрынялі стомленасцю, як апалае асенняе лісце.

— Пойдзем адпачываць, Ліда,— сказаў Мораў.

Увесь наступны дзень у Морава прайшоў у клопатах і перажываннях. Клопаты зноў-такі звязаны з дастаўваннем апельсінаў, Мораў не хацеў больш звяртацца за дапамогай да Галачкі Мікалаевай, і, на вялікае шчасце, ён нарваўся на апельсіны ў гастраноме каля свайго інстытута. Перажываў Мораў ад таго, што яшчэ не ўбачыў Машу, а расказаў пра ўсё жонцы, нанёсшы ёй, відаць, сваімі словамі вельмі адчувальны боль.

У чатыры гадзіны дня Мораў сеў у «Волгу», узятую ў дырэктара інстытута, і спытаў у шафёра:

— Ты ведаеш, дзе анкалагічная клініка?

Было ўжо дзевяць вечара, калі ў пярэдняй пачуўся званок. Лідзія Пятроўна адразу пазнала — Мараў. Яго званок — рэзкі, вельмі кароткі.

Муж з'явіўся перад ёю прамоклы, быццам яго ў рэчцы акунулі... Капялюш быў пакамечаны і дзіўна выгнуты, па твары яшчэ сцякалі струменьчыкі каламутнай вады. У руцэ Мараў трымаў такі ж прамоклы кулёк.

— Што здарылася? — спытала Лідзія Пятроўна.

— Усё скончана, яна выпісалася. Яе больш там няма,— выдыхнуў Мараў і, павольна зняўшы паліто, капялюш, пайшоў да сябе ў пакой.

Лідзія Пятроўна засталася ў вялікім пакоі, вырашыўшы не турбаваць яго. «Ну і слава богу, што яе там няма»,— падумала яна і раптам устрывожылася: «А што, уласна, скончана?!»

# Пасля аперацыі

Вашкевіч атрымаў пісьмо. Пісьмо ў звычайным, крыху пакамечаным канверце. Само пісьмо таксама было трохі пакамечана, быццам яго доўга цягалі ў кішэні, перш чым адправіць. У пісьме было ўсяго некалькі слоў: «Прыехаў у камандзіроўку. Жыву ў гасцініцы «Мір», корпус першы, пакой 433. Калі будзе жаданне, зайдзі. Бацька».

А крыху ніжэй адарваныя ад астатняга тэксту два словы: «Вельмі прашу».

Пісьмо Вашкевіч прачытаў у тралейбусе. Было халаднавата, але ён адчуў, што імгненна ўзмакрэў. Другі раз ён прачытаў пісьмо ўжо ў клініцы, ідучы па доўгім калідоры. Яму было дваццаць шэсць гадоў. Год назад ён скончыў медыцынскі і стаў хірургам. Ні разу за ўвесь час ён не вымавіў слова «бацька». Яго бацька быў жывы. Пасля таго як ён разышоўся з маці, ён не адразу з'ехаў з іх горада, а жыў са сваёй новай жонкай непадалёк. Бабуля Зінаіда, калі яшчэ была жывая, расказвала ўнуку, што бацька часцяком сустракаў сына на вуліцы, у булачнай, але ні разу не падышоў, а наадварот, імкнуўся адвесці вочы і спяшаўся пайсці. Бабка ненавідзела бацьку Вашкевіча. Ёй вельмі хацелася, каб і ўнук гэтак жа ненавідзеў яго. Слова «бацька» гучала для Вашкевіча як чужое і абыякавае. Праўда, і бабцы і маці хацелася, каб ён называў так свайго айчыма, чалавека добрага і паважанага ўсімі. Ён нічога заганнага ў ім не бачыў. Але называць бацькам Вашкевіч не хацеў. Нешта незра-

зумелае для яго самога перашкаджала яму сказаць гэтае слова. Маці свайго першага мужа ніколі не ўспамінала, часам толькі яна не вытрымлівала і гаварыла: «У бацьку ўвесь пайшоў, нават і кропачкі падабраў». Шкодлівы хлопчык апускаў вочы і думаў: колькі ж нарабіў зла гэты чалавек, ягоны бацька, калі маці заўсёды параўноўвае яго з ім.

Хірург Вашкевіч, імкнучыся прывесці свае думкі хоць у які-небудзь парадак, павольна ішоў па клініцы. Ён зайшоў у кабінет да шэфа — прафесара Шышова. Прафесар сядзеў за сталом і перагортваў паперы. Ён заўсёды рабіў сабе пісьмовыя накіды перад кожнай аперацыяй. Вашкевіч сеў у крэсла насупраць і закурыў.

Прафесар глянуў на яго і спытаў:

— Як, калега, форма сёння?

Прафесар кожны раз задаваў гэта пытанне перад аперацыяй. І не дзеля адной цікавасці. Ён яшчэ студэнту Вашкевічу, якога адразу запісаў у свае будучыя вучні, казаў, што, апрача ўсяго іншага, галоўнае перад аперацыяй — добрая форма. Накшталт спартыўнай. Быццам перад выхадам на памост (прафесар у маладосці лічыўся нядрэнным вагавіком). Калі не пераадолееш вагу ў думках, калі адчуваеш няўпэўненасць і страх, на памост не выходзь. У такіх выпадках не трэба браць скальпель у рукі. Калі нават аперацыя і безнадзейная (бывае і такое), нічога не мянялася ў формуле прафесара. Яны робяць незвычайныя аперацыі. На сэрцы... Кожны дзень... Клініка спецыялізаваная. Лечыць толькі пацыентаў з прыроджанымі парокамі. Пацыентаў з маленькімі дзіцячымі сэрцамі...

Вашкевіч не адказаў прафесару. Шышоў усё гартаў і гартаў свае запісы.

— Ну? — зноў запытаў прафесар.— Як форма?

— Як заўсёды.

# Пасля аперацыі

Вашкевіч атрымаў пісьмо. Пісьмо ў звычайным, крыху пакамечаным канверце. Само пісьмо таксама было трохі пакамечана, быццам яго доўга цягалі ў кішэні, перш чым адправіць. У пісьме было ўсяго некалькі слоў: «Прыехаў у камандзіроўку. Жыву ў гасцініцы «Мір», корпус першы, пакой 433. Калі будзе жаданне, зайдзі. Бацька».

А крыху ніжэй адарваныя ад астатняга тэксту два словы: «Вельмі прашу».

Пісьмо Вашкевіч прачытаў у тралейбусе. Было халаднавата, але ён адчуў, што імгненна ўзмакрэў. Другі раз ён прачытаў пісьмо ўжо ў клініцы, ідучы па доўгім калідоры. Яму было дваццаць шэсць гадоў. Год назад ён скончыў медыцынскі і стаў хірургам. Ні разу за ўвесь час ён не вымавіў слова «бацька». Яго бацька быў жывы. Пасля таго як ён разышоўся з маці, ён не адразу з'ехаў з іх горада, а жыў са сваёй новай жонкай непадалёк. Бабуля Зінаіда, калі яшчэ была жывая, расказвала ўнуку, што бацька часцяком сустракаў сына на вуліцы, у булачнай, але ні разу не падышоў, а наадварот, імкнуўся адвесці вочы і спяшаўся пайсці. Бабка ненавідзела бацьку Вашкевіча. Ёй вельмі хацелася, каб і ўнук гэтак жа ненавідзеў яго. Слова «бацька» гучала для Вашкевіча як чужое і абыякавае. Праўда, і бабцы і маці хацелася, каб ён называў так свайго айчыма, чалавека добрага і паважанага ўсімі. Ён нічога заганнага ў ім не бачыў. Але называць бацькам Вашкевіч не хацеў. Нешта незра-

зумелае для яго самога перашкаджала яму сказаць гэтае слова. Маці свайго першага мужа ніколі не ўспамінала, часам толькі яна не вытрымлівала і гаварыла: «У бацьку ўвесь пайшоў, нават і кропачкі падабраў». Шкодлівы хлопчык апускаў вочы і думаў: колькі ж нарабіў зла гэты чалавек, ягоны бацька, калі маці заўсёды параўноўвае яго з ім.

Хірург Вашкевіч, імкнучыся прывесці свае думкі хоць у які-небудзь парадак, павольна ішоў па клініцы. Ён зайшоў у кабінет да шэфа — прафесара Шышова. Прафесар сядзеў за сталом і перагортваў паперы. Ён заўсёды рабіў сабе пісьмовыя накіды перад кожнай аперацыяй. Вашкевіч сеў у крэсла насупраць і закурыў.

Прафесар глянуў на яго і спытаў:

— Як, калега, форма сёння?

Прафесар кожны раз задаваў гэта пытанне перад аперацыяй. І не дзеля адной цікавасці. Ён яшчэ студэнту Вашкевічу, якога адразу запісаў у свае будучыя вучні, казаў, што, апрача ўсяго іншага, галоўнае перад аперацыяй — добрая форма. Накшталт спартыўнай. Быццам перад выхадам на памост (прафесар у маладосці лічыўся нядрэнным вагавіком). Калі не пераадолееш вагу ў думках, калі адчуваеш няўпэўненасць і страх, на памост не выходзь. У такіх выпадках не трэба браць скальпель у рукі. Калі нават аперацыя і безнадзейная (бывае і такое), нічога не мянялася ў формуле прафесара. Яны робяць незвычайныя аперацыі. На сэрцы... Кожны дзень... Клініка спецыялізаваная. Лечыць толькі пацыентаў з прыроджанымі парокамі. Пацыентаў з маленькімі дзіцячымі сэрцамі...

Вашкевіч не адказаў прафесару. Шышоў усё гартаў і гартаў свае запісы.

— Ну? — зноў запытаў прафесар.— Як форма?

— Як заўсёды.

Але ж на гэты раз ён схлусіў прафесару.

Аперацыя прызначана на дзесяць. Засталося паўгадзіны. Вашкевіч ведаў — прафесар сёння хвалюецца. Выпадак не такі і просты. Машына будзе замяняць сэрца сорак мінут. Гэта многа. Такога выпадку ў практыцы прафесара не было. У яго, Вашкевічавай, практыцы і тым больш.

— Паглядзі на здымак,— прапанаваў прафесар.— Звярні ўвагу на левы мяшэчак.

Вашкевіч паднёс рэнтгенаўскі здымак да акна. Мяшэчак задужа вялікі. Правы быццам да яго прыклееены. Вашкевіч уявіў, як цяжка, пакутліва перапампоўвае сэрца кроў у пяцігадовага Сашкі. Без аперацыі яму не жыць.

Сам Вашкевіч моцна хварэў у дзяцінстве. Час быў такі. Ён, хутчэй за ўсё, не выжыў бы ці, ва ўсякім разе, не павінен быў выжыць. Маці і бабка правялі каля яго шмат бяссонных начэй...

Ён паклаў здымак і зірнуў за акно. Некалькі мужчын і жанчын сядзелі на лаўках ля дрэў. У кожнага на душы адно — страх перад тымі хвілінамі, калі надыдзе аперацыя. Сёння, як і заўсёды, у клініцы шмат аперацый. Бацькі чакаюць. Вашкевіч зрабіў спробу вылучыць бацькоў Сашкі — іхняга сённяшняга пацыента. З вышыні восьмага паверха не бачны твары. Але ён ведаў — яны зараз там, унізе. І заўтра прыйдуць, і паслязаўтра... Колькі ўжо бачыў Вашкевіч гэтых людзей за год працы з прафесарам... Яны пасля віталіся з ім у тралейбусе, у тэатры.

Ён пытаўся:

— Ну, як ваш сынок?..

Твары Вашкевіч запамінаў дрэнна і не ведаў, чые гэта бацькі. Яны казалі самі, што мой Сашанька ці мая Волечка адчуваюць сябе добра...

Прафесар падняўся і сказаў:

— Пайшлі, Мікола... Пасля аперацыі...— ён не дагаварыў: мусіць, гэтае «пасля» здавалася яму і далёкім і няпростым.

Яны ўвайшлі ў аперацыйную. Здаўна знаёмы малюнак. Белыя халаты сясцёр, твары студэнтаў за шкляным каўпаком уверсе, машына ў кутку — нагрувашчванне трубачак і трубачак... Сорак мінут яны будуць перапампоўваць кроў Сашкі, пакуль яго сэрца будзе прыводзіцца, паводле слоў Шышова, «у нармальны стан». Зараз Сашку прывязуць. Ужо вязуць. Яны яшчэ раз збяруцца з думкамі. Прафесар і яго асістэнт Вашкевіч. Засяроджаныя вочы прафесара ў чорнай акантоўцы акуляраў...

Кароткі позірк Шышова: «Пачалі, Мікола...»

Магчыма, гэта і на самай справе працягвалася толькі сорак мінут. Але для іх аперацыя была вечнасцю. Некалькі разоў асістэнт Вашкевіч адчуваў разгубленасць. Ён глядзеў на Шышова, на кроплі поту вакол яго вачэй. Разгубленасці на твары Шышова не было...

Шышоў адсунуў убок апошні скальпель. Ён гулка бразнуў у стамляльнай цішыні. Спынілася кроў у трубках.

Яны выйшлі з аперацыйнай, прайшлі доўгі калідор, спусціліся ў кабінет прафесара.

— Слухай, Мікола, давай купім Сашку машыну. Ёсць зусім як сапраўдныя,— сказаў раптам Шышоў, калі яны паселі ў крэслы.— Сігналіць, фары свецяцца. Уяўляеш, як ён будзе рады?!

— Вам так думаецца...

Прафесар зразумеў яго з паўслова:

— Тады якога чорта мы з табой пацелі...

Ён змоўк і стаў чакаць званка. Яго не было, і

яны амаль драмалі ў крэслах. Прынеслі чорны кофе. Ён крыху заспакоіў. Вашкевіч успомніў пра пісьмо і пра сваю слабасць перад аперацыяй. Ён дакладна ўявіў, як яму ўдалося пазбавіцца гэтага непрыемнага адчування.

Шышоў паглядзеў на гадзіннік. Вашкевіч таксама.

— Не звоняць і не трэба! — сказаў Шышоў.— І добра, што не звоняць. Гэта ўжо вельмі добра, вельмі нават...

Цяпер ім засталося прабавіцца ў клініцы яшчэ некалькі гадзін. А каля Сашкі будуць дзяжурыць цэлыя суткі. Калі яны будуць патрэбны — у хаце празвініць званок з клінікі і спыніцца праз некалькі мінут ля пад'езда машына.

У клініцы яны прабылі да позняга вечара. Сашку час ад часу рабілася зусім дрэнна. Яму давалі кісларод і рабілі ўколы. Аперыраваць не прыйшлося. Прафесар выслухаў пульс і зморана ўсміхнуўся.

Калі яны выходзілі за вароты клінікі, Шышоў сказаў:

— Сёння будзем спаць спакойна. Вось пабачыш — не пазвоняць.

Яны развіталіся. Зараз Вашкевіч апынецца ў холе гасцініцы, падымецца на чацвёрты паверх. Яны сустрэнуцца. Вашкевіч страшыўся ўзяць пад сумненне свае ранейшыя адносіны да бацькі (усё ж у яго склаліся гэтыя адносіны). Ён жа мог аказацца і зусім іншым, не падобным на таго чалавека, пра якога ён не чуў ніводнага добрага слова. З чаго пачнецца іх размова? Бацька нічога не ведае пра яго. Ён скажа яму: «Я стаміўся. Сёння ў нас цяжкая аперацыя». «Якая?» — спытае бацька. Ён, Вашкевіч, адкажа: «На сэрцы».

Ён падышоў да гасцініцы. Шкада, што яны не паспеюць пагаварыць як след — магчымы званок з клінікі. Але заўтра ён мае вольны вечар.

Ён адшукаў на дзвярах маленечкі званок. Цішыня за дзвярыма. Яшчэ званок, і зноў цішыня. Вашкевіч яшчэ некалькі разоў націскаў на кнопку і сабраўся ўжо было ісці, як яго паклікалі. Да яго падышла дзяжурная па паверху:

— Вы да Вашкевіча?

— Так.

— Вы Мікола?

— Так, гэта я...

— Ён ужо тут не жыве. Прасіў вось вам перадаць,— яна аддала яму канверт.

Ён адкрыў яго не адыходзячы. Знаёмым почыркам было напісана: «Ты прабач, што так атрымалася. Камандзіроўка скончылася раней, чым я думаў. Я пастараюся прыехаць у ваш горад яшчэ. Мы ўбачымся. Вашкевіч».

Вашкевіч-малодшы схаваў запіску ў кішэню.

Дома ён спытаў маці:

— Мне не званілі?

— Не.

Вашкевіч набраў нумар тэлефона.

— Што з Сашкам?

Яму адказалі, што ўсё добра. Ён прайшоў у пакой і, не распранаючыся, лёг на тахту.

— Ты вельмі дрэнна выглядаеш,— сказала маці.— Што з табою?

— Стаміўся вельмі. Цяжкая аперацыя.

— А хто гэты Сашка?

— Дзіця, якому трэба наша дапамога.

# Сюжэт

Ён уварваўся ў пакой, маршчыністы, змоклы пад зацятым дажджом, з несусветна старым чамаданам у руках, падаў руку:

— Халмякоў Васіль Сяргеевіч.

Словы гэтыя ён вымавіў прыўзнята, прыкметна хвалюючыся. Потым працягваў:

— Я ведаю, што вы пішаце. Даведаўся я пра гэта і сказаў сястры-гаспадыні: можа, іншы пакой дадзіце, што ж я чалавеку буду перашкаджаць у працы? А яна: маўляў, усё занята... Можа, і хлусіць, але як я праверу... І вось я тут. Толькі не думайце, перашкаджаць вам не буду. Мне, галоўнае, лясным паветрам надыхацца і прымаць працэдуры...

Седзячы за сталом, я адчуваў яго напружаны позірк, што амаль упіваўся мне ў спіну.

Паветрам ён дыхаў рэдка. Ліў дождж, ад зямлі патыхала вясновай гнілізной, і ён, худы, даўжэзны, укрываўся дзвюма коўдрамі і моўчкі ляжаў. Часам ён засынаў, і тады я чуў, як ён ціха сапе, быццам побач у пакоі спіць дзіця. Прасынаючыся, Халмякоў уставаў і крочыў на дыбачках, баючыся перашкодзіць мне.

Праз некалькі дзён выглянула сонца, і ўсе мае планы праваліліся. Пісалася дрэнна, і я разарваў на шматкі цэлы пачак паперы. Мы гулялі з Халмяковым па доўгіх алеях, збіралі ў лесе шышкі.

— Як гэта вы пішаце? — шчыра здзіўляўся ён.— Вось я чамусьці не прыдумаў ніводнага сюжэта.

А ў вас людзі гавораць, кахаюць, паміраюць, нараджаюцца... Вось цікава!

Я даведаўся тое-сёе пра яго — жонкі няма, даўно ўжо няма. Яшчэ з вайны прычапілася да яе цяжкая хвароба і ў рэшце рэшт давяла да магілы. Дзяцей ён сам гадаваў як мог, а выгадаваў — убачыў, што яго намаганні былі амаль дарэмнымі. І нават прыблізна не атрымалася з іх тое, чаго яму хацелася, да чаго імкнулася душа. Чужыя яны і паміж сабою, ды і яму, калі разабрацца, чужыя. Ён з апошніх сіл імкнуўся не звяртаць увагі на гэтыя свае думкі, але яны ўпарта лезлі ў галаву, выклікалі боль у сэрцы.

Халмякоў паслухмяна хадзіў на працэдуры, плаваў у басейне і рабіў раніцою лячэбную фізкультуру. Па вечарах ён стаў знікаць з пакоя і ўжо не клікаў мяне на прагулкі, што мяне, па сутнасці, толькі радавала — упершыню за доўгі час работа пайшла як мае быць.

Аднойчы ў час вячэры я сказаў:

— Давайце мы, Васіль Сяргеевіч, парушым рэжым. Я маю некалькі бутэлек добрага віна. Хочацца даць сабе разрадку, а ў адзіночку ўзяць чарку так і не навучыўся.

Ён сумеўся, не данёсшы відэлец да рота:

— Я, вядома, з прыемнасцю... Ды і боль у сэрцы зменшыўся... Але...

Шукаючы патрэбнае слова, ён пачаў аглядацца па баках, быццам нехта мог яго пачуць.

Ён дапіў кампот, выцер вусны сурвэткай.

— Як бы вам сказаць... Я буду заняты...

І тут я зрабіў глупства:

— Ясна, Васіль Сяргеевіч, курортны раман...

Халмякоў відавочна пакрыўдзіўся. Мы выйшлі са сталоўкі і пашыбавалі па алеі. Ён пакашліваў і глядзеў прама перад сабою.

— Прабачце, Васіль Сяргеевіч, за няўдалы жарт. Я не хацеў вас пакрыўдзіць.

Ён замахаў рукамі:

— Не спяшайцеся прасіць прабачэння. Ды я і не пакрыўдзіўся. Проста, раней вам расказаць хацеў, вось ужо некалькі дзён, як хацеў, але ўсё язык не паварочваўся, а вы мне яго самі развязалі...

Мы выйшлі да маленькага азярка. Яго нерухомая роўнядзь сфатаграфавала голыя галінкі дрэў, аблокі ў небе.

— На працэдурах я пазнаёміўся з адной жанчынай. Паверце, яна вельмі сімпатычная. І лёс амаль такі ж, як у мяне.

Ён выдыхнуў гэта адным духам, быццам баючыся, што я перапыню яго.

— Вось і добра. Я вельмі рады за вас,— сказаў я.— Прыходзьце разам з вашай знаёмай да нас, і мы адзначым ваша знаёмства.

Увечары яны сядзелі насупраць мяне, аднолькава склаўшы рукі на каленках.

Мы пілі віно, размаўлялі аб умовах на мясцовым курорце, лячэнні сардэчна-сасудзістых захворванняў, надвор'і. Мае знаёмыя выглядалі шчаслівымі і не саромеліся ўсміхацца адно аднаму.

Потым яны пайшлі ў кіно, а я да поўначы сядзеў за сталом. Пісалася лёгка і радасна, быццам яны здолелі наэлектрызаваць сваім настроем, адчуваннем і мяне.

Вярнуўся ён позна. Па ўсім яго выгляду я вызначыў: ён спяшаецца паведаміць мне пра нешта вельмі важнае.

— Вы ведаеце, гэта можа здацца дзіўным, але я ўжо не адзінокі.

— Вось вы самі і прыдумалі сюжэт. Мне застаецца толькі запісаць яго,— сказаў я.

## ЗМЕСТ

Кацюшэнка М.
К 29 Адзін дождж на ўсіх: Апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1979—176 с.

Новую кніжку Міхася Кацюшэнкі «Адзін дождж на ўсіх» склалі апавяданні. У цэнтры ўвагі аўтара нашы сучаснікі — рабочыя, студэнты, творчая моладзь. Большасць апавяданняў пра няпростыя і нялёгкія адносіны паміж людзьмі, пра станаўленне характараў маладых.

К $\frac{70303-162}{М\ 302(05)-79}$ 10—79 ББК 84 Бел 7
Бел 2

Михаил Петрович Катюшенко
ОДИН ДОЖДЬ НА ВСЕХ
*Рассказы*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Г. Б. Нужкова
Мастак Н. Л. Шаўшукова
Мастацкі рэдактар А. І. Труханава
Тэхнічны рэдактар З. Г. Сень
Карэктар Я. А. Бебель
ІБ № 296

Здадзена ў набор 07.06.79. Падп. да друку 28.08.79. АТ 01240. Фармат 70×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 7,1. Ул.-выд. арк. 6,83. Тыраж 6000 экз. Зак. 2262. Цана 50 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Чырвоная, 23.